// Лідскі Летапісец

Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 1 ( 21 ) СТУДЗЕНЬ - САКАВІК 2003 г.

## У НУМАРЫ:



## Ліздзейка з-над Лідзейкі



Ліздзейка

*Аднойчы на паляванні князь Гедзімін знайшоў у арліным гняздзе малога хлопчыка. Яго назвалі Ліздзейкам. (Lizdas па-балцку - гняздо). Пазней Ліздзейка стаў галоўным вешчуном ВКЛ. Зусім верагодна, што назва горада Ліда паходзіць ад гэтага слова Lizdas.*

**Раз у пушчу, за даліну**
**На краі Дайновы**
**Почат князя Гедзіміна**
**Выехаў на ловы.**

**І на дубе, на высокім,**
**Між крывых галінаў**
**Нешта ім упала ў вока**
**На гняздзе арліным.**

**Князь паслаў туды пахолка,**
**І ён з дуба тога**
**Ўніз даставіў спрытна-лоўка**
**Хлопчыка малога.**

**- Бачыш ты, як ён высока**
**Ўжо "ўзляцеў" з радзінаў,**
**Будзе шлях яму далёкі**
**Побач з Гедзімінам...**

**А з таго, што на гняздзе тым**
**Хлопца адшукалі,**
**Імя простае Ліздзейка**
**Ўраз яму надалі.**

**І мясціну тую Ліздай**
**Нараклі адразу,**
**Праз гады тут стане Ліда**
**З вышняй волі князя.**

**А пасля пачнуць калейкай**
**Баяць казкі людзі...**
**... Пра Ліздзейку з-над Лідзейкі**
**Згадкі ў іх не будзе.**

***Станіслаў Суднік.***





**Вялікі князь Гедзімін - заснавальнік горада Ліды і Лідскага замка**

# Лідскі Летапісец

Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс

№ 1 ( 21 ) СТУДЗЕНЬ - САКАВІК 2003 г.


# Яшчэ адна версія паходжання назвы горада Ліды

Многім даследчыкам гісторыі горада Ліды не дае спакою сугучча назвы лідскай рэчкі Лідзейкі і імені вярхоўнага вешчуна (крыве-крывейта) часоў Гедзіміна Ліздзейкі, тым больш, што заснаванне Лід-скага замка і Ліды звязана менавіта з Гедзімінам.

Як вядома, Гедзімін знайшоў маленькага будучага вешчуна ў арліным гняздзе. Адбылося гэта недзе ў канцы 13-га- пачатку 14-га стст., таму што Ліздзейка быў равеснікам Альгерда, які нара-дзіўся ў1296 годзе.

Назвалі знайдыша **Ліздзей-кам** ад балцкага слова **lizdas (ліз-дас),** што значыць **гняздо**. У славян-скім вымаўленні канцавое ***с*** адпа-дала адразу і заставалася **Лізда**. Зусім верагодна што назву **Лізда** атрымала бліжэйшая да гэтага месца вёска, або назву **Лізда** атры-мала само месца, а ад назвы месца ўжо пачало звацца паселішча, якое неўзабаве тут узнікла.

На той час правабярэжжа Дзітвы насяляла славянізаванае яцвяжскае племя Дайнава. Ужо мабыць дайнаўцы распарадзіліся літарай ***з*** і пакінулі мілагучную, прыгожую і зразумелую назву ***Ліда.***

Адну з рэчак, на беразе якой размясцілася Ліда, назвалі ***Лідзей-кай*** ужо ад назвы горада. Калі бывала наадварот і рэчка давала назву гораду, то тады горад меў іншую форму назвы зканчаткам на ***-ск, (-цк)***. На Піне ўзнік Пінск, на Палаце - Полацк, на Друі - Друцк і г. д. У той жа час рэчкі Гараднічанка, Валожынка, Гавяз-нянка і шмат іншых узялі свае назвы ад населеных пунктаў, праз якія цякуць.

Калі пагадзіцца з тым, што назва Ліды паходзіць ад слова **ліздас (гняздо),** то гэтая назва мае непасрэднае дачыненне да Гедзі-міна, і ў заслугу князю мы можам прыпісаць або заснаванне пасе-лішча з назвай **Ліда**, або наданне гэтай назвы ўжо існаваўшаму паселішчу. У любым выпадку бу-дучая пабудова замка планава-лася не на пустым месцы, а на фактычнай радзіме вярхоўнага вешчуна, і, хто ведае, магчыма не апошняе значэнне ў выбары Ліды для пабудовы тут вялікакняскага замка мела слова крыве-крывейта Ліздзейкі. Замак будаваўся для аховы яго радзімы. Раней неадна-разова даводзілася, што і сам Гедзі-мін паходзіў з Дайнавы, а значыць замак будаваўся і для абароны вялікакняскага клану.


ПАСВЕДчАННЕ АБ РЭГІСТРАЦЫІ Ґ 1342

ЗАСНАВАЛЬНІК І НАВУКОВЫ КАНСУЛЬТАНТ
**Валеры Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук

РЭДАКТАР
**Станіслаў Суднік**

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
231300, г. Ліда, вул. 1-я Навапрудская, д. 61
E-mail: ns@lida1.lingvo.grodno.by

**Наклад 350 асобнікаў**

Часопіс надрукаваны ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская - 23.

Часопіс падпісаны да друку 10. 07. 2003 г. Замова № 1721. Падпісны індэкс 00257
Кошт падпіскі:
індывід. 3 мес.- 1150 руб.
індывід. 6 мес.- 2300 руб.
Кошт у розніцу: вольны

Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў




Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: Ліда-2, п/с 7, або перадаваць у рэдакцыю.

# ХРОНІКА ЛІДЫ

**16 студзеня адбылося афіцыйнае адкрыццё будынка Лідскага гарадскога аддзела “Ахова” пры МУС Рэспублікі Беларусь**



**Будынак Лідскагагарадскога аддзела “Ахова”**



**Новы мікрараён у Феліксаве**

**У пачатку 2003 года ў в. Феліксава Лідскага раёна заселены новы мікраараён з 15 двухкватэрных дамоў**

**24 студзеня 2003 года Валеры Дзікевіч, які нарадзіўся ў в. Сялец Лідскага раёна, стаў лаўрэатам Грамадскай прэміі прафесійнага прызнання “Лепшыя пёры Расіі”**





**Валеры Дзікевіч**



**Касцёл Св. Пятра і Паўла ў Ражанцы**
**Паштоўка па здымку Аляксандра Колышкі**

**У лютым 2003 года ў Польшчы выйшаў камплект немаркаваных паштовак (10 шт.) з краявідамі і помнікамі архітэктуры ды гісторыі з абсягаў былога Лідскага павету паводле здымкаў лідскага фотамастака Аляксандра Колышкі**

**У лютым 2003 года ў Беластоку выйшла новая кніга Сяргея Астраўцова “Лісты да хома саветыкуса”**







2 і 16 сакавіка прайшлі выбары ў мясцовыя саветы дэпутатаў у Лідзе і Лідскім раёне



**Валеры Кучынскі**

19 сакавіка на 1-й сесіі Лідскага гарадскога Савета чарговага склікання новым старшынём гарсавету абраны Валеры Аляксандравіч Кучынскі



**Аляксандр Караткоў**

21 сакавіка лідзяніну, дацэнту Лідскай філіі Беларускага цэнтра перападрыхтоўкі і працаўладкавання вайскоўцаў запасу Аляксандру Віктаравічу Караткову нададзена навуковая ступень кандыдата эканамічных навук

# Кроніка айкумены

Лідскі гістарычны каляндар

## студзень – сакавік

**1323 год. Пачатак будаўніцтва Лідскага замка. Заснаванне горада Ліды.**

**1433 год, 1 студзеня.** Кароль Ягайла сваім актам пацвердзіў умовы уніі паміж Польшчу і ВКЛ. Князь Жыгімонт прызначаны Вялікім князем літоўскім пажыццёва, пасля яго смерці ВКЛ пераходзіла Ягайле або яго права-пераемніку на польскім троне.

**1633 год, 28 лютага.** Кароль Уладзіслаў Ваза выдаў лідскім яўрэям прывілей, якім дазволіў адрамантаваць старую сінагогу і пабудаваць другую новую сінагогу з умовай, каб яна не перавышала касцёл і царкву.

**1763 год, 12 студзеня.** Кароль Аўгуст ІІІ сваім прывілеем пацвердзіў фундуш Ігнацыя і Марыянны Сцыпіёнаў, дадзены ў 1757 г. Лідскаму піярскаму клештару.

**1773 год, 20 студзеня.** Граф Татлебен сваім універсалам прасіў жыхароў Лідскага павету прыняць на сябе пастаўку прадуктаў для рускіх салдатаў.

**15 лютага.** Граф Татлебен на свой універсал атрымаў згоду.

**1793 год. 18 студзеня.** Секвестраваны асабісты двор лідскага старасты Язэпа Сцыпіёна дэ Кампа і пературараваны ў вайсковы магазін (склад).

**23 студзеня**. Другі падзел Рэчы Паспалітай. Пецярбургская канвенцыя Расіі і Прусіі.

**Люты.** Паўторная прымусовая канфіскацыя прадуктаў і жывёлы ў Дворышчах, Дзітрыках, Няцечы, Голдаве для ўтрымання расійскага войска.



**Мацей Стрыйкоўскі (1547-1590), гісторык і паэт. Першыму гістарыяграфіі назваў 1323 год годам заснавання Лідскага замка.**

**1813 год, 3 лютага.** Указ Аляксандра І аб арганізацыі шпіталяў і вайсковых магазінаў (складоў) пры ваенных дорогах. Дарога з Менска на Горадню цераз Беліцу атрымала сёмы нумар.

**5 лютага.** Указ Аляксандра І генералу ад інфантэрыі Д. І. Лабанаву-Растоўскаму аб фармаванні Рэзервовай Арміі. Прастора для яе размяшчэня: паміж Горадняй, Лідай, Менскам, Ігумнам, Слуцкам, Пінскам, Ковелем, Люблінам, Венеравым, Астраленкам і Шчучынам. У Беліцы са студзеня 1813 г. па люты 1814 г. працавала камісарыяцкая камісія якой кіраваў Сяргей Львовіч Пушкін, бацька вялікага рускага паэта А. С. Пушкіна. У задачу камісіі ўваходзіла забеспячэнне вайсковымі грузамі Рэзервовай арміі Лабанава-Растоўскага.

**1843 год. 7 студзеня.** Апублікаваны Указ аб рэарганізацыі губерняў. У Віленскай губерні аказаліся наступныя паветы: Ашмянскі, Вілейскі, Віленскі, Дзісненскі, Лідскі, Свянцянскі, Трокскі. У Гарадзенскай - Беластоцкі, Бельскі, Берасцейскі, Ваўкавыскі, Гарадзенскі, Кобрынскі, Пружанскі, Слонімскі, Сакольскі.

**1853 год.** Лісты з Ліды пачалі кляйміцца рамачным штэмпелем з перавадной датай.

**1863 год. 20 студзеня (2 лютага).** Літоўскі правінцыйны камітэт,



**Сяргей Львовіч Пушкін**



Кастусь Каліноўскім, кіраўнік Часовага ўраду Літвы і Беларусі падчас паўстання 1863 г.

ператвораны ў Часовы ўрад Літвы і Беларусі начале з К. Каліноўскім, выдаў маніфест з заклікам да насельніцтва краю ўсімі сіламі падтрымаць паўстанне ў Польшчы.

**13 (25) лютага.** Ганец прывёз Л. Нарбуту загад з Вільні аб прызначэнні яго вайсковым начальнікам Лідскага павету. Людвік і яго брат Баляслаў, Уладзіслаў Пілецкі і 5 сялян склалі першы паўстанцкі аддзел на тэрыторыі Літвы і Беларусі.

**25 лютага (9 сакавіка)**. Першая сутычка пад Руднікамі аддзела Л. Нарбута з царскімі войскамі. Пасля сутычкі да аддзела далучылася група моладзі з Вільні з 27-гадовым мастаком Міхалам Эльвіра Андрыёлі.

**30 сакавіка (11 красавіка).** Бой аддзела Л. Нарбута с расійскай часткаю каля фальварка Глямбокі. У расійскіх салдатаў забіта 2 і паранена 5 чалавек, у поўстанцаў забіты 1 і паранена 5.

**1883 год, 14 лютага.** Імператор Александр III "соизволил повелеть Министру путей сообщения приступить безотлагательно к постройке Вильно-Ровенской ж. дороги с веткой к Пинску и соединительными ветвями к соседним дорогам"

**1913 год, 31 января.** Княгіня Вільгельміна Іванаўна Сайн-Вітгенштэйн цераз паверанага Вальдэмара Гросмана прадала селяніну Ігнацыю Фёдаравічу Анацку з в. Дакудава 3 дзесяціны 1744 кв. сажняў зямлі ва ўрочышчы Прорва ля рэчкі Стары Нёман за 875 рублёў.

**1923, пачатак.** Канферэнцыя пслоў краін Антанты прыняла рашэнне пакінуць Віленскі край Польшчы.

**15 сакавіка.** Заходнія дзяржавы зацвердзілі ўсходнюю мяжу Польшчы, прызнаўшы Усходнюю Галіцыю і Віленшчыну польскімі.

**1933 год, пачатак.** Кошт маёмасці Лідскага магістрата ацэньваўся ў 5 млн. злотых, запазычанасці складалі 2342262 злотых.




Мемарыяльная дошка на Лідскім вакзале на памяць лідскіх падпольшчыкаў, якія дзейнічалі на Лідскім чыгуначным вузле

**1933 год, сакавік.** Асвечаны званы касцёла на Слабадзе: самы большы імем Св. Паўла, сярэдні - імем Св. Станіслава, маленькі - імем Святого Іосіфа.

**1943 год, студзень.** На Лідчыну закінута група В. А. Рыбиноўскага.

**8 лютага.** Арыштованы В. І. Пятроўскі. Яго выдаў ваеннапалонны В. Мардвінкін. В. Г.Кіян, І. В. Туруткін, І. І. Віннічак пайшлі ў партызанскі аддзел.

**Люты.** Аляксандр Клімко і Лёня Халявінскі ўзарвалі бензасклад.

**1 сакавіка.** Пры ўзброеным сутыкненні партызан брыгады імя Варашылава з акаўцамі ў раёне в. Цацкі загінуў партызан-беларус. В. І. Пятроўскі з дапамогай паліцыянта Яўгена Кудзі здзейсніў уцёк з турмы.

**8 сакавіка, 3 гадзіны.** Жанчыны-партызанкі аддзела "Іскра": Ніна Бейзарава, Ніна Яроміна, Ганна Громава і мінёр Сільвестр Лазавы ўзарвалі каля в. Гутна нямецкі цягнік.

**10 сакавіка (Папельцавая серада), 17 гадзін.** Немцы расстралялі ў лесе на Кашарах 9 ксяндзоў: лідскага пробашча Вінцэнта Лобана (45 гадоў), лідскага вікарыя касцёла на Слабадзе Люцыяна Мрачкоўскага (34 гады), вікарыя Фарнага касцёла Стэфана Снягоцкага (29 гадоў), няцецкага пробашча Аляксандра Аўгусціновіча (53 гады), беліцкага пробашча Стэфана Дабравольскага (44 гады), лацкага пробашча Альфонса Бароўскага (51 год), трабскага пробашча Францішка Цыбульскага (58 гадоў), ліпнішскага пробашча Ежы Ажароўскага (31 год), юрацішскага пробашча Вінцэнта Стжасьнеўскага (34 гады). Разам з ксяндзамі былі расстраляныя Балабанскі, Талучка, Паздзерскі (фінансіст, меў пратэз кісці), Мукінскі, Райзеўр.




Магіла расстраляных ксяндзоў на Лідскіх Слабадскіх парафіяльных могілках


**Роберт Сасноўскі**

**12-13 сакавіка.** Мечыслаў Пуйдак - закрыстыян касцёла на Слабадзе і Стэфан Краўчынскі - вартаўнік могілак Слабадской парафіі адшукалі месца пахавання расстраляных ксяндзоў.

**13 сакавіка.** Часлаў Заянчкоўскі выехаў з Ліды і быў “выкрадзены савецкімі партызанамі”. У ваколіцах Беліцы арганізаваны першы польскі партызанскі аддзел, камандзірам прызначылі Чэслава Заянчкоўскага.

**14 сакавіка.** У 1 гадзіну ночы Роберт Сасноўскі і Сямён Паўлаў узарвалі чыгуначную электрастанцыю. З Ліды ў партызаны пайшлі 15 чалавек

**Сакавік.** У тэндар паравоза, які выйшаў з майстэрняў, падпольшчыкамі А. А. Багмутам і К.М. Тэртычным падложана магнітная міна. Паравоз узарваўся за 0,5 км ад Ліды.

**1963 год, 15 студзеня.** Загадам № 15 ГУЭ і Э пры СМ БССР утвораны Лідскі раён электрычных сетак на самастойным балансе.

**28-31 сакавіка.** На першынстве рэспублікі сярод школьнікаў у Берасці Ларыса Давідзюк заняла першае месца ў бегу на 60 м -7,6 сек з паўтарэннем усесаюзнага рэкорду, Рэнік Буяк заняў першае месца ў кіданні дзіды -50,36 м., Валеры Неўпакоеў быў другім.

**1973 год, 12 сакавіка.** Прынята пастанова ўраду БССР аб адкрыц-ці ў Лідзе музычнай навучальні.

# Лідскія юбіляры 2003 года

**Лянкевіч Аляксандр Алаізавіч “Ляндар”** (1823 — ?). Нарадзіўся ў Гарадзенскай губерні. Удзельнік паўстання 1863-64 гг. на Беларусі і ў Польшчы. У 1840-61 гг. служыў у войску, падпалкоўнік. Пасля адстаўкі жыў у сваім фальварку Панюкі Гарадзенскага павету. 20.04 (2.05) 1863 г. падняў паўстанне ў Гарадзенскім павеце, арганізаваў аддзел (каля 200 чал.). Пасля аб’яднання з ваўкавыскімі паўстанцамі - вайсковы начальнік Гарадзенскага і Ваўкавыскага паветаў. 22. 05 (3.06) 1863 г. каля в. Мілавіды (тады Слонімскі пав.) начале аб’яднаных сілаў гарадзенскіх, ваўкавыскіх, слонімскіх і наваградскіх паўстанцаў нанёс паразу карнікам. Адышоў на тэрыторыю Лідскага павету для злучэння з аддзелам Людвіка Нарбута (Л. Нарбут на гэты час ужо загінуў).



**Шыльда на школе імя А. Лянкевіча ў в. Мілавіды Баранавіцкага раёна**

20. 07. (1. 08.) 1863 г. разам з **лідскімі паўстанцамі** (мяркуецца, сярод іх былі Францішак Багушэвіч і Міхал Андрыёлі) перайшоў Нёман і дзейнічаў у Аўгустоўскай губерні. Паўстанцкія ўлады надалі яму годнасць палкоўніка. У верасні 1863 г. пасля няўдалай бітвы ў Зялёным лесе пад Аўгустовам выехаў за мяжу. Завочна прыгавораны да пакарання смерцю.

У 1993 годзе імя Аляксандра Лянкевіча прысвоена сярэдняй школе ў в. Мілавіды Баранавіцкага раёна.


**Канстанцыя Буйло**

**Буйло Канстанцыя (Калечыц Канстанцыя Антонаўна)** (14.01.1893-4.06.1986). Нарадзілася ў Вільні ў сялянскай сям’і. У 1914 г. скончыла кароткатэрміновыя настаўніцкія курсы ў Вільні. **Настаўнічала на Лідчыне.** Загадвала беларускай кнігарняй у Полацку (1915-16). З 1923 г. жыла ў Маскве. Працавала на заводзе “Аграном” (1929-34), і ў трэсце Саюзветзабпрам.

Дэбютавала вершамі ў 1909 г. у газеце “Наша ніва”. Першую кнігу “Курганная кветка (1914, Вільня) адрэдагаваў Я. Купала. Аўтар зборнікаў вершаў “Світанне” (1950), “На адноўленай зямлі” (1961), “Май” (1965), “Роднаму краю” (1973). Выйшлі “Выбраныя творы” (1954), “Выбранае” (1968,1976), “Выбраныя творы” ў двух тамах (1981). Напісала кнігі вершаў для дзяцей “Юрачка” (1957), “У бляску зор” (1968), “Вясной” (1984). Аўтар п’ес “Кветка папараці” (1914), “Сягодняшнія і даўнейшыя” (1914, пастаўлена ў 1921). Многія вершы пакладзены на музыку, асабліва шырокую вядомасць атрымала песня “Люблю”. Сябар СП СССР (1944).

**Галяева Марыя Паўлаўна.** Нарадзілася 28.02.1923 г. у Падмаскоўі. Скончыла Маскоўскі тэхналагічны тэхнікум. У 1945 годзе прыехала на Лідскі піўзавод. Пачала працу на пасадзе зменнага тэхнолага. М. Галяевай не было і трыццаці, калі яе прызначылі галоўным піваварам Лідскага піўзавода. На гэтай пасадзе ёй было даручана вельмі адказнае заданне: да 50-годдзя Савецкай улады распрацаваць фірменны гатунак піва прадпрыемства. Да гэтага завод выпускаў: "Маскоўскае", "Рыжскае", "Жыгулёўскае", "Ленінградскае", а свайго "Лідскага" не было. Галяева распрацавала рацаптуру, разлічыла расход сыравіны, патрэбную вытрымку, была атрымана жаданая шчыльнасць напою. "Лідскаму" далі высокую ацэнку спецыялісты завода і мянчане, пасля чаго яго павезлі на атэстацыю ў Маскву і там адзнака: "Выдатна". Піва "Лідскае" атрымала медаль на ВДНГ СССР і заваявала ўсесаюзную любоў аматараў бурштынавага напою.

На пенсію пайшла ў 1978 годзе з пасады галоўнага тэхнолага завода, маючы званне Заслужанага работніка харчовай прамысловасці СССР, ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга. Жыве насупраць піўзавода.



**Марыя Галяева**

**Баяровіч Мар'ян Андрэевіч.** Нарадзіўся 1.01.1933 г. у в. Альгецішкі Ашмянскага павету, Віленскай губерні. Беларус.

Бацька Андрэй Казіміравіч - каваль, маці - Браніслава Адольфаўна (Захарэўская), мелі 9 дзяцей і 1,5 га зямлі. Зямлю апрацоўвалі людзі. Бацька сярпы рабіў, сякеры - можна было галіцца, сярод сялян быў вядомы на сотню км.

У школу пайшоў у 1939 г. у Кракаўку - у маёнтку зрабілі школу. Падчас вайны не вучыўся. Пасля вайны вучыўся ў Кракаўцы да 4-га класа, з 5-га пайшоў у Ашмяны ў СШ № 1.

Працоўную дзейнасць пачаў з траўня 1951 г. сакратаром, затым старшынём Ашмянскага с/с.

У 1954 - 58 гг. вучыўся ў Гарадзенскай музпеднавучальні. З верасня 1958 г. па студзень 1975 г. працаваў выкладчыкам, загадчыкам аддзялення, намеснікам дырэктара па вучэбнай рабоце Гарадзенскай музпеднавучальні. Закончыў завочна Беларускую акадэмію музыкі па класу баяна ў 1970 г. З 1975 г.- намеснік дырэктара, з 1977 г. - дырэктар Лідскай музнавучальні (падпісаў 1160 дыпломаў), з лістапада 1996 г. - на пенсіі, але прадаўжае працаваць выкладчыкам.

Старшыня Лідскага аддзялення Беларускага Саюза музычных дзеячоў, сябар праўлення БСМД, старшыня Рады ТБМ Лідскай музнавучальні. Выдаў 2 зборнікі: "Беларускія народныя песні і танцы" Менск, 1998 і "170 беларускіх народных песень Гродзеншчыны" Горадня, 2001.



**Мар'ян Баяровіч**

За працоўныя поспехі ўзнагароджаны: Граматай і медалём ВС БССР (1960), Пахвальнай граматай Міністэрства культуры Беларусі - за твор "Фантазія на беларускую тэму" для баяна, медалём "За выдатную працу ў адзначэнне 100-годдзя з дня нараджння У. І. Леніна (1970), нагрудным значком "Выдатнік народнай асветы" (1972), бронзавым медалём ВДНГ СССР, медалём "Ветэран працы" (1990).

Збірае песні заходніх раёнаў Гарадзеншчыны.

**Жалкоўскі Аляксандр Васілевіч.** Нарадзіўся 1.03.1933 г. у в.Цёмнае Балота былой Астрынскай гміны Шчучынскаго павету, зараз в. Сасновы Бор Шчучынскага раёна. Закончыў Дэмбраўскую ПСШ (1949) і Астрынскую СШ імя Цёткі (1950), пачаў працаваць у друку - у Васілішкаўскай раённай газеце "Ленінскі шлях" (1950-53), жаніўся ў 1953 г. на настаўніцы Махнач Валянціне з Дакудава - тутэйшай партызанцы. Закончыў Гарадзенскую вочна-завочную сярэднюю школу (1954). Працаваў другім сакратаром Васілішкаўскага РК ЛКСМБ (1953-54), заг. сектарам партуліку Васілішкаўскага РК КПБ (1955-56), і зноў рэдакцыя ў Васілішках (1956-57). У 1957-61 - слухач Менской ВПШ. 1961-62 -рэдактар Воранаўскай раённай газеты "Ленінскі сцяг", з траўня 1962 г. па красавік 1965 г. нам. рэдактара газеты Гарадзенскага абкама КПБ ў Лідскім тэрытарыяльным калгасна-саўгасным упраўленні "Сцяг працы", у 1965-69 - рэдактар Мастоўской раённай газеты "Зара над Нёманам", у 1969-86 г. - рэдактар Лідскай аб'яднанай газеты "Уперад", з траўня 1986 г. - уласны кар. газеты "Гродзенская праўда" па Лідскім кусту раёнаў. Прымаў удзел у стварэнні кніг "Тваe героі, Гродзеншчына", "Іх імёнамі названы", "У прынёманскіх лясах", "У чэрвені 1941 г." (2 ая кніга).



**Аляксандр Жалкоўскі**

# ЛІДЗЕ - 680 ГАДОЎ

У Беларусі, па якой Вялікай кітайскай сцяной праходзіць лінія падзелу паміж інтэлігенцыяй і ўладай па мностве пытанняў, ёсць горад Ліда, у якім такая ж лінія падзелу паміж краязнаўцамі і ўладай праходзіць па даце заснавання горада. Наогул роскід думак па гэтым пытанні быў заўсёды даволі шырокім: у межах чатырох стагоддзяў - з X па XIV стагоддзе, але спрэчкі вядуцца ў асноўным каля трох датаў: 1180, 1323 і 1380.

Польская "Wielka Encyklopedia powszechna" падае: "Ліда заснавана каля 1180 года". На гэтым жа пункце гледжання стаяць літоўскія энцыклапедыі, а таксама нямецкая Гамбургская энцыклапедыя. Але ўсе яны абапіраюцца на адно даволі двухсэнсавае выказванне гісторыка XIX стагоддзя, ураджэнца і жыхара Лідскага павету Тодара Нарбута. У яго ёсць невялікае на чатыры старонкі сачыненне "Cokolwek z historyi miasta Lidy". Яно апублікавана ў 1839 г. і пачынаецца так: "To miejsce, po zawojowaniu Xienstwa Dejnowskiego, okolo r. 1180 w ktorem lezalo, jest osada litewska". Неадназначны па сэнсу сказ з часам ператварыўся ў цверджанне пра з'яўленне Ліды ў XII стагоддзі.

Вялікая Савецкая Энцыклапедыя таксама мела сваю думку: Ліда заснавана ў 13 стагоддзі". Дата з XIII ст. абапіраецца на легенду, быццам бы татара-манголы ў 1242 г. хадзілі на Літву і Міндоўг адбіў іхні напад пад сценамі Ліды. Татары пацярпелі паразу, а іхні правадыр хан Шайбак быў забіты. У гэтай легендзе ўсё легендарнае: дата, татары і Міндоўг пад сценамі Ліды, акрамя Шайбакполя - так называецца адна з вёсак Шчучынскага раёна.

У 60 - 80-я гады ў асяроддзі гісторыкаў умацавалася думка, што Ліда заснаваная ў 1380 г. Ініцыятарам лічыць 1380 год годам заснавання Ліды быў А.П. П'янкоў, адзін з аўтараў "Истории БССР", выдадзенай у Менску ў 1961 г. Гэтая ж дата была паўтораная аўтарамі "Гісторыі Беларускай ССР", выдадзенай у 1972 годзе, "Истории БССР", 1981 года. Ссылаліся пры гэтым на спіс літоўскіх гарадоў, складзены паміж 1387 і 1406 гадамі. Вось адрывак з гэтага спісу: ***"А се литовскыи грады: Полтеск на Двине и на Полоте деревян. А святая Софиа каменна о седми верхех, Видбеск, 3 стены каменны. А река Видба и Двина. Новыи городок Литовскыи. Оболчи. Лебедев. Борисов. Лида. Пуня. Любутеск. Перелаи. Родно. Менеск. Мченеск. Ижеславль..."***

Разам з тым ніякі 1380 год з гэтага адрыўка не выцякае. Ну была Ліда паміж 1387 і 1406 года, ну і што. І, наогул, да гэтых выданняў, дзяцей Абэцэдарскага і Шабуні, трэба адносіцца вельмі крытычна. Так, напрыклад, тая ж "Гісторыя Беларускай ССР"1972-га года на ст. 88 падае год заснавання Ліды 1380-ы, а на ст. 128 падае карту, дзе паказаны паход крыжакоў на Ліду пад 1314 годам, які не згадваецца ні ў адной гістарычнай крыніцы.




**Фрагмент карты з "Гісторыі Беларускай ССР" 1972 г. з паказам паходу крыжакоў на Ліду ў 1314 г.**

Больш сур'ёзная Беларуская Савецкая Энцыклапедыя, выдадзеная ў тым жа 1972 годзе (т. 6, ст. 363) не падае 1380-га года, як года заснавання Ліды, а абмяжоўваецца наступным сказам: ***"Першае ўпамінанне пра Ліду сустракаецца ў "Спісе рускіх гарадоў...", які складзены паміж 1387 і 1406."*** (Аўтары артыкула І. І. Трухан, Ю. Н. Кішык, Менск, М. І. Собаль, Горадня.)

Аднак 1380 год вельмі да густу прыйшоўся першаму сакратару Лідскага гаркаму КП(б)Б Н. І. Паповай, якая ў краіне бясконцых юбілееў, якім быў брэжнеўскі Савецкі Саюз, вырашыла адзначыць свой юбілей, а для гэтага была патрэбная ***вельмі*** круглая дата. У прынцыпе няма нічога дрэннага ў імкненні гаспадыні горада выбіць нешта пад юбілей (выбіла ордэн "Знак Пашаны"), так рабілі ўсе. А што была сфальсіфікавана гісторыя горада, дык тады была сфальсіфікавана ўся гісторыя Беларусі. Гучным святкаваннем 600-годдзя 1380 год быў убіты ў гісторыю Ліды. Была ўтворана плошча "600-годдзя горада", выпушчаны паштовы канверт, дата выразана на мастацкіх пано, на барэльефах пры ўездзе ў горад.

І ўсё ж гісторыкі вельмі асцярожна паставіліся да навацый правадыра лідскіх камуністаў. Наступная энцыклапедыя "Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі", выдадзеная ў 1986 годзе, нягледзячы на шумныя святкаванні 600-годдзя Ліды, зноў не падае даты заснавання горада і зноў абмяжоўваецца сказам: ***"Упамінаецца ў "Спісе рускіх гарадоў...", складзеным паміж 1387 і 1406 у першапачатковай найб. стараж. ч. "Летапісца вялікіх князёў літоўскіх", напісанай у 1390-х г."*** , хаця ў гэтай энцыклапедыі і змешчаны здымак плошчы "600-годдзя горада". Пры гэтым з тэксту прападае слова "***першае***" або ***"упершыню"***. Проста Ліда ***ўпамінаецца***, але якое дачыненне

мае гэтае ўпамінанне да даты заснавання?

Сучасныя беларускія энцыклапедыі абапіраюцца на больш дакладныя звесткі з гісторыі Ліды. Энцыклапедыя “Археалогія і нумізматыка Беларусі” на ст 367 падае: ***“Паселішча Ліда ўзнікла ў 14 ст. на плато паміж рэчышчамі Лідзеі і Каменкі непадалёк ад іх сутокаў... У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца паміж 1323 і 1328...”*** Аўтар артыкула доктар гістарычных навук А. К. Краўцэвіч.

У энцыклапедычным даведніку “Беларусь”, выдадзеным у 1995 г., дастаткова ясна заяўлена: ***“У пісьмовых крыніцах упершыню згадваецца паміж 1323 і 1328”.***

У 6-ці томнай *“Энцыклапедыі гісторыі Беларусі” (т. 4, ст. 362, 1997 г.) сказана: “Звесткі пра час узнікнення супярэчлівыя: паміж 1180 і 1380 (афіцыйна прызнаная дата).* ***Найбольш праўдападобнай трэба лічыць 1323*** *- пачатак будаўніцтва вялікім князем Гедзімінам Лідскага замка, вакол якога паступова вырас горад”.* Аўтар артыкула канд. гіст. навук Іван Коўкель.

Кропку ставіць 18-ці томная “Беларуская энцыклапедыя” (т. 9, ст. 248, 1999 г.): ***“Датай узнікнення Ліды лічаць 1323*** *- пачатак будаўніцтва Лідскага замка, вакол якога паступова вырас горад”.* Аўтар артыкула канд. гіст. навук І. Коўкель.

**На чым жа грунтуюцца сучасныя гісторыкі?**

Дзеля захавання справядлівасці трэба сказаць, што 1323 год ўвёў у абарот гісторык і паэт XVI стагоддзя Мацей Стрыйкоўскі (1547?-1586). У 1582 г. у Каралеўцы (Кенігсбергу) была апублікаваная яго праца **“Кроніка польская, літоўская, жамойцкая і ўсяя Русі”**, у якой аўтар паведаміў, што Лідскі замак быў пабудаваны ў 1323 г. З тога часу ніхто з гісторыкаў не спрачаецца супраць заснавання Лідскага замка Вялікім князем Гедзімінам ў 1323 г.

Але 1323-ці год ніяк не вяжацца з 1380-м. Вось і пачынаюцца трызненні кшталту таго, што замак, маўляў быў, а горада не было. Але замак будавалі тысячы людзей на працягу шасці гадоў. Дзе яны жылі? Іх што вазілі рэйсавымі падводамі з Дайнавы, ці маршрутныміваламі з Наваградка? Не магло такое вялікае абарончае збудаванне, як Лідскі замак, з больш, чым сотняю байніц, з чатырохпавярховай вежай (тады яшчэ з адной) не мець сур’ёзнай вайсковай залогі. Такіх цвердзяў усяго сем за ўсю гісторыю Вялікага княства і было. А залогу паіць-карміць трэба: жыта сеяць, жаць, малаціць, мёд варыць, жывёлу пасвіць, паляваць, дровы нарыхтоўваць, абутак ды вопратку шыць, коней каваць, зброю рабіць і г. д. Раздзяляць Лідскі замак і Ліду гэта ўсяроўна, што раздзяляць Маскву і Крэмль.

**Гэта логіка, а вось факты.**

Звернемся да тастаманту Вялікага князя Гедзіміна сваім семярым сынам, вядомае з “Кронікі...” Стрыйкоўскага:

***“Тых всех сынов за живота своего порядне поделив панствами уделными, забегаючи внутрней домовой незгоды, абы по смерти его сынове братерской нерозливали милости межи собою и не воевалися з собою о панство, але абы кождый на своем преставал уделе. А поделил их тым способом: Монтивилови старшому Керново и Слоним з волостями их назначил; Наримунтови Пинско зо всеми околичностями над Припетю рекою, аж до Днепра, Олгердови Крево замок, которого ся панство ростягло ажъ до Барчи реки ку всходу слонца идучои, ... Кестутови Троки Старые зо всем князеством Жомойтским, з Городном и Ковном, Упитом и Лидою, аж до Подляша при границе пруской идучие; Кориатови Новгород князство з Волковыйском и Мстибоговом, которое князство тягло до Случи реки; Любарт зас же был в стан малженский у Володимера, князя володимерского и волынского, дочку, мел часть с посагу на Волыню, а по смерти Володимера взял князство Володимерское все, Луцкое и Волынское; Евнутови, меншому сыну ... по смерти своей всю зверхность Великого князства Литовского, Руского, Жамойтского над братиею злецил и записал, и Вильню место, столицу Великого князства Литовского, з замками отдал, также Ошмянские, Волкомирские и Браславские отдал ему поветы. А так, всех сынов своих Великий князь Гедимин поделил панствами своими.”*** (ПСРЛ. Т. 32. М. 1975.)

Гедзімін загінуў у 1341 г., тастамант, як выцякае з летапісу, быў складзены задоўга да яго смерці, г. зн. у 30-х гадах.

У тастаманце пералічаны 18 населеных пунктаў. З іх 12 гарадоў: Кернава, Слонім, Пінск, Трокі, Горадна, Коўна, Упіта, Ліда, Ноўгарадок, Ваўкавыск, Мсцібогаў, Вільня. Крэва згадваецца, як Крэва-замак, а Ашмяны, Валкамір і Браслаў, як цэнтры паветаў. Ліда ідзе разам з Горадняй, Коўнам і Упітай, не як Ліда-замак і не як Лідскі павет, а як Ліда-горад. З тэксту відавочна, што ў 30-я гады 14 стагоддзя Ліда існавала, як буйны феадальны цэнтр ВКЛ.

Археалагічныя раскопкі, праведзеныя ў 70-80-я гады мінулага стагоддзя Ткачовым, Звяругам, Трусавым, Краўцэвічам далетапісную Ліду не знайшлі, але цалкам пацвердзілі матэрыяльную культуру першай паловы 14-га стагоддзя. Праўда капалі яны толькі ў замку і каля замка. Магчыма дзесці ў адным з куткоў Ліды ляжаць сведчанні і больш старажытных часоў.

Акрамя Мацея Стрыйкоўскага пачатак будаўніцтва Лідскага замка ў пачатку 20-х гадоў пацвярджаюць наступныя агульнавядомыя гістарычныя факты.

У 1320-21 гг. Вялікі князь Гедзімін схадзіў у паход на Валынь і пад Кіеў, прывёў адтуль тысячы палонных. На будаўніцтва Крэўскага замка Гедзімін прыводзіў яшчэ і работнікаў з Палесся, дзе да гэтага часу захаваўся праклён: “Каб ты на Крэўскі замак каменне цягаў”. Паходы 1320-га і 1321-га гадоў можна лічыць падрыхтоўчымі да вялікага будаўніцтва ў Вялікім княстве.

У 1322 годзе Гедзімін звярнуўся да Папы Рымскага з лістом і паабяцаў прыняць хрысціянства. Адначасова ён звярнуўся да майстроў Заходняй Еўропы з прапановаю прыехаць на заработкі. Папа Іаан XXII забараніў крыжакам на 4 гады паходы на Вялікае княства Літоўскае. Пакуль дзейнічала чатырохгадовае замірэнне Гедзімін перанёс сталіцу

княства з Трокаў у Вільню (1323), выдаў дачку Алдону замуж за Казіміра - сына польскага караля Уладзіслава Лакеткі (1325), заключыў мір з Ноўгарадам Вялікім, пабудаваў мураваныя ўмацаванні ў Вільні, Медніцкі і Лідскі замкі, у 1330-я гады быў пабудаваны яшчэ і Крэўскі замак.

Перамяшчэнне палонных у Ліду патрабавала для іх жылля, іначай ім бы зімы не пераэжыць, тым больш паўднёвым людзям. І, калі палонных маглі пасяліць у зямлянках, то для варты, а тым больш для еўрапейскіх майстроў, павінны былі будавацца паўнавартасныя цёплыя хаты. Таму мы можам смела сцвярджаць, што. калі не горад, то, гаворачы сучаснай мовай, рабочы пасёлак у Лідзе ўзнік яшчэ да пабудовы замка.

Шмат хто з будаўнікоў у Лідзе і застаўся, пра што сведчыць наяўнасць у замку ад моманту яго пабудовы праваслаўнай царквы. Тутэйшым, нехрышчоным яшчэ жыхарам, яна была без патрэбы. Для залогі, якая часта мянялася і ў большасці сваёй таксама была нехрышчонай, царкву наўрад бы ці будавалі, як не рабілі гэтага ў іншых месцах. Толькі наяўнасць вялікай колькасці хрысціянскага насельніцтва магла паўплываць на згоду князя пабудаваць царкву. Да хрышчэння тутэйшых людзей заставалася яшчэ больш 60-ці гадоў.

Асноўныя работы па будаўніцтву замка былі скончаны за 3-5 гадоў (1323-1326/28). Аб'ём работ быў велізарны: пракапаны шырокі і глыбокі роў, адсыпана пляцоўка, пабудаваны 12-мятровай вышыні сцены агульнай даўжынёй 340 метраў, пабудаваная 4-х павярховая паўднёва-заходняя вежа, уложаны ў сцены, адкосы і ў двор 23 тысячы кубаметраў валуноў, якія перад гэтым былі звезены з ваколіцаў, укладзена ў сцены 1,5 мільёна цаглін. А яшчэ ж трэба было вапну загасіць, цэглу высушыць і абпаліць. Рабілася гэта тут жа, у бліжэйшым наваколлі. Бліжэйшыя да замка радовішчы гліны знаходзіліся за 5-6 км ад замка, у сённяшніх Шайбаках і Перапечыцы.

Унутраныя работы і аздабленне замка працягваліся ў 30-х гадах 14-га стагоддзя, а другая, паўночна-заходняя вежа, якая зараз рэстаўраваная, была пабудавана ў 1402 годзе пры Вялікім князю Вітаўце.

**Дык што ж перашкаджае гораду сёлета адсвяткаваць 680-годдзе горада?**

Перашкаджае адна фраза: *"Афіцыйна прызнаная дата заснавання г. Ліды - 1380 год",* намёртва засеўшая ў галавах гарадскога кіраўніцтва.

Але што такое "афіцыйна прызнаная дата"? Кім яна прызнавалася і калі?

На сёння **самай афіцыйнай датай з'яўляецца дата, запісаная ў 18-ці томнай "Беларускай Энцыклапедыі"**, самым афіцыйным выданні Рэспублікі Беларусь, што выдаецца паводле Пастановы Савета Міністраў краіны ад 23 жніўня 1993 г. А ў ёй запісана: ***"Датай узнікнення Ліды лічаць 1323 - пачатак будаўніцтва Лідскага замка..."***

У рэдакцыйную калегію 9-га тома, які выйшаў у 1999 годзе і ў якім змешчаны артыкул пра Ліду уваходзілі: **Г. П. Пашкоў** (галоўны рэдактар, членкар. Міжнароднай Славянскай Акадэміі навук, адукацыі, мастацтва і культуры), **В. С. Аношка** (доктар геаграф. навук), **І. І. Антановіч** (доктар філасоф. навук, тагачасны Міністр замежных спраў), **В. К. Бандарчык** (член-кар. АН Беларусі, доктар гістарыч. навук), **М. П. Касцюк** (акадэмік Нац. АН Беларусі, доктар гістарыч. навук), **У. Р. Латыпаў** (доктар юрыдыч. навук, кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь), **А. М. Міхальчанка** (канд. гістарыч. навук), **М. В. Падгайны** (міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь), **П. Ц. Петрыкаў** (член-кар. Нац. АН Беларусі, доктар гістарыч. навук), **М. Ф. Піліпенка** (член-кар. Нац. АН Беларусі, доктар гістарыч. навук), **А. Г. Слука** (доктар гістарыч. навук), **М. С. Сташкевіч** (доктар гістарыч. навук), **В.І. Стражаў** (доктар эканаміч. навук, тагачасны міністр адукацыі) і яшчэ некалькі дзесяткаў акадэмікаў, прафесараў, дактароў і кандыдатаў навук па розных галінах ведаў.

Такім чынам толькі ў рэдакцыйную калегію гэтага тома ўваходзяць шэсць дактароў і адзін кандыдат гістарычных навук, а таксама відныя палітычныя і дзяржаўныя асобы нашай краіны.

Безумоўна, у Лідзе дэмакратычная ўлада і лідскім чыноўнікам ды дэпутатам гарсавету - не ўказ думка нейкага там Латыпава ці Падгайнага, закладзеная ў Энцыклапедыі, як не ўказ усе дактары з кандыдатамі, але ўказам павінны быць гістарычная праўда, здаровы сэнс і элементарны клопат пра прэстыж горада.

Пра гістарычную праўду сказана дастаткова, пра бессансоўнасць спрэчак з усёй гістарычнай навукай і дзяржаўнай Энцыклапедыяй - таксама. А што дадаюць, як цяпер кажуць, да іміджу горада лішнія 57 гадоў яго ўзросту. Розніца паміж 680-цю і 623-ма гадамі невялікая ў часе, але вельмі вялікая ў сваёй сутнасці. Ліда 1380-га года - адзін з мноства гарадоў Вялікага княства Літоўскага ў эпоху яго росквіту. Ліда 1323-га года - горад, які стаіць ля вытокаў Вялікага княства, горад заснаваны ў адзін час з сталіцай ВКЛ Вільняй, горад, які можа адназначна назваць сваім заснавальнікам Вялікага князя Гедзіміна, горад які набліжаецца да свайго 700-годдзя.

Ліда 1323-га года - найстарэйшы горад на познебалцкіх землях Беларусі, горад-радавое гняздо гедзімінавічаў, горад з якога пачалося хрышчэнне Літвы, горад, чыя харугва білася пад Грунвальдам, горад дзе гуляў вяселле кароль Ягайла ў гасцях у Вялікага князя Вітаўта.

Гісторыя Ліды - гэта такое ж багацце, як і яго геаграфічнае становішча, як і яго заводы ды фабрыкі, як яго жыхары з іх талентамі і майстэрствам. Адбіраць у горада Ліды 57 гадоў яго гісторыі гэта значыць проста абкрадваць горад, абкрадваць кожнага з яго жыхароў.

Гістарычная справядлівасць мусіць быць адноўлена, і калі сёлета Ліда не святкуе 680-годдзя, то будзе час на святкаванне 690-годдзя, 700-годдзя. І гэта будзе абавязкова.

***Валеры Сліўкін,***
***кандыдат геаграфічных навук,***
***Станіслаў Суднік,***
***сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў.***

# Клімат Лідчыны (1963-2002)

*Клімат ад грэч.* ***Klіma-нахіл****, схіл, шматгадовы рэжым надвор'я. Уся тэрыторыя Лідчыны размешчана ва ўмераным поясе на шляху заходніх паветраных масаў з Атлантыкі. Клімат умерана кантынентальны, фармуецца ад узаемадзеяння сонечнай радыяцыі, падлеглай зямной паверхні і агульнай цыркуляцыі атмасферы.*

*Каб паўней уявіць клімат Лідчыны ў будучыні, паспрабуем паглядзець, якім ён быў раней, скажам 10-40 гадоў таму назад. Найбольш важныя элементы клімату цеплавы рэжым, вільготнасць паветра – ад іх залежыць узровень развіцця і інтэнсіўнасць біялагічных працэсаў у прыродзе.*

*У гэтым артыкуле пададзены матэрыялы па тэмпературным рэжыме паветра на працягу года, вільготнасці паветра і атмасферных ападках па Лідскаму раёну з 1963 па 2002 гг. (за 40 гадоў назірання). Мной скарыстаны матэрыялы шматгадовых назіранняў Лідскай метэаралагічнай станцыі. Я глыбока удзячная кіраўніцтву і супрацоўнікам мэтэастанцыі за дапамогу ў зборы матэрыялаў. Асноўная задача артыкула: а) даць ацэнку кліматычным рэсурсам Лідчыны; б) выявіць заканамернасць сезоннага развіцця прыроды; в) дапамагчы спецыялістам і аматарам пры planаванні сельскагаспадарчых работ.*

**Табл. № 1. Сярэднемесячная і сярэднегадавая тэмпература паветра па Лідскаму раёну па перыядах за 1963-2002 гады.**

| Месяц / Перыяд | I | II | III | IV | V | VI | VII | VIII | IX | X | XI | XII | Агульнагадавая |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1963 - 69 гг. | - 8,8 | - 6,8 | - 2,1 | 5,8 | 12,7 | 16,7 | 17,5 | 16,4 | 12,5 | 7,2 | 1,4 | - 4,5 | 5,7 |
| 1970 - 74 гг. | - 6,8 | -3,4 | - 0,5 | 5,7 | 12,5 | 16,0 | 17,1 | 16,9 | 11,2 | 5,9 | 1,5 | - 0,1 | 6,3 |
| 1975 - 79 гг. | - 5,1 | - 5,5 | 0,4 | 5,8 | 12,8 | 15,8 | 16,3 | 16,4 | 11,6 | 5,6 | 2,4 | - 3,4 | 6,1 |
| 1980 - 84 гг. | - 4,3 | - 4,9 | - 0,9 | 6,4 | 12,7 | 15,2 | 17,1 | 16,7 | 12,8 | 7,9 | 1,1 | - 2,4 | 6,5 |
| 1985 - 89 гг. | - 6,7 | - 5,9 | - 1,0 | 6,2 | 13,6 | 15,9 | 17,4 | 16,3 | 11,3 | 6,9 | 0,5 | - 2,6 | 6,0 |
| 1990 - 94 гг. | - 0,9 | - 2,2 | 1,7 | 7,2 | 12,7 | 15,4 | 17,9 | 17,3 | 11,9 | 6,2 | 0,8 | - 1,5 | 7,2 |
| 1995 - 99 гг. | - 4,2 | - 1,8 | 0,2 | 7,5 | 12,5 | 17,5 | 18,0 | 17,3 | 12,1 | 7,2 | 0,3 | - 4,7 | 6,9 |
| 2000 - 2002 гг. | - 2,3 | - 0,4 | 1,8 | 9,5 | 14,1 | 15,9 | 19,6 | 18,1 | 11,5 | 7,8 | 2,8 | - 5,0 | 7,8 |
| **Норма 1900 - 2000 гг.** | **- 5,8** | **- 5,2** | **1,2** | **6,0** | **12,7** | **16,0** | **17,4** | **16,5** | **12,0** | **6,5** | **1,2** | **- 3,3** | **6,0** |

**Табл. № 2. Самые нізкія і высокія сярэднемесячныя і гадавыя тэмпературы паветра за 1963-2002 гады.**

| I | II | III | IV | V | VI | VII | VIII | IX | X | XI | XII | Гадавая |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| - 15,5 | - 12,8 | - 5,7 | 4,3 | 8,1 | 13,7 | 14,0 | 14,4 | 9,3 | 3,0 | - 4,7 | - 9,2 | 4,6 |
| 1987 | 1985 | 1964 | 1981<br>1987<br>1997 | 1980 | 1982<br>1984 | 1979 | 1987 | 1986 | 1976 | 1993 | 1978 | 1969 |
| 1,2 | 3,6 | 4,7 | 11,3 | 16,1 | 19,9 | 21,5 | 19,7 | 14,5 | 9,7 | 5,1 | 1,0 | 8,2 |
| 1989 | 1990 | 1990 | 2000 | 1963 | 1999 | 2001 | 1992 | 1975 | 1967 | 1978 | 1971 | 1989<br>2000 |

**Табл № 3. Абсалютная максімальная, абсалютна мінімальная (адмоўная) тэмпература паветра па станцыі "Ліда" з 1963-2002 гг.**

| I | II | III | IV | V | VI | VII | VIII | IX | X | XI | XII | Абс. мін. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| - 34,3 | - 29,9 | - 32,3 | - 9,7 | - 2,8 | 1,6 | 2,2 | - 0,1 | - 2,9 | - 8,7 | - 19,3 | - 29,5 | - 34,3 |
| 1970 | 1970 | 1964 | 1963 | 1971 | 11.1982<br>1. 2001 | 1971 | 1966 | 30.1993 | 1979 | 22.1998 | 24.1996 | 1970 |
| 10 | 14,7 | 19,7 | 26,5 | 30,1 | 32,7 | 35,2 | 35,3 | 31,8 | 24,7 | 17,0 | 9,9 | 35,3 |
| 11.1991 | 24.1990 | 20.1990 | 29.2000 | 1979 | 1964 | 30.1994 | 29.1992 | 1.1992 | 3.1985 | 17.2002 | 13.2000 | 29.08.1992 |

**Табл № 4. Месячная і гадавая колькасць ападкаў па Лідскаму раёну за 1963-2002 гг.(мм).**

| Месяц / Перыяд | I | II | III | IV | V | VI | VII | VIII | IX | X | XI | XII | Гадавая кольк. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1963 - 69 гг. | 29,7 | 31,3 | 30,1 | 41,8 | 65,2 | 74,4 | 53,5 | 73,5 | 52,8 | 56,0 | 59,0 | 40,5 | 607,9 |
| 1970 - 74 гг. | 22,4 | 34,4 | 26,6 | 48,6 | 47,6 | 104,0 | 82,0 | 58,6 | 65,8 | 70,6 | 54,3 | 49,0 | 633,9 |
| 1975 - 79 гг. | 39,6 | 28,2 | 38,2 | 62,7 | 64,6 | 38,3 | 96,4 | 73,8 | 52,6 | 30,3 | 35,0 | 53,9 | 613,6 |
| 1980 - 84 гг. | 49,6 | 27,3 | 40,0 | 32,6 | 63,3 | 74,1 | 97,8 | 43,2 | 62,0 | 54,6 | 48,9 | 65,8 | 659,2 |
| 1985 - 89 гг. | 43,8 | 28,8 | 43,7 | 41,0 | 52,6 | 104,1 | 75,9 | 86,6 | 57,7 | 35,6 | 44,6 | 55,8 | 670,4 |
| 1990 - 94 гг. | 49,0 | 37,2 | 47,2 | 39,6 | 48,9 | 51,6 | 82,2 | 60,2 | 111,4 | 50,6 | 48,4 | 54,6 | 680,8 |
| 1995 - 99 гг. | 33,1 | 44,4 | 43,9 | 42,4 | 68,9 | 79,6 | 65,2 | 55,3 | 58,3 | 45,1 | 41,1 | 49,1 | 626,4 |
| 2000 - 2002 гг. | 49,8 | 51,7 | 39,6 | 30,2 | 64,2 | 67,2 | 105,6 | 77,6 | 59,3 | 69,8 | 42,9 | 34,5 | 692,7 |
| **Норма 1900 - 2000 гг.** | **38,0** | **32,0** | **37,0** | **48,0** | **63,0** | **79,0** | **78,0** | **76,0** | **62,0** | **50,0** | **53,0** | **47,0** | **663,0** |

**Табл № 5. Месяцы, калі выпала максімальная і мінімальная сума ападкаў у 1963-2002 гг.**

| I | II | III | IV | V | VI | VII | VIII | IX | X | XI | XII | Гадавая |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | | **максім.** |
| 98,0 | 89,5 | 89,2 | 101,4 | 131,4 | 156,8 | 199,8 | 120,5 | 185,8 | 156,9 | 74,2 | 100,5 | 833,7 |
| 1986 | 2002 | 1994 | 1977 | 1984 | 1985 | 1993 | 1988 | 1990 | 2002 | 1967 | 1993 | 1977 |
| | | | | | | | | | | | | **мінім.** |
| 14,1 | 2,5 | 6,7 | 10,1 | 13,4 | 16,9 | 2,1 | 5,9 | 14,7 | 4,2 | 12,2 | 13,8 | 501,9 |
| 1977 | 1972 | 1969 | 1974 | 1971 | 1964 | 1994 | 1973 | 1976 | 2000 | 1993 | 1972 | 1976 |

**Табл № 6. Сярэднемесячная адносная вільготнасць паветра (%) па Лідскаму раёну за 1963-2002 гг.**

| Месяц / Перыяд | I | II | III | IV | V | VI | VII | VIII | IX | X | XI | XII | Гадавая |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1963 - 69 гг. | 85 | 83 | 80 | 77 | 73 | 68 | 71 | 73 | 76 | 85 | 87 | 88 | 79 |
| 1970 - 74 гг. | 85 | 87 | 77 | 71 | 66 | 74 | 76 | 75 | 82 | 84 | 89 | 90 | 80 |
| 1975 - 79 гг. | 87 | 84 | 83 | 74 | 68 | 68 | 75 | 75 | 78 | 83 | 89 | 88 | 80 |
| 1980 - 84 гг. | 85 | 83 | 73 | 67 | 70 | 73 | 75 | 73 | 80 | 85 | 86 | 89 | 79 |
| 1985 - 89 гг. | 87 | 83 | 81 | 72 | 67 | 76 | 74 | 78 | 82 | 82 | 88 | 88 | 80 |
| 1990 - 94 гг. | 86 | 83 | 78 | 70 | 65 | 69 | 70 | 74 | 83 | 82 | 86 | 89 | 78 |
| 1995 - 99 гг. | 87 | 83 | 76 | 69 | 69 | 73 | 72 | 71 | 77 | 83 | 88 | 87 | 78 |
| 2000 - 2002 гг. | 89 | 85 | 76 | 67 | 61 | 70 | 74 | 73 | 78 | 83 | 87 | 88 | 78 |

**Верасень** - пераходны ад лета да восені месяц. На працягу першых дэкадаў сярэднесутачная тэмпература паветра трымаецца щ сярэднім вышэй 10 град. У трэцяй дэкадзе пераходзіць цераз +10 град. у бок паніжэння, пачынаецца восень. Сярэднемесячная тэмпература верасня + 12 град. Паніжэнне тэмпературы ад жніўня да верасня складае 4,5 град. За апошнія 3 гады (2000-02), гэтая розніца склала 6,6 град - самы значны перапад летне-асенніх тэмператур (Табл. № 1). Самы цёплы верасень быў у 1975 г., сярэднемесячная тэмпература склала + 14,5 град., самы халодны - у 1986 г. + 9,3 град (Табл. №2). Рэкордна цёплым быў дзень 1 верасня 1992 года + 31,8 град. 30 верасня 1993 г. тэмпература апусцілася да - 2,9 град. (Табл. № 3).

Сярэднемесячная сума ападкау 62 мм (Табл. № 4). Розніца ападкаў усяго 13,2 мм: ад 52,6 мм (1975-79) да 65,8 мм (1970-74). Спакой гэтай графы парушыў 1990 г., калі за месяц выпала рэкордная колькасць ападкаў 185,8 мм (Табл. №5). За 40 год назіраняў больш выпала толькі ў ліпені 1993 г. Менш за ўсё ападкаў выпала ў верасні 1976 г.-14,7 мм.

Вільготнасць 76-83 %. З паніжэннем тэмпературы паветра ад лета да восені адносная вільготнасць расце на 3-9% (Табл № 6).

**Кастрычнік -** тыповы асенні месяц. Сярэднемесячная тэмпература + 6,5 град. Паніжэнне тэмпературы ад верасня складае ў сярэднім 5,5 град. За

**Табл № 7. Глыбіня прамярзання глебы (у см) па Лідскаму раёну за 1963-2002 гг.**

| Месяц / Дэкада / Перыяд | Студзень I | II | III | Люты I | II | III | Сакавік I | II | III | Лістапад I | II | III | Снежань I | II | III | Максімум за перыяд |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1963 - 69 гг. | 30 | 44 | 47 | 41 | 41 | 39 | 35 | 36 | 32 | - | - | - | 13 | 18 | 28 | 82 см, ІІІд. 1м.69 г. |
| 1970 - 74 гг. | 39 | 49 | 55 | 56 | 56 | 57 | 50 | 36 | 11 | - | - | - | 9 | 14 | 25 | 84 см, Ід. 2м. 73 г. |
| 1975 - 79 гг. | 31 | 36 | 40 | 46 | 52 | 51 | 42 | 28 | 22 | - | - | - | 11 | 15 | 23 | 92 см, ІІІд. 2м. 76 г. |
| 1980 - 84 гг. | 11 | 18 | 23 | 27 | 36 | 40 | 44 | 35 | 14 | 1 | 12 | 3 | 12 | 16 | 13 | 77 см, ІІІд. 2м. 84 г. |
| 1985 - 89 гг. | 29 | 39 | 49 | 54 | 55 | 52 | 56 | 59 | 47 | 3 | 10 | 14 | 15 | 23 | 28 | 111 см, 3м. 85 г. |
| 1990 - 94 гг. | 26 | 19 | 20 | 31 | 37 | 37 | 27 | 24 | 1 | 1 | 9 | 15 | 24 | 23 | 27 | 80 см, ІІд. 2м. 91 г. |
| 1995 - 99 гг. | 34 | 38 | 48 | 48 | 35 | 33 | 25 | 24 | 11 | 4 | 8 | 10 | 17 | 22 | 25 | 76 см, ІІ-ІІІд. 2м. 96 |
| 2000 - 2002 гг. | 18 | 25 | 13 | 14 | 13 | 13 | 12 | 3 | 4 | - | 3 | 8 | 25 | 37 | 44 | 65 см, ІІІд. 12м. 02г. |
| Максімум па месяцах | 70 | 74 | 82 | 84 | 100 | 110 | 111 | 111 | 111 | 17 | 43 | 70 | 73 | 66 | 65 | 111 см. |
| | | 1996 | 1969 | 1973 | 1985 | | | 1985 | | 1998 | | 1993 | 1993 | 1998 | 2002 | I-III д. 3 м. 1985 г. |
| **Годы, калі адсутнічала прамярзанне** | 1983<br>1988 | 89<br>90<br>98 | 83<br>89<br>98 | 90<br>2000<br>2002 | 90<br>95<br>98<br>2002 | 66<br>89<br>90<br>95<br>98<br>2000 | 75<br>89<br>90<br>95<br>97<br>02 | 75<br>77<br>89<br>90<br>95<br>01<br>2002 | 72-75<br>78<br>82-83<br>88-89<br>91-93<br>98<br>2000<br>2002 | 81<br>87<br>89<br>91<br>96-97<br>2000<br>01 | 82<br>86-87<br>90<br>92<br>96<br>2000<br>02 | 81-82<br>84<br>86-87<br>90-91<br>97<br>99 | 75<br>81<br>84<br>85<br>96<br>97<br>99<br>2000 | 81<br>97 | 80<br>81 | |

**Табл № 8. Вышыня снежнага покрыва на апошні дзень дэкады паводле дадзеных снегаздымак па Лідскаму раёну за 1963-2002 гг. (у см).**

| Месяц / Дэкада / Перыяд | Студзень I | II | III | Люты I | II | III | Сакавік I | II | III | Лістапад I | II | III | Снежань I | II | III | Максімум за перыяд |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1963 - 69 гг. | 12 | 16 | 19 | 15 | 21 | 22 | 19 | 15 | 9 | - | - | - | 5 | 8 | 10 | 42 см, ІІд. 3м.69 г. |
| 1970 - 74 гг. | 14 | 9 | 10 | 12 | 12 | 9 | 6 | 4 | 2 | - | - | - | 8 | 15 | 8 | 42 см, ІІд. 2м. 70 г. |
| 1975 - 79 гг. | 9 | 14 | 16 | 22 | 23 | 17 | 9 | 7 | - | - | - | - | 2 | 5 | 7 | 51 см, Ід. 2м. 79 г. |
| 1980 - 84 гг. | 10 | 13 | 15 | 17 | 16 | 16 | 10 | 7 | 5 | 1 | - | 2 | 7 | 7 | 10 | 38 см, ІІІд. 1м. 82 г. |
| 1985 - 89 гг. | 8 | 15 | 17 | 13 | 16 | 19 | 17 | 13 | - | - | - | 3 | 3 | 6 | 3 | 38 см, ІІІд. 2м. 86 г. |
| 1990 - 94 гг. | - | 5 | 2 | 3 | 7 | 9 | 3 | - | - | - | - | - | - | 1 | 2 | 19 см, ІІІд. 2м. 94 г. |
| 1995 - 99 гг. | 11 | 8 | 8 | 9 | 12 | 13 | 12 | 10 | 8 | - | 3 | 3 | 3 | 5 | 8 | 49см, Ід. 3м. 96 г. |
| 2000 - 2002 гг. | 9 | 12 | 3 | - | 3 | 3 | 1 | 3 | - | 1 | - | - | 1 | 3 | 11 | 24 см, ІІІд. 12м. 01г. |
| Максімум па месяцах | 28 | 34 | 44 | 51 | 46 | 48 | 49 | 45 | 38 | 4 | 10 | 13 | 20 | 31 | 35 | 51 см. |
| | 1996 | 1982 | 1973 | | - | | | 1985 | 1969 | 1980 | 1999 | 1997 | 1973 | | 1981 | І д. 2 м. 1979 г. |
| **Годы, калі адсутнічала прамярзанне** | 1975 1983<br>1989 - 1992<br>1998 - 1999<br>2001 | | | 1975<br>1989 - 1990<br>1992 - 1993<br>1997 - 1998<br>2000 - 2002<br>2000 | | | 1966 - 1967<br>1971 - 1975<br>1977; 1981<br>1983<br>1989 - 1992<br>1995;<br>1997 - 1998<br>2000; 2002 | | | | | | 1975; 1979<br>1982<br>1989 - 1992<br>1997; 2000 | | | |

апошнія 3 гады (2000-02) гэтая розніца склала 3,7 град., гэта самы нізкі перапад, а самы высокі - 6 град. характэрны перыяду 1975-79 гг. Самы цёплы кастрычнік быў у 1967 г., калі сярэднемесячная тэмпература склала 9,7 град., а самы халодны - ў 1976 г. з тэмпературай 3 град. (Табл. №2). У канцы месяца ў асобныя халодныя гады бывае да 5 град. марозу, пры гэтым самы халодны дзень быў у 1979 г., калі тэмпература апусцілася да - 8,7 град. Пры рэзкіх пацяпленнях дзённая тэмпература у пачатку месяца дасягае 20 град., а 3 кастрычніка 1985 г. паднялася да + 24,7 град.

Сярэднемесячная колькасць ападкаў 50 мм (Табл. № 4). Адхіленне вышэй нормы на 20,6 мм было ў 1970-74 гг., ніжэй на 19,7 мм - у 1975-79 гг. Выключна кантраснымі па ападках з'яўляюцца кастрычнікі 2000-02 гг. (Табл. №5). У 2000 г. выпала 4,2 мм - гэта мінімум, а ў 2002 годзе -156,9 мм, гэта максімальная колькасць за 40 гадоў назірання (Табл. № 6).

Адносная вільготнасць паветра 82-85 %, паўлічваецца ў сярэднім на 2-5%, за выключэннем перыяду 1985-94 гг., калі яна была такой жа альбо

ніжэй на 1%. Самае значнае павелічэнне вільготнасці на 9% было ў перыяд 1963-69 гг.

**Лістапад -** пара перадзім'я. Туманы і дробныя дажджы, якія пераважаюць у першай палове месяца, у другой палове змяняюцца мокрым снегам з дажджом, якія пераходзяць у снегапады. Снег, які выпадае ў лістападзе, звычайна растае, устойлівага снежнага покрыва звычайна не ўтвараецца.

Сярэднемесячная тэмпература паветра прадаўжае заставацца дадатнай + 1,2 град. с ваганнямі па перыядах ад 0,3 да 2,8 град. (Табл. №1). Ад кастрычніка тэмпература паветра паніжаецца на 5,3 град. Па гадах сярэднемесячная тэмпература лістапада значна адхіляецца ад нормы: так у 1978 г. сярэднемесячная тэмпература была + 5,1 град., а у 1993 г. - 4,7 град. (Табл. №2). 17 лістапада 2002 г. тэмпература павышалася да + 17 град., а 22 лістапада 1998 г. паніжалася да 19,3 град. марозу (Табл. № 3)

Месячная норма ападкаў - 53 мм, ваганні па перыядах нязначныя – ад 35 да 59 мм. Максімальная месячная сума ападкаў выпала ў 1967 г. - 74,2 мм., мінімальная - у 1993 г. - 12,2 мм. Розніца складае 52 мм., гэта самая нізкая розніца паміж максімумам і мінімумам ападкаў сярод усіх месяцаў года.

Вільготнасць паветра 87-89%. Перапад кастрычнік-лістапад 2-6% (Табл. №6).

Лістапад — месяц, калі пачынаецца сязоннае прамярзанне глебы. Прамярзанне глебы залежыць ад многіх фактараў. Прыведзены дадзеныя прамярзання супясчанай глебы. У 1 дэкаде прамярзанне нязначнае -1- 4 см., пад канец 2 дэкады - 3-12 см. За лістапад глеба прамерзае на 3-15 см. Максімальнае прамярзанне назіралася ў 1993 г., тады глеба за месяц прамерзла на глыбіню 70 см. За перыяд 1980-2002 гг. прамярзанне адсутнічае 9 гадоў, амаль кожны другі год.

Снежнае покрыва няўстойлівае. Снег ляжыць некалькі дзён, а пасля растае. Максімальная вышыня снегу - 13 см назіралася ў лістападзе 1997 г. (Табл. № 8).

**Снежань-** самы пахмурны месяц. Зямная паверхня атрымоўвае найменшую колькасць сонечнай радыяцыі. Дзень самы кароткі: менш 7 гадзін. Сярэднемесячная тэмпература 3,3 град. марозу. Ад лістапада да снежня тэмпература паветра паніжаецца на 4,5 град. За апошнія 3 гады (2000-2002) гэтая розніца склала 7,8 град. - гэта самы высокі перапад лістапад-снежань (Табл № 1). За апошнія 8 гадоў (1995-2002) снежань стаў халадней за студзень і люты на 0,5-4,5 град. Самы халодны снежань быў у 1978 г., калі серэднемесячная тэмпература апусцілася да 9,2 град. марозу, а самым цёплым быў снежань 1971 г., калі тэмпература склала 1 град. цяпла. Пры ўварванні арктычнага паветра тэмпература можа ўпасці да 29,5 град. марозу, як гэта назіралася 27 снежня 1996 г. Абсалютны снежаньскі максімум + 9,9 град здарыўся 13 снежня 2000 г. (Табл. № 3).

У снежні ападкаў выпадае больш, чым у астатнія халодныя месяцы, але менш, чым у цёплыя сезоны. Сярэднемесячная сума ападкаў - 47 мм, з ваганнямі ад 13,8 мм (1972) да 100,5 мм (1993). Па колькасці ападкаў за апошнія тры гады снежань займае перадапошняе месца пасле красавіка (Табл. № 4-5).

Снежань - месяц з самай высокай адноснай вільготнасцю паветра - 90 %. Гэтая заканамернасць за 40 гадоў была парушана у 1975-79 і 1995-99 гг., у гэтыя перыяды вільготнасць была вышэйшая ў лістападзе (Табл. №6).

Глыбіня прамярзання глебы ў снежні ў сярэднім дасягае 13- 44 см. Максімальнае прамярзанне - 73 см назіралася ў 1 дэкадзе 1993 г. За 40 год назірання прамярзання ў канцы снежня не было двойчы – у 1980 і 1981 гг. (Табл № 7)

Снежань - месяц утварэння снежнага покрыва (Табл. № 8). У 1 дэкадзе сярэдняя вышыня снегу - 4 см, у 2 дэкадзе - 6 см (1 -15 см у асобныя перыяды), у 3 дэкадзе - 8 см (ад 2 да 11). Самы высокі снежны покрыў назіраўся ў 1981 г. - 35 см. Снегу зусім не было ў 1975, 1979, 1982, 1989-1992, 1997, 2000 гг.

**Студзень** у 20 стагоддзі - самы халодны месяц. Сярэднемесячная тэмпература паветра 5,8 град. марозу, падзенне тэмпературы ад снежня да студзеня складае 2,5 град. (Табл. № 1). Самыя халодныя студзені з сярэднемесячнай тэмпературай 8,8 град. марозу былі ў 1963-69 гг., самыя цёплыя -- у 1990-94 гг. - з тэмпературай 0,9 гр. ніжэй нуля. Сярэднемесячная тэмпература вагалася ад 15,5 град. марозу (1987) да 1,2 град. цяпла (1989), розніца 16,7 град.- самая высокая для сярэднемесячных перападаў ў годзе (Табл. № 2). Абсалютны мінімум належыць студзеню1970 г., калі слупок тэрмометра апусціўся да 34,3 град. марозу. Паўтаральнасць моцных марозаў невялікая: 1 раз у 20 - 40 гадоў. Днём тэмпература паветра звычайна на 7 град. вышэй, чым ноччу. Выключна цёплым было 11 студзеня 1991 г., слупок тэрмометра падняўся да 10 град. цяпла.

Сярэднемесячная сума ападкаў 38 мм. Менш усяго ападкаў за 40 гадоў назіранняў было ў 1977 г. - 14,1 мм. Найбольшая колькасць ападкаў выпала ў студзені 1986 г. - 98 мм, амаль тры нормы (Табл. № 5).

Вільготнасць паветра 85-89%, ніжэй за снежань у сярэднім на 2% (Табл. № 6).

Глыбіня прамярзання глебы пад канец месяца дасягае 13 (2000-02) -55 см (1970-74) Максімальнае прамярзанне 82 см прыпадае на 1969 г. Адсутнічала прамярзанне глебы ў 1983,1989 і 1998 гг. (Табл. № 7).

1976-82, 1984-87 гады былі з устойлівым снежным покрывам, г. зн. снег на працягу месяца ўтрымліваўся. Пачынаючы з 1989 г. устойлівы снежны покрыў на працягу ўсяго студзеня быў толькі ў 1993,1996,2000 гг., пры гэтым у 1983, 1989-1990, 1998 гг. адсутнічаў не толькі снег, але і не было прамярзання глебы. Сярэднемесячныя тэмпературы паветра ў гэтыя гады - 0,1 град., 1,2 град., 0,2 град. цяпла, 0,3 град. марозу адпаведна. Самы высокі снег быў ў перыяд 1963-69 гг. У 1963-69 і 1975-89 гг. снежны покрыў павялічваўся ад 1 да 3 дэкады. А вось у 1990-2002 гг. вышыня снежнага покрыва на працягу месяца ўбывала.

**Люты.** Пачынаецца паступовае павышэнне тэмпературы паветра на 0,8 град. (1985-89 гг.) - 3,4 град. (1970-74 гг.), бывае і паніжэнне на 0,3 - 0,8 град. (1975-84, 1990-94 гг.) (Табл. № 1). Сярэднемесячная тэмпература лютага вагаецца ад 12,8 град. марозу ў 1985 г. да 3,6 град. цяпла ў 1999 г. (Табл. № 2). Абсалютны мінімум тэмпературы паветра - 29,9 град.

назіраўся ў 1970 г. Абсалютны максімум адзначаны 24 лютага 1990 г., слупок тэрмометра падняўся да +14,7 град. (Табл. № 3).

Люты – месяц з найменшай сумай ападкаў- у сярэднім за стагоддзе выпала 32 мм. У лютым 1972 г. выпала 2,5 мм гэта абсалютны мінімум за 40 гадоў назірання. Максімум ападкаў - 89,5 мм выпала ў 2002 г. (Табл. № 5).

Адносная вільготнасць паветра (83- 87 %) ад студзеня да лютага памяншаецца на 2-4 %, акрамя перыяду 1970-74 гг. (Табл. № 6).

Глыбіня прамярзання глебы застаецца, як правіла, нязменнай: 13 см (2000-02) -57 см (1970-74), і на працягу месяца можа, як прырасці, так і зменшыцца на 10- 15 см. У 1985 г. прамярзанне глебы дасягнула 110см.

Самая значная вышыня снежнага покрыву назіралася ў 1964-69 гг. (22 см), самая малая ў 2000-02 гг. (3 см). Максімальная адзначана ў 1 дэкадзе 1979 г. - 51 см. Без снегу або з няўстойлівым снежным покрывам было 10 лютых з 40. (Табл. № 8)

**Сакавік.** Ад лютага да сакавіка тэмпература паветра ўзрастае на 2-5,9 град. Сярэднемесячная тэмпература + 1,2 град. Найбольш цёплым быў сакавік 2000 г. з сярэднемесячнай тэмпературай +4,7 град. (Табл. № 2).

У 1964 годзе сакавіцкая тэмпература была на 6,9 град. ніжэй звычайнай. Па абсалютнаму мінімуму (-32,3 град. ў 1964 г) сакавік уступае толькі студзеню. Абсалютны сакавіцкі максімум назіраўся 20 сакавіка 1990 г. + 19,7 град.

У сакавіку выпадае 37 мм ападкаў (Табл. № 4). Максімальная сума ападкаў - 89,2 мм выпала ў 1994 г., мінімальная – у 1969 г. - 6,7 мм. (Табл. № 5).

Адносная вільготнасць паветра 73-83 %, ад лютага да сакавіка па перыядах памяншаецца з 1% ў 1975-79 гг. да 10% ў 1970-74 гг.

Глыбіня прамярзання глебы ў сакавіку памяншаецца. На канец сакавіка за 40 гадоў назірання прамярзанне адсутнічае ў 17 гадах. Гадавы максімум глыбіні прамярзання глебы (111 см) назіраўся ў 1985 г.

Вышыня снежнага покрыва памяншаецца, на канец месяца снежны покрыў адсутнічае ў 33 выпадках з 40. Максімальна снежнымі былі 1964-69 і 1995-99 гг., з нязначнай снежнай вышынёй - перыяды 1975-79; 1990-94; 2000-02 гг. Максімальная вышыня снежнага покрыву за сакавік (49-45-38 см) была ў 1996 г. (Табл. № 8)

**Красавік -** разгар вясны. Вышыня сонца павялічваецца, павялічваецца і дзень; гэта садзейнічае ўзрастанню прыходу сонечнага цяпла. Сярэднемесячные тэмпературы паветра заўсёды дадатныя + 6 град. Ад сакавіка сярэднемесячная тэмпература значна павышаецца ад 5,4 град. (1975-79) да 7,9 град. (1963-69), гэта самае значнае павышэнне тэмпературы за год (Табл. № 1). Самыя цёплыя красавікі былі ў 2000-02 гг. + 9,5 град. Па А. Х. Шкляру, які аналізаваў дадзеныя назірання з 1871 г., за 10-цігоддзе 1954-63 гг. тэмпература красавіка паднялася, прычым найбольш інтэнсіўна на поўдні і слабей ў цэнтры Беларусі. Самы халодны красавік з сярэднемесячнай тэмпературай +4,3 град. назіраўся тройчы: у 1981, 1987, 1997 гг., самы цёплы - з тэмпературай 11,3 град. быў у 2000 г. (Табл. № 2). Мароз 9,7 град. назіраўся ў красавіку 1963 г. Самы цёплы дзень з тэмпературай 26,5 град. здарыўся 19 красавіка 2000 г. (Табл. № 3).

Ападкаў за красавік у сярэднім выпадае 48 мм. У 2000-02 гг. выпала мінімальная колькасць - 30,2 мм. Бывалі гады, калі ападкаў выпадала мала - 10,1 мм у 1974 г., 12,2 мм у 1990 г., а бывала і наадварот- ў 1975 г. выпала 103,4 мм, а ў 1977 г - 104,1 мм. (Табл. № 5)

Адносная вільготнасць паніжаецца да 67-77 %. (Табл. № 6)

**Травень.** Ад красавіка да траўня адбываецца далейшы рост тэмпературы паветра прыкладна з такой жа інтэнсіўнасцю - 4,6 град. (2000-02 гг.) - 7,4 град. (1985-89 гг.), як ад сакавіка да красавіка. Среднетравеньская тэмпература +12,7 град. Ваганні па перыядах нязначныя 12,5- 14,1 град., травень, як і верасень, пастаянны па тэмпературным рэжыме месяц. Ваганні сярэднемесячных температур ад + 8,1 град. (1980) да +16,1 град. (1963). У 1963 г. у траўні тэмпература апусцілася да 9,7 град. марозу, у 1979 г падымалася да + 30,1 град.

Месячная норма ападкаў 63 мм. Ваганні па перыядах у межах 47,6-64,6 мм (Табл. № 4). Сухім быў травень 1971г., калі выпала 13,4 мм, дажджлівым - травень 1984 г., калі выпала 131,4 мм. (Табл. № 5).

Травень – месяц з самай нізкай адноснай вільготнасцю: 61 (2000-02) - 73 %. Толькі ў 1963-69 гг. вільготнасць у чэрвені была меншай. (Табл. № 6).

**Чэрвень -** цалкам летні месяц +16 град. Ваганні па пярыядах нязначныя – ад 15,4 (1990-94) да 17,5 (1995-99). Рост тэмпературы паветра ад траўня да чэрвеня 1,8 – 5 град. ( Табл. № 1). Самым халодным з тэмпературай 13,7 град. быў чэрвень 1985 г., а самым цёплым быў чэрвень 1999 г. з тэмпературай 19,9 град. Абсалютны максімум здарыўся ў чэрвені 1964 г., тэмпература тады паднялася да +32,7 град. Мінімальная тэмпература + 1,6 град. назіралася двойчы: 11 чэрвеня 1982 г. і 1 чэрвеня 2001 г.

Адносная вільготнасць паветра 68-76 %, з траўня па чэрвень вырастае ў сярэднім на 4%, у 1963-69 гг. паменшылася на 5%. На 9% павялічвалася вільготнасць у 1985-89 і 2000-2002 гг.

**Ліпень - с**амы цёплы месяц. Сярэднесутачная тэмпература + 17,4 град. Толькі ў 1975-79 гг. тэмпература ліпеня была ніжэйшай, вышэйшай была тэмпература жніўня. Нарастанне тэмпературы ад чэрвеня да ліпеня складае ў сярэднім 1,5 град. Максімальнае нарастанне тэмпературы +3,7 град. назіралася ў перыяд 2000-02 гг. Сярэднямесячная тэмпература паветра вагаецца ад 14 (1975) да 21,5 град. (2001). Абсалютны мінімум + 2,2 град. назіраўся ў 1971 г. Абсалютны максімум дасягнуў + 35,2 град. 30 ліпеня 1994 года.

Норма ападкаў 78 мм, толькі на 1мм ніжэй чэрвеньскай. У 1975-84 і 2000-02 гг. у ліпені выпадала найбольшая месячная колькасць ападкаў. Найбольш дажджлівы быў ліпень 1999 г., калі выпала 199,8 мм – максімальная сума за апошнія 40 гадоў. Рэкордна сухі быў ліпень 1994 г. - выпала, як у пустыні, 2,1 мм.

Сярэднемесячная адносная вільготнасць паветра 70-76 %, ад чэрвеня да ліпеня ўзрастае на 1-7%, у

1985-89 і 1995-99 гг. паменшалася на 1- 2%.

**Жнівень - а**пошні цалкам летні месяц. Сярэднемесячная тэмпература за 20-е стагоддзе +16,5 град. з ваганнямі за апошнія 40 гадоў у межах: +14,4 град. (1987) + 19,7 (1992). Абсалютны гадавы максімум здарыўся 29 жніўня 1992 г. + 35,3 град. У жніўні 1966 г. был зафіксаваны мароз - 0,1 град.( Табл. № 2)

Сяэрднемесячная норма ападкаў 76 мм, з вагаагнямі ад 5,9 мм (1973) да 120,5 мм (1988).

Вільготнасць паветра ад ліпеня да жніўня заўважна не мяняецца – 71-78 % (Табл. № 6).

**Гадавыя паказчыкі.**

Сяраднегадавые тэмпературы паветра вагаюцца ад 4,6 град.(1969) да 8,2 град. (1989,2000). Самай халоднай была пяцігодка 1963-69 гг. (+5,7 град), наступная пяцігодка была цяплей на 0,6 град., далей назіраліся ваганні ў межах ад - 0,3 до +1,2 град., з дадатнай агульнай тэндэнцыяй. З другой паловы 60 –х гадоў тэмпература павялічылася на 1,3 град. Гэта вельмі шмат. Агульнагадавое павышэнне температур адбываецца за кошт павышэння зімовых і летніх тэмператураў, з некаторым паніжэннем температур у асеннія месяцы і ў снежні. Высокія сярэднегадавыя тэмпературы + 7,9-8,2 град. назіраліся ў 1975,1989-90, 2000, 2002.

Найбольшыя сярэднемесячные температуры прыпадаюць найчасцей на ліпень (з 40 гадоў - 26), радзей на жнівень (11 гадоў), яшчэ радзей на чэрвень (6 гадоў), кожны трэці жнівень цяплей за ліпень, апошнія гады жнівень цяплей за іншыя месяцы ўсё часцей (1971, 1975, 1978, 1983-85, 1990, 1992, 1996-97, 2000). У ліпені 1994,1999,2000, 2002 гг. сярэднемесячная температура превышала 20 град. Мінімум прыпадае кожны другі год на студзень (з 40 - 21 раз), на люты - 10 разоў, на снежань - 7 разоў, на лістапад - 1 раз (1993). Да 1978 г., згодна з А. Х. Шклярам, мінімумы ў снежні не назіраліся. Самым марознымі месяцамі з сярэднемесячнай тэмпературай ніжэй -10 град. за апошнія 40 гадоў былі студзень 1963,1968,1969,1972, 1987 і люты 1985-86 гг.

Самыя халодныя дні з тэмпературай ніжэй мінус 29 град былі ў студзені 1963,1970,1987, у лютым 1970, сакавіку 1964, 27 декабря 1996 г. Абсалютны тэмпературны максімум для Лідчыны +35,3 град., вышэй 35 град. термометр поднімаўся ўжо двойчы: в 1992 і 1994 гг. Абсалютны мінімум - 34,3 град. марозу. Рознасць 69,6 град. - гэта невысокі паказчык для Беларусі.

Найбольш халоднымі зімы былі ў 1962-63, 1963-64, 1968-69, 1969-70, 1978-79, 1979-80, 1984-85, 1985-86, 1986-87, 1995-1996 гг. У гэтыя зімы адмоўная тэмпература паветра ўстанаўлівалася з лістапада і ўтрымлівалася да канца сакавіка. Дадатныя сярэднемесячныя тэмпературы студзеня назіраліся ў 1975, 1983, 1989, 1990, 1994 гг, у сярэднім 2 разы за 10 гадоў. Дадатныя тэмпературы лютага ўстанаўліваліся ў 1989, 1990, 1995, 1997, 1998, 2000, 2002. Толькі ў 90-х гадах - 4 разы. Дадатныя сярэднія тэмпературы сакавіка былі ў 1966-68, 1972-75, 1977-78, 1981-83, 1989-1992,1994-1995, 1997-2002; у 60-80 гады 4 разы ў 10 гадоў, у 1990 -2002 гг. – 8.

Ваганні сярэднемесячных тэмператур больш высокія ў лістападзе і сакавіку; нізкія ў жніўні і верасні.

Найбольш даждлівыя месяцы - червень, ліпень і верасень. Менш усяго ападкаў у студзені, лютым, красавіку. Гадавая колькасць ападкаў таксама, як і тэмпература, мае тэндэнцыю да павелічэння, павелічэнне чаргуецца са змяншэннем. Максімальная колькасць ападкаў (833,7 мм) выпала ў 1977 г. Мінімальная колькасць(501,9 мм) выпала на год раней, ў 1976 г. Менш нормы на 100 мм было ў 1964,1971,1975-76, 1991 і 1999 гг. – гэта засушлівыя гады. Дажджлівымі былі 1970,1974,1977,1980,1990, 1993 і 1998 гг., у гэтыя годы ападкаў выпадала на 100 мм вышэй нормы. Самыя дажджлівыя месяцы за 40 апошніх гадоў былі чэрвень 1968, 1971,1985, ліпень 1977, 1993, 2000, верасень 1990, лістапад 2002 – у гэтыя месяцы выпадала больш 150 мм ападкаў. Нязначныя ападкі (до 10 мм) выпадалі ў сакавіку 1969, лютым 1972, ліпені 1994, жніўні 1983, кастрычніку 2000 г. Прасочваецца выразная заканамернасць – мінімальная колькасць ападкаў раней прыпадала на студзень, затым на люты, а з 2000 г. менш за ўсё ападкаў пачало выпадаць у красавіку. Максімумы ападкаў звычайна выпадаюць на чэрвень або ліпень, у 1990-94 гады выпалі на жнівень. Намячаецца агульнае павелічэнне колькасці ападкаў за кошт павелічэння іх выпадання ў студзені і лютым.

Вільготнасць паветра - азначэнне кансерватыўнае: у зімовыя месяцы ваганні складаюць 2-5%, самыя высокія ваганні ў красавіку-траўні -10-12%. Па гадах ваганні нязначныя - ад 76% (1999, 2002) да 82% (1977).

Прамярзанне глебы мае месца ў лістападзе-сакавіку, максімум прыпадае на люты (ў 5 з 8 перыядаў) адзін раз - на студзень, на сакавік і ў апошні перыяд на снежань. Максімальнае прамярзанне - 111 см.

Снежныя зімы на тэрыторыі Лідчыны назіраліся ў 1962-64, 1968-70, 1978-80, 1984-87, 1995/96 гг. Сакавік без снегу ў 60-80- е гады па 4 разы за дзесяцігоддзе, у 90-х і ў пачатку 21 стагоддзя 8 разоў з 10. Максімальная вышыня снежнага покрыва - 51 см назіралася ў 2 дэкадзе 1979 г. Няўстойлівы снежны покрыў у студзені на лідскай метэастанцыі з’явіўся, як прыродная з’ява ў 1975 г.

Сярэднегадавыя тэмпературы не звязаны з гадавой сумай ападкаў. Дажджлівымі, дзе сума ападкаў была вышэй нормы на 100 мм, г. зн. вышэй 760 мм, былі годы 1970 (халодны, 5,5 град.), 1973 ( 6,3 град.), 1977 (6,2 град.), 1990 (цёплы, 8,1 град.), 1993 (6,3 гр). Сухімі можна назваць годы, дзе гадавая сума ападкаў была ніжэй нормы на 100 мм, г. зн. складала 550 мм. Гэта 1964 (5,6 град.), 1971 ( 6,5 град.), 1975 (8,1 град.), 1976 (5,2 град.), 1979 (5,6 град.), 1982 (6,6 град.), 1991 (7,1 град.), 1999 (7,9 град.).

Сакавіцкія пацяпленні супадаюць з пацяпленнем сярэднегадавых тэмператур, за выключэннем перыяду 1980-84 гадоў.

***Ірына Швед, навуковы супрацоўнік***
***Лідскага гістарычна-мастацкага музея.***

**Літаратура:**

*А.Х.Шкляр. Климатические ресурсы Белоруссии. Минск. 1978.*

**КАБІНЕТЫ І КАЛІДОРЫ ЛІДСКАЙ УЛАДЫ**

# ГОРАД ЛІДА Ў МАІМ ЖЫЦЦІ

**(Уладзімір Міхайлавіч Логаш, старшыня Лідскага гарвыканкаму ў 1969-1980 гг.)**

***Імклівa бяжыць час. Ужо ідзе трэцяе тысячагоддзе, за плячамі 70 пражытых год, а 26 гадоў, якія злучалі мяне з горадам Лідай, пастаянна жывуць у маёй памяці, і ўспамін пра Ліду заўсёды выклікае самыя светлыя і самыя добрыя пачуцці. І не толькі таму, што гэта былі маладыя гады, але больш таму, што гэта былі гады плённай работы, работы па пасляваенным аднаўленні горада, будаўніцтве яго вытворчых і сацыяльна-культурных аб'ектаў, пашырэнні межаў і добраўпарадкаванні.***

***Чаму я сёння пішу гэтыя радкі?***

***Ёсць настойлівыя просьбы шэрагу былых паплечнікаў проста людзей напісаць і расказаць пра тое, што рабілася ў той час, падмацаваць не толькі канкрэтнымі фактамі, але і сваімі рэфлексіямі і ўспрыманнем зробленага і пражытага больш за чвэрць мінулага стагоддзя, якія прыпалі на частку майго жыцця, звязанага непасрэдна з горадам Лідай.***

***Па-другое, як бы падсумаваць вынік тых спраў, якія былі зроблены з маім удзелам, будучы на пасадах ад прараба да кіраўніка трэста – 15 год, а затым – старшыні гарвыканкаму – 11 гадоў....***

***А было зроблена за гэты час вельмі шмат. Напэўна мала хто задумваецца, наколькі складаным з'яўляецца будаўніцтва. Бачны толькі нязручнасці, якія ствараюць будаўнікі на этапах узвядзення аб'ектаў, а крытыкі і папрокаў у іх адрас, хоць адбаўляй. Не задумваецца насельніцтва, у якіх складанейшых умовах (снег, дождж, мароз, слота і мноства іншых праблем) даводзіцца працаваць будаўнікам, хаця памер аплаты працы быў у іх ніжэй, чым на прадпрыемствах горада.***



**Уладзімір Логаш. 1971 ці 1972 год.**
**Фота Ілы Журыцкага.**

***Не гледзячы на тое, што прайшло больш 20 год, як я пакінуў Ліду, усё што зроблена, а таксама многія падзеі і сёння стаяць перад вачамі.***

***Па-трэцяе, Хачу успомніць тых людзей, якія вельмі шмат зрабілі для наладжвання жыцця ў горадзе, яго адбудовы і добраўпарадкавання.***

***Калі я пачаў работу, у горадзе жыло 20 тысяч жыхароў, а ў пачатку 1981 года ў час пераезду на работу ў Горадню горад налічваў амаль 75 тысяч. Калі ўлічыць, што на пачатку 50-х гадоў у горадзе былі лічаныя шматпавярховыя дамы, не было вадаправода, каналізацыі: ні фекальнай, ні ліўневай, крыніц цяпла, разбураная прымысловасць, аб'екты жылля і сацкультбыту, можна ўявіць аб'ём той работы, які быў выканаы за гэтыя гады.***

***Будзе несправядліва, калі не ўзгадаць пра тых людзей і ў Горадні, і ў Менску, і ў Маскве, і ў іншых месцах, якія спрыялі і дапамагалі вырашаць многія праблемы горада. Некаторыя думаюць, што варта папіць кавы з высокім начальнікам, як ужо і шляхапровад гатовы. Усё гэта значна складаней, бо былі і такія, што важна надзімалі шчокі і гаварылі штосьці. А па самой справе было, як па – Крылову: "І мы аралі".***

Нарадзіўся я 10 снежня 1931 г. у вёсцы Ахонава Дзятлаўскага раёна ў 38 кіламетрах ад Ліды, побач з чыгункай Ліда - Баранавічы.

Добра помню ў дзяцінстве яшчэ за польскім часам вясковыя мужыкі часта гаварылі пра Ліду, куды яны вазілі на продаж адкормленых свіней, бо там можна было прадаць іх даражэй, чым у нашым Дзятлаве ці Наваградку. У тыя часы мясцовыя яўрэі скуплялі свіней, а потым перапрадавалі іх на экспарт за межы Польшчы. Цікава было слухаць іх расказы, асабліва калі каму-небудзь з іх удавалася, як яны гаварылі, "ашукаць жыда" і нейкую залатоўку вытаргаваць. З іх гаворак паўставала ўяўленне пра горад, яго памеры, вуліцы, дамы, і здавалася, што ён быў значна большым, чым ваяводскі Наваградак. У тыя часы на вёсках у асенні і зімовы час жанчыны і дзеўкі па чарзе хадзілі на вячоркі, пралі там кудзелю, мужчыны гулялі ў карты, расказвалі цікавыя гісторыі, ці проста небыліцы, спявалі разам песні, бавілі свой час. У гэты час асаблівай работы па гаспадарцы не было, акрамя малацьбы, нарыхтоўкі дроў ды догляду жывёлы. У той час на вёсках захаваліся яшчэ з ліцьвінскіх часоў імёны такія, як у жанчын – Адэля, Саламея, Марцэля, Тэкля, у мужчын – Цыпрусь, Тодар, Тамаш, Гальяш.

Усе гэтыя аповяды пра Ліду я чуў падчас агульных пасядзелак.

Пасля прыходу Чырвонай Арміі ў 1939 годзе ўся

моладзь з вёскі кінулася на работу ў Ліду, куды падаўся і мой старэйшы брат Васіль. Чамусьці амаль усе хлопцы ўладкаваліся у паравознае дэпо: хто качагарам, а хто яшчэ дзе, таму што машыністы і больш высокія чыноўнікі чыгункі былі прысланы з Усходу. Былыя з польскіх часоў работнікі альбо разбегліся, альбо былі проста адсунуты ад працы.

Паступова пачала наладжвацца работа чыгункі і прадпрыемстваў горада.

Першы раз я прыехаў у Ліду недзе ў траўні ці чэрвені 40-га года разам з братам, які кватараваўся на вуліцы Шырокай. Згадваецца першы выхад у горад каля могілак, вадакачкі і да руін замка, унутры якога на пляцы, як мухаморы, стаялі грыбкі-навесы, дзе можна было купіць марожанае ці які прысмак. Па вуліцы Савецкай ляжалі тратуары з бетонных плітак, а праезджая частка забрукавана, паабапал стаялі слупы з тэлефоннымі правадамі. З невысокіх, у асноўных 2-х, 3-х павярховых камяніц на вуліцу выходзілі невялікія лаўкі, снавала многа людзей, ішоў гандаль. Чулася беларуская, руская і польская мовы, між якімі часам яўрэі між сабой гергяталі на сваёй ідзіш. На другі дзень побыту на рынчачным пляцы ладзіўся кірмаш. Уразіла вялікая колькасць фурманак, чаго там толькі не было: бульба, збожжа, сала, вяндліны, рознае печыва, таргавалі півам, напіткамі, сельгаспрыладамі і рознай дробяззю, патрэбнай у гаспадарцы. Сярод мясцовага насельніцтва было нямала вайскоўцаў, чыгуначнікаў, якія былі адзетыя ў сваю ўніформу.

Пасля першай паездкі ў даваенны час даводзілася яшчэ некалькі раз прыязджаць у Ліду разам з маці ці сёстрамі, якія былі старэйшыя за мяне.

Тады мне думалася, што Ліда вялікі горад, і большыя за яе маглі быць толькі Варшава ці Вільня.

І вось вайна, яна пачалася ў нядзелю 22 чэрвеня, а на наступны дзень раніцай каля вёскі над чыгункай з боку Ліды праляцелі нямецкія самалёты і скінулі бомбы. Адна з бомбаў проста насупраць вёскі трапіла на чыгуначную каляю, паразрывала рэйкі і ўтварыла вялікую выврву. Рух паяздоў спыніўся. У гэты ж дзень пайшлі чуткі, што страшна бамбілі Ліду, і ў нашай вёсцы з боку Ліды быў бачны чорны дым – горад гарэў. Праз тыдзень у вёску прышлі немцы. З'явіліся яны па дарозе з Дзятлава на раварах, недзе чалавек 20, нагналі страху на людзей, назбіралі яек і масла і паехалі назад. Неўзабаве чыгуначная каляя была перароблена – яе звузілі пад заходнія стандарты – і рух цягнікоў аднавіўся. Падчас акупацыі нямногія ездзілі ў Ліду, з іх расказаў было вядома, наколькі страшна быў разбураны горад.

Як толькі немцаў выгналі з нашай зямлі, пачало аднаўляцца жыццё і ў Лідзе. Першы мой прыезд у горад адбыўся восенню 1944 года. На чыгуначным вакзале працавалі палонныя немцы, якія аднаўлялі разбураны будынак, а побач у бараку працавалі станцыйныя службоўцы. Забяспечвалі рух цягнікоў. Там, дзе сёння пошта, працаваў невялікі рыначак, бойка ішоў гандаль гарачай бабкай, а таксама розным барахлом. Горад выглядаў жахліва, асабліва цэнтр. Па вуліцы Савецкай ад ТЭЦ да замка амаль усё было ў руінах, калі засталося што, то гэта некалькі дамоў, касцёл ды царква. На былым рынчачным пляцы ўжо ў 1945 годзе зноў пачалі збірацца кірмашы.

Пасля заканчэння школы ў 1950 г. я паступіў на будаўнічы факультэт Беларускага палітэхнічнага інстытута. Дарога з дому да Менска і назад праходзіла праз Ліду, і на працягу ўсёй вучобы я быў сведкам, як памалу аднаўляўся горад і як наладжвалася жыццё, тым больш, што дзве старэйшыя сястры Вера і Юля сталі сталымі жыхарамі горада, і я часта на працяглы час затрымліваўся ў іх сем'ях. У 1954 годзе пасля 4-га курса інстытута я праходзіў тут вытворчую практыку на працягу амаль 2-х месяцаў у гарадскім будаўнічым упраўленні.

Галоўны інжынер упраўлення Кішкурна прызначыў мяне на гэты час майстрам на будаўніцтва цэха лемяхоў і адвалаў "Лідсельмаша". Пры гэтым глянуў на мяне і дадаў: "Будзеш мець магчымасць зарабіць пару рублёў на туфлі", бо абутак у мяне выглядаў не лепшым чынам.

Роўна праз год пасля заканчэння інстытута я прыехаў у Ліду на сталую працу ў будаўнічае ўпраўленне і быў прызначаны на пасаду прараба. У гэты час маімі аб'ектамі былі ТЭЦ, "Сельмаш" і абутковая фабрыка. На ТЭЦ ужо працаваў адзін кацёл, і дзве турбіны давалі ток гораду, ішла работа на другім катле і рыхтаваліся фундаменты над трэцюю турбіну і градзірню. На "Лідсельмашы" завяршаліся работы на цэху лемяхоў і адвалаў, пачыналіся работы на кавальскім цэху, а таксама па пракладцы чыгункі ад ТЭЦ на тэрыторыю завода.



**Пасляваенная Ліда.**

Ужо ў пачатку 1956 года, калі на ТЭЦ з'явіўся лішак цяпла, пачалі пракладаць цеплавыя сеткі, каб перадаць цяпло на піўзавод, камбінат харчовых канцэнтратаў, абутковую фабрыку, "Сельмаш", у жылыя дамы, бо да гэтага ўсе заводы мелі свае невялікія кацельні, а ў Дворышчы кожнае лета ўручную капалі торф, сушылі яго і рыхтавалі паліва на зіму. Вялікую дапамогу ў будаўніцтве аказвалі кіраўнікі заводаў, бо былі вельмі зацікаўленымі атрымаць на свае вытворчасці цяпло. З прыемнасцю ўспамінаю Данілу Маркавіча Шапіру – дырэктара "Сельмаша", Георгія Арцёмавіча Сляпцова – дырэктара піўзавода, Рыгора Апанасавіча Машыхіна, а затым Віктара Дзмітрыевіча Марыніна – дырэктараў камбіната харчовых канцэнтратаў, якія вельмі часта бывалі на будоўлі і, чым маглі, дапамагалі. Амаль кожны месяц я для сваіх рабочых атрымоўваў дазвол на піўзаводскую саладзіну ці зерневыя адходы з камбіната харчовых канцэнтратаў, каб карміць уласных свіней.

У сярэдзіне 50-х гадоў з ВНУ Беларусі ў Ліду пачало прыбываць многа маладых спецыялістаў. Гэта дактары: Шэшка, Лысы, Місевіч, Войніч; настаўнікі: Цішук, Русак; інжынеры: Татур - на ТЭЦ, Мураўкін, Ярэма і Обарнеў – на чыгунку: Шарык, Бубен, Кашынскі, Азаранка, браты Скрабцы - на "Сельмаш". У асноўным гэта былі мясцовыя, свае, нацыянальныя кадры, якія паступова пачалі замяняць адпрацаваўшых, у асноўным практыкаў, але зрабіўшых сваю добрую справу, людзей.

У гэты час будаваліся: кінатэатр "Кастрычнік", гасцініца па вул. Кірава, гарком КПБ, дзіцячыя яслі па вул. Кірава, жылыя дамы па вул. Савецкай.

З кожным годам аб'ёмы будаўнічых работ у горадзе раслі, а акрамя гэтага былі аб'екты ў Воранаўскім, Іўеўскім і Жалудоцкім раёнах.

У 1959 годзе, у студзені я быў прызначаны галоўным інжынерам будаўнічага ўпраўлення – узрос аб'ём работы, павялічылася адказнасць.

Рос і калектыў будаўнічага ўпраўлення, павышалася прафесійнае майстэрства кадраў, якім пад сілу былі і ўзросшыя аб'ёмы работ, і тэхналагічная складанасць аб'ектаў. З высокім прафесіяналізмам працавалі муж і жонка Кавальцовы, майстры Ляпешка, Зюлкоўскі і Банцавіч, брыгадзіры Бічэль, Мікавоз, Лапіцкі, Гагалушка і многа іншых годных людзей.

У 1959 годзе добрай падзеяй для горада стала пабудова па вул. Міцкевіча маста і плаціны, і на рацэ Лідзейцы ўтварылася добрае возера, якое стала месцам адпачынку для гараджан. Будаўніцтва вялося пад кіраўніцтвам галоўнага інжынера камунгаса Крыніцкага А. М., які не толькі будаваў, але і сам запраектаваў усе пабудовы, а работы вяліся метадам "народнай будоўлі".

Неяк у гэты час мяне да сябе запрасіў начальнік упраўлення Сіранкоў Ф. І. і сказаў, каб я агледзеў касцёл на Слабадзе, маўляў, ёсць звесткі, што ён знаходзіцца ў аварыйным стане, што там працякае дах і падгнілі перакрыцці і столь. Я пабываў там, залез на гарышча, агледзеў усе канструкцыі, убачыў, што яны зроблены дабротна – і кроквы, і бэлькі: толькі ў адным месцы падцякаў дах, але неістотна і падправіць яго было вельмі проста. Таму я даў заключэнне, што касцёл у добрым стане.

Недзе ў 1960-м ці 1961-м годзе пачалося будаўніцтва аўтарамонтнага завода. Спачатку дырэктарам быў Дакукаў, а затым Дулуб. Завод будаваўся на новай пляцоўцы, былі вялікія цяжкасці з інжынерным забеспячэннем.

У 1963 годзе пачалося ўзвядзенне лакафарбавага завода. Па тым часе гэта была будоўля вялікай хіміі, знаходзілася на кантролі партыйных органаў, Міністэрства прамысловага будаўніцтва. На будоўлі часта бывалі сакратар гаркама Фамічоў, намеснік старшыні саўнаргаса Батурын, міністр будаўніцтва Жыжаль, кіраўнік трэсту Кіціс.



**Кастрычнік 1963 года. Пачатак будаўніцтва лакафарбавага завода. Злева направа: майстар БПМ-299 з Баранавіч Нікіцін, майстар БУ-53 Святлана Верамоўская, начальнік тэхнагляду завода Ф. І. Сіранкоў, галоўны інжынер праекту ШПІ-4 М. А. Вераб'ёў, прараб БУ-53 Л. Л. Вендзілоўскі, галоўны інжынер БУ-53 У. М. Логаш, в. а. дырэктара завода В. Р. Шнявін. Здымак каля склада гатовай прадукцыі № 2.**

Рашэннем калегіі Міністэрства прамысловага будаўніцтва я быў прызначаны начальнікам пускавога комплексу лакафарбавага завода з адначасовым выкананнем абавязкаў галоўнага інжынера ўпраўлення. У гэты час начальнікам упраўлення быў Кулеба. Тады ж упраўленне папоўнілася маладымі інжынерамі Вендзілоўскім, Антоненкам, Верамоўскай, Івановым, эканамістам Яцэвіч.

Па справах будоўлі лакафарбавага завода даводзілася часта выязджаць у Менск у саўнаргас, дзяржплан, міністэрства, дзяржзабесп і апаратыўна вырашаць розныя пытанні. З многімі працаўнікамі ўсталяваліся добрыя асабістыя кантакты – гэта вельмі дапамагала ў рабоце. У гэты ж час пачалася забудова цэнтра горада вайсковымі будаўнікамі. Праект забудовы быў распрацаваны "ваенпраектам" на чале з архітэктарам Ісачанкам У. Р., які пазней стаў галоўным архітэктарам Гарадзенскай вобласці. Трэба сказаць, што забудова цэнтра вялася шпарка: недзе на працягу 3-х гадоў быў пабудаваны Дом афіцэраў і жылыя дамы, якія ўтварылі галоўную плошчу, вуліцы Савецкую, Кірава і Ленінскую.

Ужо на пачатку шасцідзесятых гадоў стала відавочным, якія вялікія нязручнасці стварае чыгунач-

ны пераезд з вуліцы Ленінскай на Камуністычную: падчас манеўровай работы на ст. "Ліда" перад шлагбаўмамі ствараліся вялікія чэргі з аднаго і другога бакоў. Машыны не толькі трацілі час, але і забруджвалі атмасферу. Тады, яшчэ пры працы старшынём выканкаму Ушацкага І. І., была зроблена спроба падступіцца да гэтага пытання: на вуліцах Ленінскай і Камуністычнай былі выбіты пікеты і праведзена геадэзічная здымка пад будучы шляхапровад, але потым, пасля таго, як Ушацкі пераехаў у Горадню, гэтая работа на некалькі гадоў замерла.

З пачаткам будаўніцтва лакафарбавага завода рэзка пайшлі ў рост аб'ёмы работ у цэлым па будаўнічым упраўленні, бо ўзнікла патрэба ў аб'ектах інфракструктуры: жыллё, дзіцячныя садкі, вадаправод, каналізацыя і г. д.

Да гэтага, напрыклад, усе каналізацыйныя сцёкі ад аб'ектаў, што былі ў цэнтры горада, без ачысткі сцякалі ў некалі чыстую крынічную рачулку Каменка, якая адным рукавом выцякала з гарадскога парку, а другім – з-пад бальніцы і цякла каля стадыёна, а зліваліся яны каля цяперашняга магазіна "Кніжны свет". Усе гэтыя сцёкі моцна забруджвалі Каменку, і ў насельніцтва яна атрымала новую назву – Смярдзючка. Не было ў горадзе і вадаправода. Кожнае прадпрыемства і групы дамоў атрымлівалі ваду ад сваіх, прасвідраваных побач артэзіянскіх свідравін, што пярэчыла санітарным нормам.

Такім чынам, горад не меў нармальнай, пісьменна пралічанай інжынернай інфраструктуры, не магло быць і спецыялістаў-рабочых, якія маглі б прафесійна выконваць работы.

Усё гэта ствралася па ходу спраў. Добрыя стасункі ў гэты час у будаўнічага ўпраўлення скláліся з будаўнічым трэстам № 15 г. Менска, які даў згоду пракласці праз увесь горад ад галоўнай помпавай станцыі, па вул. Перамогі да ачышчальных збудаванняў напорны каналізацыйны калектар з жалезабетонных труб, якія ўпершыню ў БССР прымяняліся ў такім будаўніцтве. Выконвалі гэтыя работы з УМ-70 Міхаіл Ільіч Старынскі і прараб Віктар Іосіфавыч Міцкевіч, а з СУ-72 прараб Копель Хаймавіч Гурэвіч, якія выдатна зрабілі справу.

Не было ў той час і Генеральнага плана горада – а гэта галоўны стратэгічны дакумент забудовы. Першыя прыкіды яго з'явіліся недзе ў 1963 годзе. Спытаецеся: а як ішла забудова? А так і шла: які-небудзь высокі чыноўнік, які меў рэальную ўладу, гаварыў, што вось тут пасадзім той ці іншы аб'ект, а тут пракладзём дарожку. Старэйшыя людзі помняць, як па вуліцы Перамогі былі пабудаваны новыя аб'екты: кніжны магазін, дзяржаўны банк, прадуктовы магазін "Чайка", якія ужо ў 70-я гады давялося зносіць, бо не ўпісваліся ў агульную схему. Што такое-рабіць без плана, можна і сёння пабачыць. Звярніце ўвагу на былую кантору камбіната бытавога абслугоўвання па вуліцы Ленінскай, якая, як "скула", ненатуральна выпірае на тратуар і праезджую частку.

У гэты час 1-м сакратаром быў Рыгор Філатавіч Фамічоў, які падчас вайны партызаніў у гэтых мясцінах, палюбіў наш край і вельмі хацеў і рабіў, каб усё лідскае было самым лепшым. З яго ініцыятывы Марыя Паўлаўна Галяева стварыла "Лідскае піва", якое і да сёння мае высокую папулярнасць. На камбінаце харчовых канцэнтратаў быў створаны "Лідскі набор спецый для юшкі", на абутковай фабрыцы – сувенірныя тапкі, на заводзе электравырабаў – адмысловыя свяцільнікі.

Яго стараннямі ў 1966 годзе без плана было распачата будаўніцтва першага ў вобласці крытага плавальнага басейна. Успамінаю, як па яго дамоўленасці я выязджаў у ЦК КПБ і дзяржплан і атрымаў фонд пад гэтую будоўлю на цэмент, метал, аздобную плітку. Многа дапамагаў ён асабіста пры будаўніцтве лакафарбавага завода. Яго стараннямі галіновае міністэрства прадугледзела грошы на будаўніцтва новай гасцініцы, а невялікую гасцініцу па вул. Кірава перадалі пад інтарнат лакафарбавага завода. Наогул, Рыгор Філатавіч па свайму складу быў гаспадарнікам, нездарма ў канцы ён стаў старшынём аблвыканкаму.

Праз два гады пасля пачатку ў рэкордна кароткі час у 1965 годзе была ўведзена ў эксплуатацыю першая чарга лакафарбавага завода. А гэта цэхі эмаляў і фарбаў, цэх алкідных смолаў і цэх нітрафарбаў са складамі сыравіны, гатовай прадукцыі, завода-ўпраўленне, інжынерныя збудаванні, каля 2 км цеплaсетак, чыгунка з мастом праз возера, вадазабор, сеткі вадаправода і каналізацыі, пад'язныя дарогі. Прыёмка завода была абстаўлена ўрачыста – быў мітынг, аркестр. Прысутнічалі: Батурын – нам. старшыні саўнаргаса, Круль -- нам. міністра будаўніцтва, Кіціс – кіраўнік трэста № 11, Фамічоў – 1-ы сакратар гаркама партыі і кіраўнікі генпадрадных і субпадрадных будаўнічых арганізацый.

Завод быў прыняты, як кажуць, "на хаду": выпускалася фарба, і кожны атрымаў па банцы першай фарбы. Па старой добрай завядзёнцы завод добра "замачылі" ў чыгуначным рэстаране. Акрамя лакафарбавага, будаваліся 4-х павярховы корпус завода электравырабаў, вялікія прамысловыя плошчы на заводзе "Лідсельмаш", саладоўня на піўзаводзе, цэх узарванай кукурузы на камбінаце харчовых канцэнтратаў, рэстаўраваўся хлебазавод і малочны камбінат, на ТЭЦ уводзіліся новыя катлы і новыя лініі цепласетак. У гэты час у сувязі з ростам аб'ёмаў будаўнічых работ пачалі распрацоўку дакументацыі на будаўніцтва ўласнай вытворчай базы ў складзе: рошчына-бетонныя магутнасці, база УПТК, дрэваапрацоўка, складскія плошчы, чыгуначныя пад'езды, база механізацыі і ўласная кацельня. Усе гэтыя перадумовы спрыялі таму, што ў лютым 1966 года будаўнічае ўпраўленне было рэарганізавана ў будаўнічы трэст № 19. Кіраўніком трэста быў прызначаны Ціхановіч П. М., а я - галоўным інжынерам, але меней як праз год Ціхановіч па сямейных абставінах пераехаў у Горадню, і 3 студзеня 1967 года пачалася мая работа на пасадзе кіраўніка трэста. Пачаў складвацца калектыў. Галоўным інжынерам працаваў Антоненка В. М. Начальнікамі будаўнічых упраўленняў: Кавальцоў, Кудрыцкі, Вендзілоўскі, Грынчанка, Гуцін, начальнікамі пададдзелаў: Вайтовіч, Яцэвіч, Кавальцова, Бяспалаў, Гордзель, Фёдараў.

Каб спраўляцца з аб'ёмамі работ, што пастаянна раслі (штогод па 10-12 працэнтаў), была выпрацавана сістэма арганізацыі работы: заданні – пастаянны кантроль – выкананне. Вузкім месцам было забеспячэнне рабочымі кадрамі – аплата працы і ўмовы работы не вельмі вабілі моладзь працаваць на будоўлі. Адзінам выйсцем было забяспечваць кадры жыллём. Дзякуючы добраму стаўленню да трэста і асабістай дапамозе намесніка старшыні аблвыканкама Рубаніка У. Н., трэст змог напрацаваць у запас тэхнічную дакументацыю на будаўніцтва ўласнага жылля, што дазволіла штогод уводзіць у эксплуатацыю па 60-80 кватэр для сваіх рабочых, а таксама мець свае інтарнаты для халасцякоў: і жаночыя, і мужчынскія. Быў пабудаваны і дзіцячы сад. Сацыяльную частку жыцця калектыву добра дапамагалі вырашаць прафсаюзная арганізацыя (кіраўнікі – Даргель Н.Н. і Шатохін І.П.) а таксама парткам трэсту (Мілюкоў І.Н.). Пасля ўводу ў эксплуатацыю ў 1965 г. першай чаргі лакафарбавага завода пачалося будаўніцтва яго другой чаргі. У гэты час першы дырэктар лакафарбавага Петухоў А. А. які ажыццявіў будоўлю 1-ай чаргі і пуск завода, неўзабаве з'ехаў у Яраслаўль, а на яго месца быў прызначаны Бакуменка А. А. Трэба адзначыць, што асваенне магутнасцяў завода ішло шпаркімі тэмпамі. Ліда і наваколле адчулі, што ў горадзе ёсць такая вытворчасць – гэта было відаць па добра пафарбаваных дамах, асабліва, калі ехаць па дарозе з Ліды ў Менск.

Кожны год раслі аб'ёмы работ, і ў складзе трэсту ўжо ў 1968 годзе стварылі будаўнічыя ўпраўленні: БУ-103, БУ-104, БУ-175, УМСР-163, УПТК, завод ЖБВ. Будаваліся: "Сельмаш", ТЭЦ, завод электравырабаў, абутковая фабрыка, мясакамбінат, піўзавод, камбінат харчовых канцэнтратаў, аўтарамонтны завод, аўтакамбінат, таксаматорны парк, нафтабаза, хлебазавод, малочны завод, пачала ўзводзіцца птушкафабрыка. Гэта пацягнула за сабой стварэнне інфраструктуры: жыллё, дзіцячыя сады, школы, аб'екты бытавога абслугоўвання, гандлю, а таксама інжынернага забеспячэння – вадаправод, каналізацыя, цеплавыя сеткі і многа іншых аб'ектаў.

Вялікія аб'ёмы работ вяліся на шклазаводзе "Нёман". Яшчэ ў 1960 годзе тагачасны галоўны інжынер шклазавода Карзюк С. Л. (пазней стаў дырэктарам завода і адпрацаваў на гэтай пасадзе на працягу амаль – 20 год да выхаду на пенсію) праз партыйныя органы і Міністэрства будаўніцтва дамогся, каб наша будаўнічае ўпраўленне ўзяло ў падрад выкананне будаўнічых работ на аб'ектах завода і г. Бярозаўкі. Давялося ствараць там нявялікую сваю базу і практычна ўсё, што сёння ёсць на заводзе – гэта работа нашага ўпраўлення і трэсту. А гэта – цэхі выпрацоўкі шкла, апрацоўкі, складовы, хімпаліроўкі, склады, рэканструкцыя старога цэха, жылыя дамы, дом культуры, дзіцячыя сады, школы. Будаўніцтва там вёў Новікаў Я. І.

У канцы 1968 года праз два гады пасля пачатку будаўніцтва быў уведзены ў эксплуатацыю плавальны басейн. У гэты час ініцыятар будоўлі – Фамічоў Р.Ф. пераехаў на работу ў Горадню, а першым сакратаром гаркама партыі стаў працаваць Кабяк Сяргей Цярэнцевіч. Гэта быў мой аднагодак. Прыехаў ён у Ліду з пасады старшыні Дзятлаўскага райвыкан-каму, а перад гэтым працаваў на такіх жа пасадах у Слонімскім, а яшчэ раней у Астравецкім раёнах. Да гэтага ў 50-ых гадах ён працаваў у Лідзе амаль 2 гады 1-ым сакратаром гаркама камсамолу, так што горад быў яму добра знаёмы. У 1968 годзе, у канцы, пачалося ўзвядзенне новай гасцініцы, будавалася 2-я чарга лакафарбавага завода, там уводзіліся новыя ма-гутнасці.

Неяк летам 1969 года Кабяк папрасіў, каб я прыйшоў да яго, і на сустрэчы ён спытаў, як я гляджу наконт таго, каб заняць пасаду старшыні гарвыкан-каму. Параіўшыся са старэйшым братам, які праца-ваў ляснічым на возеры Свіцязь, і з сям'ёй, я даў згоду. 1 снежаня гэтага ж года на сесіі гарсавету я быў абраны старшынём. Працавалі з Сяргеем Цярэнце-вічам вельмі дружна. Першае, што было зроблена – я склаў спіс майго асабістага бачання гарадскіх праблем, да якіх я прыглядзеўся за гады жыцця і будаўніцтва горада. Перш–наперш мы ўдваіх абга-варылі іх, выдзелілі, што прыярытэтнае, а што адкладвалася на другую паважнасці чаргу.

Ведаючы тое, што галоўным горадаўтваральным фактарам з'яўлялася вытворчасць, было вырашана ўсімі спосабамі прыцягваць у горад інвестыцыі ў прамысловыя прадпрыемствы, ствараць для заказчыкаў добрыя ўмовы і зручнасці і адначасова, наколькі гэта было можна, навязваць далявы ўдзел у будаўніцтве агульнагарадскіх аб'ектаў.

Сярод праблем, якія трэба было тэрмінова вырашаць стаялі:

1. Будаўніцтва шляхапровада праз чыгуначную каляю па вул. Ленінскай.

2. Забраць фекальныя каналізацыйныя сцёкі і скінуць за горад на ачышчальныя збудаванні, каб зліквідаваць "смярдзючку"

3. Трэба было разабрацца з ліўневымі водамі, якія амаль штогод вясной залівалі цэнтральную частку горада. Для гэтага трэба было распрацаваць генеральную схему ліўневай каналізацыі.

4. Зарэгуляваць рэчку Лідзейку, стварыўшы на ёй каскад азёр, адначасова ўвязаць з ліўневай каналізацыяй.

5. Правесці карэкціроўку генеральнага плана, таму што па многіх параметрах ён станавіўся тормазам далейшай забудовы.

6. І самае галоўнае. Трэба было стварыць самыя спрыяльныя ўмовы для развіцця кожнай галіны гарадской гаспадаркі: гандаль, бытавыя паслугі, жыллёва-камунальная гаспадарка, ахова здароўя, асвета, культура і г. д.

Атрымаўшы ад Сяргея Цярэнцевіча "дабро", прыступілі да ажыццяўлення намечаных мераў. Якраз у гэты час у 1969 г. ЦК КПСС і СМ СССР прыняў закрытую пастанову аб развіцці ў сістэме Міністэрства абароннай прамысловасці СССР аптычнай прамысловасці. У Беларусі было прадугледжана стварыць у Менску, Лідзе, Смаргоні, Вілейцы і Рагачове заводы для гэтых мэтаў.

*(Заканчэнне ў наступным нумары.)*

Валеры Сліўкін

# Гісторыя адукацыі ў Лідзе

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

### Яўрэйская гімназія (1921-1929).

***(Паводле артыкула: Dowlaszewicz I. Gimnazijm Zydowskie.// Ziemia Lidzka. 2002. № 49. S. 15-16).***

Прыватная яўрэйская гімназія была першай пасляваеннай сярэдняй школай у Лідзе. Гімназія размяшчалася ў будынку па вул Крывой, 16. Памяшканне было арандаванае, меліся чатыры лекцыйныя залы, навучанне праводзілася ў дзве змены. Поўная назва: **"8-класная гімназія сумеснага навучання ў Лідзе"**. Канцэсія на гімназію была атрымана ва Ўправе Наваградскай навучальнай акругі 14 верасня 1921 г.

Уладальнікам гімназіі быў ураджэнец Ліды Мойжаш Дварэцкі 1891 г. н., за плячамі ў якога былі два семестры псіханеўралагічнага інстытута і тры семестры лячэбнага факультэта, ён удзельнічаў у педагагічным працэсе і навучаў гімназістаў лацінскай мове. Дырэктарам гімназіі з 15.08.1921 па 1923 г. быў Эдвард Волмут, 45-гадовы выпускнік Ягелонскага універсітэта, які выкладаў матэматыку, фізіку і нямецкую мову.

У першым 1921/22 навучальным годзе настаўніцкі корпус складаўся з 17 персонаў. Нямецкую мову выкладаў выпускнік Венскай акадэміі Якаў Дайтхер. Польскую мову і сучасную польскую гісторыю -- выпускнік Ягелонскага універсітэта Марак Разенбузек, 1892 г. н. Матэматыку і нямецкую мову выкладала лідзянка Рэйна Шапіра, 1897 г. н. Лацінскую, польскую, матэматыку, прыродазнаўства вёў выпускнік гімназіі ў Новым Санчы Ігнацы Сікора, 1889 г. н. Канстанцін Шышкоўскі, 1897 г. н., выпускнік Ваўкавыскай гімназіі і духоўнай семінарыі, выкладаў каліграфію і прыродазнаўства. Рускую мову выкладалі лідзяне Макс Зарцін, выпускнік гімназіі ў Магілёве, і Кацярына Салавей, якая закончыла вышэйшую настаўніцкую гімназію ў Вільні, абое 1899 г. н. Рэлігію вялі: Калман Ліхтман, 1899 г. н., выпускнік настаўніцкай семінарыі ў Станіславе, і Сара Пагарэльская, якая скончыла яўрэйскую семінарыю ў Вільні. У гімназіі таксама працавалі: Майжэш Крайяновіч, 1887 г. р., ураджэнец Ліды, які скончыў гімназію ў Пулавах; Юзаф Дыла, 1895 г. н., 4 гады вучыўся ў настаўніцкай гімназіі ў Цешыне; Вінцэнт Капусцінскі, 1890 г.н., выпускнік Львоўскай настаўніцкай гімназіі, а таксама Юзаф Фелер, 1862 г. н., Яра Купелман, 1891 г. н., Юзаф Юрчык, 1900 г. н.

У 1923 г. дырэктарам гімназіі быў прызначаны інжынер Фронкель, у 1925 годзе яго змяніў выкладчык польскай мовы Максіміліян Грынберг. У гімназію прышлі новыя выкладчыкі: Давід Сас (лацінская мова), Аляксандр Разенбаўм і Фелікс Біскупскі (матэматыка), Бэла Таніс (гісторыя), доктар Адольф Фінк (фізіка, уводзіны ў філасофію), Бася Фінк (нямецкая), Уладзіслаў Світыч (спевы).

Колькасць навучэнцаў у 1921/22 навучальным годзе складала 295 чалавек, у тым ліку: 1 клас - 19, 2 - 45, 3 - 38, 4 - 57, 5 - 10, 6 - 38, 7 - 40, 8 - 55. На наступны навучальны год колькасць вучняў вырасла да 356 гімназістаў, у тым ліку: 1 клас - 50, 2 - 62, 3 - 67, 4 - 52, 5 - 26, 6 -31, 7 - 26, 6 - 31, 7 - 26, 8 - 45.

У гімназіі існавалі вучнёўскія арганізацыі, гурткі, класныя грамады, польскамоўны літаратурны гурток. Навучанне ў гімназіі закончвалася экзаменам на атэстат сталасці. Выпускнікі атрымоўвалі пасведчанне аб заканчэнні гуманітарнай гімназіі з веданнем лацінскай мовы. Гімназія функцыянавала да 1929 года.

### Дзяржаўная гімназія ( у 1921) імя гетмана Караля Хадкевіча (1921-1939)

У тым жа 1921 годзе была адкрыта дзяржаўная гімназія, у Лідскім музеі захоўваецца квітанцыя аб уплаце вучнем 6 класа Лявонам Філіпчыкам 400 марак за экзамен з пячаткай "Дзяржаўная гімназія" з подпісамі дырэктара і сакратара. У 1923 г. згодна з пасведчаннем аб заканчэнні ў 7 класе гімназіі вывучалі рэлігію, польскую, нямецкую і лацінскую мовы, гісторыю, матэматыку, фізіку і хімію.

У 1921-32 гг. гімназія размяшчалася ў будынку даваеннай жаночай гімназіі Навіцкіх (суч. СШ № 3), а ў 1933 г. пераехала ў будынак на вул. Школьнай (зараз Кірава, педкаледж).

Дзяржаўная гімназія была платнай навучальнай установай, штогод бацькі плацілі 220 злотых. Вучыліся ў гімназіі галоўным чынам дзеці вайскоўцаў, паліцыянтаў, дзяржаўных чыноўнікаў і багатых яўрэяў. Падручнікі каштавалі немалыя грошы: "Геаметрыя" Зідлера каштавала 9 злотых, "Геаграфічны атлас" Ромера - 5 злотых. У абавязковым парадку гімназісты павінны былі глядзець вызначаныя п'есы і фільмы, каб абмяркоўваць іх на ўроках польскай мовы.



**Будынак Дзяржаўнай гімназіі імя гетмана Караля Хадкевіча. Зараз тут размяшчаецца Лідскі педкаледж.** ***Здымак С. Судніка, 2003 г.***

**Квітанцыя ўплаты за экзамен у 1921 навучальным годзе Лявонам Філіпчыкам 400 польскіх марак пры паступленні ў Дзяржаўную гімназію імягетмана Караля Хадкевіча ў Лідзе.**

**Гадавы табель за 1922/23 навучальны год Лявона Філіпчыка, гімназіста Дзяржаўнай гімназіі імя гетмана Караля Хадкевіча ў Лідзе.**

**Штандар Дзяржаўнай гімназіі імя гетмана Караля Хадкевіча ў Лідзе, якая працавала ў 1921-39 гадах.** *(Захоўваецца ў Лідзе.)*

**1-шы клас Дзяржаўнай гімназіі імя гетмана Караля Хадкевіча ў Лідзе ў 1929 годзе.**

У 1934 г. пры гімназіі былі арганізаваныя гімназічныя курсы для чыноўнікаў адміністрацыі і падафіцэраў 5-га лётнага і 77-га пяхотнага палкоў. Кожны клас (курс) складаўся з 30-35 слухачоў. Штомесячная плата за навучанне складала 35 злотых. Слухачы запрашалі настаўнікаў дзяржаўнай гімназіі. **"З вялікім хваляваннем успамінаю прафесара Юзафа Калацінькага - знакамітага матэматыка, ... атаксама дырэктара нашых курсаў, пані прафесара Леакадзію Садоўскую з двума факультэтамі: гісторыі і матэматыкі і дзвюмя выдатнымі косамі, з якіх будавала цёмназалатую карону на галаве. Вывучаў матэматыку, загадзя выконваў заданні, каб нейк звярнуць на сябе яе ўвагу, ды і хто з нас у яе не закахаўся? Вельмі сімпатычным, сапраўдным польскім шляхціцам быў прафесар Вітольд Маеўскі, настаўнік польскай мовы, а які важны, строгі і любімы прафесар лацінскай Станіслаў Садзевіч. Да сённяшняга дня з хваляваннем успамінаю біелага пана Руткоўскага, пана Сіміньскага..."** *(Jozef Rybinski. Slonce na miedzy. Tom 2. 1983. S 111).* На курсах выкладалі таксама Мацей Ямпалкоўскі (гісторыю), Зыгмунт Манке (фізіку), Ліда Пінскер (французская мова).

У кастрычніку 1935 г. вучні старэйшых класаў

пад кіраўніцтвам прафесара В. Маеўскага выдалі ў друкарні Ш. Зяльдовіча 16 - старонкавы школьны часопіс **“Tworzmy”.** Рэдактар - Юры Дунько (8 клас), сакратар – Саламэя Воранава. У рэдакцыйны камітэт уваходзілі І. Багатыроў (8 клас), Антон Масьліньскі, А. Мацевіч, Лявон Пільчук (8 клас). У часопісе некалькі невялікіх нататак Л. Пільчука, А. Масьліньскага і Е. Васілеўскага. Апублікаваны школьны бюджэт.




**Гімназічны часопіс “Tworzmy”.** ***Захоўваецца ў Лідскім музеі.***

6-12 чэрвеня 1937 г. у гімназіі была праведзена выстава малюнкаў і ручных работ гімназічнай моладзі. Экспанаты былі размеркаваныя ў пяці аддзелах: малюнкаў, ручных работ, вырабаў з металу, шкла і дрэва.

Вядомыя два дырэктары гімназіі: Вацлаў Белакоз і Казімір Марцэлевіч Менцялевіч. **“Польскай мове вучыў пан Маеўскі па мянушцы “Пацучок” з-за доўгага носа, а матэматыцы - пан Каляцінскі. Памятаю, што гэта быў высокі прадстаўнічы мужчына, бацька двух сыноў, якія загінулі падчас вайны ў партызанах. Настаўнікам гімнастыкі ўдзяўчынак была пані Папко, яе называлі “Заксуўка”. Пан Садзевіч пасвячаў вучняў у таямніцы латыні”**. Выкладчыкі нямецкай мовы – Сабаньскі (Сяміньскі) “Фальш” і Клайндынст Юлі Юльевіч, 1882 г.( закончыў гімназію ў Варшаве і Юр’еўскі універсітэт (1905), валодаў рускай, польскай, нямецкай – свабодна, таксама французскй і беларускай); лацінскай – Мастовіч Ядвіга, сястра вядомага польскага пісьменніка Даленгі–Мастовіча, вядомага ў нас па фільму “Знахар”, у будучым жонка польскага прэм’ер-міністра; фізікі Яўген Шулакевіч, хіміі – Зыгмунт Манке, геаграфіі – Руткоўскі (“Кукса”). Катэхізм выкладаў ксёндз Вітольд Нелюбовіч. Гісторыю вяла **“прафесар Садоўская - прыгожая, элегантная, мудрая і дасціпная.. Шмат вандравала і цікава распавядала пра свае ўражанні ад Індыі”.** *(Szkola, teatr i szczenscie. Krakow. 1999, s. 96).*



**6-ты клас Дзяржаўнай гімназіі імя гетмана Караля Хадкевіча ў Лідзе ў 1937 годзе.**

У гімназіі вучыўся вядомы польскі пісьменнік Ежы Путрамент. Гімназію скончыла Валянціна Уладзіміраўна Астрожнікава, якая зараз жыве ў Лідзе і любезна прадставіла нам фатаграфіі. У яе класе (выпуск 1937 года) вучыліся: Цярэшчанка Іра, Падземская Веся - пасля вайны жыла ў Маскве, Паплаўская Зэнка, Слонімчык Ліза - перажыла вайну, Анацка Рэгіна, Заблуйская Сара, Кулеша Марыя, Круповіч Тадзік, Чарнавус Вацік, Мацэвіч - разумнік, выдатнік, Левінсон, Чарскі - пасля вайны жыў у Бразіліі, Сірага - хацеў стаць ксяндзом, Камянецкі Іанатанчык-”Стаканчык” (свая аптэка, адзіны сын), Арэхва, Левінсон Арон.

У 1938 г. у гімназіі вучылася 484 вучні.

## Магістрацкая (гарадская) агульна-адукацыйная гімназія (1926-1934)

Узначальваў гімназію Генрык Пякарскі. У 1932-33 навучальным годзе ў першым класе вучылася 15 дзяцей 1919 – 1923 – х гадоў нараджэння, у другім – 31 вучань 1917- 22-х гадоў нараджэння, у трэцім – 27 вучняў 1916 – 1920 – х гадоў нараджэння, у чацвёртым - 43 вучні 1914-1919-х гадоў нараджэння. Склад вучняў быў інтэрнацыянальным: Анікееў Уладзімір, Троха Рыва, Зяльвянскі Лазар, Колышка Казімір, Белавокі Ян, Цярэшчанка Іраіда, Клімовіч Уладзімір. Настаўнікамі і выхавацелямі ў гімназіі працавалі: ксёндз Добскі, Калісневіч, Волбеж, Ферт, Закліньскі, Калокша, Крайнавіч.

Згодна з пасведчаннем на імя Юрыя (Ежы) Гульпоўскага–Шульца ад 14 кастрычніка 1932 г. ён вучыўся ў 8-мі класнай гуманітарнай з сумесным навучаннем гімназіі магістрата г. Ліды.



**8-мы кл. Гуманістычная каэдукацыйная гімназія магістрату г. Ліды з правамі публічнасці**

**Ліда, дня 14/X 1932 г.**

**Пасведчанне**

**Дырэкцыя Гарадской гімназіі сведчыць, што Гульпоўскі-Шульц Юры, вучань V кл. тутэйшай гімназіі, які вучыўся ў школьным годзе 1932/33 ад 1 верасня да 8 кастрычніка і пакідае яе без перашкод.**

**Генрык Пякарскі, дырэктар гімназіі.**

Вучні гэтай гімназіі на фуражках насілі значкі з гербам Ліды. Магістрацкая гімназія на вул. Замкавай існавала да 1934 г.

Навучанне было платным. Штомесячная плата складала 40 злотых.

## Агульнаадукацыйная школа (1927-1939), гандлёвая школа (1929-1936), мужчынская і жаночая купецкія гімназіі (1936-1939) манахаў-піяраў

***(Паводле матэрыялаў артыкула: Komorowski P. Kolegium i szkola handlowa oo. Pijarow w dwudziestoleciu miendzywoennym w Lidzie.// Z Dziejow Ziemi Lidzkiej. Warszawa? 1997? s. 133-153)/***

У сакавіку 1926 г. пасля 4-х гадовых клопатаў за вяртанне Язэпаўскага касцёла і плрылеглай нерухомасці правінцыял Томаш Альшуўка ад імя Ордэна піяраў афіцыйна прыняў Лідскі калегіюм. У красавіку быў прызначаны рэктар – манах Фердынанд Казлоўскі. Неўзабаве быў адноўлены канвікт (інтарнат), а праз год была адчынена **Агульнаадукацыйная школа манахаў-піяраў.**

У 1929 годзе ў школе вучылася 100 вучняў, і Ф. Казлоўскі, які выконвал абавязкі дырэктара школы, прыняў рашэнне арганізаваць пры клештары мужчынскую гандлёвую школу. Крэдыт на будаўніцтва будынка школы манахам выдалі Віленскі прыватны гандлёвы банк і Лідскі кааператыўны банк. На працягу 3-х месяцаў (з 15.07. па 15.09.) побач з Язэпаўскім касцёлам быў пабудаваны школьны будынак доўжынёю 40 м, шырынёю 7 м, вышынёю 3 м, агульным коштам 29 тысяч злотых. 15 верасня 1929 года у першым класе **3-х класнай мужчынскай гандлёвай школы г. Ліда** за парты селі 30 вучняў, сярод іх 10 яўрэяў. На адкрыцці школы прысутнічалі ганаровыя госці: Віленскі архібіскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі, пралат Кароль Любянец, наваградскі ваявода Зыгмунт Бячковіч, лідскі стараста Генрык Багаткоўскі, камандір 5-га лётнага палка палкоўнік Вацлаў Івашкевіч і начальнік адзела прафесійнай школы Людвік Кучэўскі.



**Першы курс Гандлёвай школы і вучні Ўсеагульнай школы манахаў-піяраў у Лідзе, 1930 год. У сярэдзіне сядзіць ксёндз рэктар Фердынанд Казлоўскі.**

Дырэктарам гандлёвай школы быў прызначаны дырэктар Гандлёвага кааператыўнага банка Аляксандр Умястоўскі. Манах Ф. Казлоўскі навучаў нямецкай мове, манах Ю. Барэль – французскай і англійскай, М. Кабылянскі выкладаў гісторыю і польскую мову, А. Казлоўскі вучыў справаводству, М. Вансовіч – гандлёвай арыфметыцы і тэорыі гандлю, В. Румцова – стэнаграфіі, манах А.Трацця – рэлігіі. У Кракаў на навучанне быў адпраўлены манах Алойзы Наперач.

У чэрвені 1931 г. Ф. Казлоўскі стаў правінцыялам, месца рэктара заняў А. Наперач, які вярнуўся ў калегіюм пасля двухгадовага навучання ў Ягелонскім універсітэце. Аляксандр Умястоўскі ў сувязі з чаканым пераездам у Вільню склаў з сябе дырэктарскія функцыі і 16 кастрычніка 1931 года А. Наперач стаў дырэктарам гандлёвай школы, ён таксама выкладаў немецкую мову (12 гадзін у тыдзень) і каліграфію (2-гадзіны). Ксёндз Тэафіл Брозік пачаў навучаць рэлігіі. Абодва манахі адмовіліся ад ганарараў. Да слова, што месячная зарплата настаўнікаў агульнаадукацыйных школаў у пачатку 30-х гадоў складала 160 злотых (1 пуд жыта каштаваў 2,5 злотага) .

У верасні 1932 г. гандлёвая школа атрымала дазвол на адкрыццё 4-га класа і ў сувязі з гэтым пачала называцца **"Прыватная мужчынская 3-х класная гандлёвая школа з 4-м класам кааператыўнага курса манахаў–піяраў у Лідзе".** 4-ы клас пачалі наведваць 14 вучняў, 12 з іх у чэрвені 1933 г. здалі экзамены і атрымалі пасведчанне аб заканчэнні поўнага курса гандлёвай школы. Двое лепшых Станіслаў Петраж і Язэп Нарушэвіч паступілі ў Кракаўскі піярскі навіцыят. Адкрыццё 4-га класа дазволіла выпускнікам гандлёвай школы працягваць навучанне ў вышэйшых навучальных установах.

У першы клас школы ўзору 1933 г. запісалася 93 вучні, уступны экзамен здаў 81 чалавек. Аднак, ужо ў наступным годзе абазначылася зніжэнне колькасці абітурыентаў. Лідскія бацькі не праявілі асаблівай зацікаўленасці да гандлёвай спецыялізацыі сваіх хлопчыкаў. Да таго ж працягваўся агульны сусветны эканамічны крызіс, людзям не хапала грошай.

Дырэктар школы А. Наперач пачынае прабіваць ідэю стварэння пры клештары школы сумеснага навучання хлопчыкаў і дзяўчынак. У траўні Ліду наведаў генеральны інспектар піярскага Ордэна Томас Гарыда. Ён станоўча аднёсся да ідэі прыёму дзяўчынак у гандлёвую школу і абяцаў прадставіць праект Генералу Ордэна Джузеппе Дэль Буано (Буона). У жніўні на адрас правінцыяла Іераніма Стусіньскага прышоў ліст, які дазваляў прыём у гандлёвую школу дзяўчынак. Копію гэтага ліста правінцыял прыслаў А. Наперачу. Восенню 1934 г. колькасць навучэнцаў вырасла з 60 да 160, а школа пачала называцца **"Прыватная гарадская 3-х класная сумеснага навучання гандлёвая школа з 4-ым класам і курсам кааперацыі манахаў-піяраў ў Лідзе".** З'яўленне манаскай школы сумеснага навучання не ўсім прышлося па душы. Ад пачатку негатыўна да гэтай ідэі адносіўся лідскі

дэкан Гіпаліт Баярунец. Ён паведаміў пра навацыю піяраў віленскаму архібіскупу Рамуальду Ялбжыкоўскаму. Архібіскуп на сінаідальным з'ездзе падняў пытанне пра праблему сумеснага навучання і ў якасці негатыўнага прыкладу прывёў лідскую гандлёвую школу. Апостальскі нунцы Францішак Мармагі, які прысутнічаў на з'ездзе, напісаў ліст у Рым, ці сапраўды лідскія піяры атрымалі дазвол на сумеснае навучанне дзяцей розных палоў. Высветлілася, што інспектар Гарыда не інфармаваў Дэль Буано пра лідскі эксперымент. Але..., як гэта бывае і ў свецкім грамадстве пакаралі А. Наперача, ён быў зняты з пасады рэктара і дырэктара гандлёвай школы. У снежні 1935 года А. Наперач выехаў у Кракаў і праз некаторы час выйшаў з Ордэна.


Калегіюм і купецкая гімназія. Здымак 1937 г.

На гэтым праблема сумеснага навучання не закрылася. Гандлёвай школе пагражаў адход каля 150 дзяўчынак, што справакавала б цяжкі фінансавы крызіс. Увесь 1935 год і першыя 3 месяцы 1936 г. нічога не менялася. У сакавіку 1936 г. у Ліду прыехалі міністэрскі інспектар прафесійных школаў і інспектар Віленскай навучальнай акругі. Пазнаёміўшыся з вынікамі працы школы інспектары падказалі простае рашэнне: трэба арганізаваць дзве школы – асобна для хлопчыкаў і асобна для дзяўчынак. Рэктар Клеменс Чабаноўскі звярнуўся ў Рым з просьбай дазволіць лідскім піярам весці дзве гандлёвыя школы: адну для хлопчыкаў, другую для дзяўчынак. Правінцыял Стусіньскі просьбу падтрымаў, Генерал Ордэна Дэль Буано адобрыў, віленскі архібіскуп Ялбжыкоўскі згадзіўся. Інспектары таксама прапанавалі ператварыць гандлёвую школу ў купецкую гімназію і такім чынам падняць статус навучальнай пляцоўкі.

1 чэрвеня 1936 г. пасля грунтоўнага рамонту і набыцця навучальнага абсталявання на агульную суму 18925 злотых піяры атрымалі дазвол на адкрыццё купецкіх мужчынскай і жаночай гімназій. У тым жа месяцы адбыліся ўступныя экзамены, на якія сабралася 120 хлопчыкаў і дзяўчынак. Экзамены ў першы клас здалі 100 вучняў і вучаніц. Сядзіба гімназіі размяшчалася па адрасу: Сувальская-68, называлася яна **"Прыватная мужчынская і жаночая купецкая гімназія калегіюма манахаў – піяраў ў Лідзе"**. У снежні 1936 г. у жаночай і мужчынскай купецкіх гімназіях вучылася 260 гімназістаў, яшчэ 85 дзяцей вучыліся ў **6-класнай агульнадукацыйнай школе.** *(Abramowicz W. Szkoly pijarskie w Lidzie. Ziemia Lidzka. 1936. № 9, s. 1).*

Прыём вялікай колькасці навучэнцаў патрабаваў дадатковых класаў. Манахі-піяры начале з рэктарам К. Чабаноўскім перанеслі ўсеагульную школу ў кляштарныя будынкі, прыстасавалі пад патрэбы гімназіі мураваны будынак што прылягаў да касцёла, а ў пачатку верасня 1936 г. пачалі будаўніцтва гімнастычнай залы і другога паверху для размяшчэння манахаў. З гэтай мэтай з усходняга боку быў дабудаваны мураваны будынак мужчынскай гімназіі. У 1937 г. 2-х павярховы цагляны будынак са сцэнай, першай у горадзе, быў завершаны ( зараз там размяшчаецца спартовая зала ДЮСШ).

Праграма навучання ў гімназіі складалася з мноства агульнаадукацыйных і агульнагаспадарчых прадметаў і шэрагу спецыяльных прадметаў па арганізацыі гандлю і працы ў бюро. Агульнаадукацыйныя прадметы складалі палову лекцыйных гадзін. У 1-2 класах выкладалася каліграфія. У 1-3 класах – гісторыя, матэматыка, фізіка, хімія, эканамічная гэаграфія, рэлігія, польская мова, немецкая мова і карэспандэнцыя, гандлёвая арыфметыка, справаводства і канцылярская справа, гандаль, таваразнаўства. У 2-3 класах – карэспандэнцыя, стэнаграфія. У 4-м класе вывучалі рэлігію, польскую мову, нямецкую мову, матэматыку, справаводства, стэнаграфію, анатомію і гігіену, грамадзянскую навуку, арганізацыю працы бюро і продажаў, навуку аб рэкламе, эканомію палітычную і палітыку эканамічную дзяржаўныя фінансы, права, каапперацыю. Выкладаўся таксама курс машынапісу і праводзіліся заняткі па фізкультуры. Пра закупку друкарскіх машынак школа паклапацілася яшчэ ў 1931 г. – было куплена 5 машынак за 4335 злотых.


**Будынак колішняй мужчынскай гімназіі манахаў-піяраў. Адзіны будынак, які ўцалеў ад калегіюма піяраў у Лідзе.** ***Здымак С. Судніка, 2003 г.***




**Травень 1937 г. 3-ці клас купецкай гімназіі манахаў-піяраў з калектывам настаўнікаў. Сядзяць злева направа: Ян Парафінскі, ксёндз-прэфект Людвік Русек, Люцыян Брыльскі, Яўгенія Багуцкая, ксёндз-рэктар Клеменс Чабаноўскі, Ізабэла Бузарава, дырэктар Генрык Жалігоўскі, Эдвард Сімінскі, Эдмунд Круляс, Войцах Млынарскі. У сярэдзіне стаіць Эдвард Ільынскі.**

**“Прадметаў было шмат. Вывучалі рэлігію, польскую і немецкую мовы, матэматыку, фізіку, геаграфію, гісторыю, бухгалтэрыю, карэспандэнцыю, стэнаграфію, каліграфію, машынапіс, гандаль. Вольнага часу не было. Апраналіся ўсе аднолькава: у мундзірчыкі, гранатавыя плюсавачкі, спаднічкі. У школах фартухі з белымі манжэтамі і каўнерыкамі. Без формы на заняткі не пускалі. Брыдка было, калі не адкажаш на ўроку.**

**Навучанне было платным. Дяржава не дапамагала. Абедалі ў школе, я і сястра мая абедалі бясплатна. Бацькоўскі камітэт збіраў ахвяраванні, дамаўляліся. Пані з бацькоўскага камітэту рыхтавала абед кожны дзень да першай гадзіны. Вучні з багатых сямей хадзілі абедаць дадому”.** *(Блажаеўская Валерыя Казіміраўна, вучаніца купецкай гімназіі ў 1935-1939 гг.)*

Навучанне ў лідскіх піярскіх навучальных установах вялося на добрым узроўні. Адзнакі інспектараў, якія правяралі ўстановы, заўсёды былі станоўчымі. Годны ўзровень навучання падтрымліваўся добрым падборам выкладчыцкіх кадраў. Выкладчыкі гандлёвай школы часта мяняліся, кожны выпуск памятае сваіх настаўнікаў: паводле ўспамінаў Я. Ярмант геаграфію вяла Бузірава, тэхніку і рэкламу гандлю – Янушык, нямецкую мову – Сяміньскі. Да сярэдзіны 1932 г. бухгалтэрыю вёў Аляксандр Умястоўскі – дырэктар Народнага банка ў Лідзе, яго змяніў яўрэй Даніэль Вінаградаў. **“Вучылі нас ксёндз Чабаноўскі, Бузірава, Багуцкая, Брыльская, Вольнік, Жалігоўскі, Комар, Круляс, Мішкурка, Парафінскі”** *(Выпускніца гімназіі Блажаеўская В. К.).* У школе выкладалі **“Эма Чабаноўская – музыку, спевы, ручную працу. Прафесар Кубасік вёў гісторыю, Усціняк – 1-2 класы, Рэгіна Пярсо – прыроду, Мілеўскі – гімнастыку і гульні. Ўсе настаўнікі былі з ўсеагульнай школы, а ксяндзы Нарутовіч, Альшэўскі, Наперач, Пуйдак мяняліся. Некаторыя настаўнікі былі прыезджымі, Осія, Мілучык былі тутэйшымі”** (Ян Межва, вучань піярскай школы ў 1934-39 гг.). У 1938/39 навучальным годзе ў гімназіі польскую мову выкладаў Люцыян Брыльскі (у 1938 г. ён быў абраны ў Сейм), яго змяніў Зянон Познер, тавараразнаўства выкладаў Эдвард Ільінскі, нямецкую мову – Эдвард Зіміньскі, стэнаграфію, рэкламу – Эдмунд Крулас, гімнастыку – Казімір Млынарскі, гісторыю – Ізабэла Русава, тэхніку гандлю – Яўгенія Багуцкая, бухгалтарскі ўлік – Яніна Кама-рова, эканоміку – Сафія Вольніч.

Добра кіраваў навучальнай пляцоў-кай рэктар і дырэктар гандлёвай школы А.Наперач. На пасадзе дырэктара адзна-чыўся таксама Генрык Жалігоўскі. За заслугі ў арганізацыі навучання Г. Жалігоўскі восенню 1938 г. быў узнагароджаны “За-латым Крыжам Заслугі”. У нядзелю 19 кра-савіка 1939 г. польскае радыёз гімнастычнай залы купецкай гімназіі арганізавала спе-цыяльную перадачу пра лідскіх піяраў. У траўні ў Лідзе адбылася прадстаўнічая канферэнцыя настаўнікаў купецкіх гімназій Віленскай і Берасцейскай акругаў. Прыбыло на канферэнцыю каля 500 чалавек. Былі праведзены паказальныя лекцыі прафесара Эдварда Ільінскага па тавараразнаўству і Яўгеніі Багуцкай па арганізацыі і тэхніцы гандлю.

Гарадскія ўлады і грамадскасць сардэчна адносіліся да манахаў-піяраў і віталі іх намаганні на ніве асветы.

У канцы жніўня 1939 г. выкладчыкі вярнуліся з летніх канікулаў, прыбылі новыя манахі, сярод іх Каласанты Станіслаў Роек, які заняў пасаду прэфекта гімназіі. 28 –29 жніўня адбыліся ўступныя экзамены.

18 верасня ў горад ўвайшла Чырвоная Армія, а 11 кастрычніка ў канцылярыю школы з'явіўся начальнік аддзела адукацыі Казлоў і абвясціў, што купецкая гімназія нацыяналізавана, плата за навучанне адмяняецца, зарплату настаўнікам будзе плаціць савецкая дзяржава. У канцы кастрычніка купецкая гімназія была ператворана ў агульнаадукацыйную школу. Частка настаўнікаў звольнена. Жалігоўскі быў вызвалены ад пасады дырэктара. 14 снежня манахі атрымалі распараджэнне на працягу 24 гадзін вызваліць памяшканне.

**Дзяржаўная рамесная школа (1929?-1939)**

Гэта сярэдняя прафесійная школа. Размяшчалася насупраць праваслаўных могілак. У 1938 годзе ў ёй вучылася 113 вучняў.

Усяго ў 1938 г. у горадзе – 6 школ, 2 гімназіі: агульнаадукацыйная (484 вучні) і прафесійная купецкая (купецкі ліцэй) – 261 чалавек, дзяржаўная рамесная школа (113 вучняў). 3788 дзяцей у школьным узросце, у грамадскіх школах вучыліся 3094, у прыватных – 659 вучняў, не вучылася 35 дзяцей. У горадзе было 78 настаўнікаў.

*(Працяг ў наступным нумары.)*

Антось Савук

# Лідскі вайсковы аэрадром (1919 – 1939)

## Савецка-польская вайна

У часы вайны Польшчы з Савецкай Расіяй (1919 – 1920 гг.) у Лідзе чатыры разы мянялася ўлада.

3 студзеня 1919 года Ліду пакінулі немцы. 6 студзеня года прыйшлі ў наш край "чырвоныя". Першая ўлада Савецкай Расіі праіснавала нядоўга. Ужо 17 красавіка 1919 года ў Лідзе польская ўлада. Праз год і тры месяцы 17 ліпеня 1920 года прыходзяць войскі Тухачэўскага, якія развіваючы наступ ў імклівым парыве даходзяць аж да Варшавы. Войскам Пілсудскага ўдаецца адкінуць "чырвоных". І 30 верасня 1920 года ў Лідзе зноў польскія парадкі. На гэты раз да 17 верасня 1939 года.

Ва умовах савецка-польскай вайны Лідскі вайсковы аэрадром выконваў ролю звычайнага прыфрантавога, аператыўнага аэрадрома. Вайсковыя адзінкі, якія на ім базаваліся, дыслакаваліся непрацяглы час. Рух фронту на ўсход ці на захад вымушаў эскадрыллі пералятаць з аднаго лётнішча на другое. Пры гэтым звычайна нешта ў спешцы кідалася, у пералётах бывала ламаліся і траціліся самалёты, гінулі лётчыкі.

Першыя самалёты, якія належалі Войску Польскаму, з'явіліся на Лідскім аэрадроме **24-га траўня 1919 года**. Менавіта ў гэты дзень камандаванне **І-й авіяцыйнай групы** (I Grupa Lotnicza) Войска Польскага разам з **4-ай выведнай эскадрылляй** (4 Eskadra Wywiadowcza) было перанесена з аэрадрома Парубанак (ля Вільні) у Ліду. Эскадрылля налічвала тады 4 самалёты: 2 "Альбатрос С-3" і 2 "Раланд CL-2". Яе камандзірам быў ротмістр Аляксандр Серадніцкі (Serednicki). Пасля перадыслакацыі працягвалася паспяховая баявая работа эскадрыллі з Лідскага аэрадрома.

*"12 чэрвеня 1919 г. у час старту ў баявы палёт адбылася катастрофа самалёта, у якой загінула залога ў складзе паручніка Р. Вярміньскага (Wermiński) і падпаручніка — В. Рыцэ (Rice). Ужо пасля старту самалёт Roland CL-2 на вышыні 50 метраў сарваўся ў штопар і ўрэзаўся ў зямлю. Пілот загінуў імгненна, а назіральнік памёр назаўтра ў шпіталі. Акрамя гэтага выпадку эскадрылля ў наступным здзяйсняла палёты на бамбаванне супраціўніка ў Маладзечне і Вілейцы, а 21 чэрвеня дзве залогі эскадрыллі прыцэльна бамбавалі чыгуначную станцыю Менск. Гэты палёт здзейснілі залогі: паручнік Вілман (Willman), падпаручнік Кучыньскі (Kuczyński) і сяржант Цагасек (Cagasek), падпаручнік Крыньскі (Kryński), якія прыцэльна скінулі каля 150 кг бомбаў."*[1]

У вясенне-летні перыяд 1919 г. 4-ай эскадрыллі даводзілася выконваць вылеты на баявыя заданні разам з залогамі з 8-ай і 11-ай эскадрылляў.

У палове чэрвеня ў 4-ай выведнай эскадрыллі налічвалася 3 самалёты: адзін "Н'юпар", адзін "Альбатрос С-10", і адзін "Раланд CL-2" у рамонце.

2-га і 3-га ліпеня 1919 года 4-я эскадрылля выканала з Лідскага аэрадрома пяць баявых вылетаў. Сяржант Хаіньскі (Choinski, быў прыкамандзіраваны з 1-й эскадрыллі) вылятаў на выкананне баявога задання тры разы. У час аднаго з іх яму ўдалося прыпыніць савецкую браняву дрызіну. Паручнік Біскупскі (Biskupski) ў гэтыя дні выканаў два палёты. Эскадрыллі даялося выконваць таксама выведныя палёты для штаба генерала Шаптыцкага (Szeptyckiego). Іх здзейснілі пілоты: паручнік Юркевіч (Jurkiewicz), сяржант Камянкоўскі (Kamionkowski), сяржант Цагасек, а таксама назіральнікі: паручнік Крыньскі, паручнік Менчак (Menczak) і падпаручнік Кучыньскі.

У канцы жніўня 1919 года 4-я выведная эскадрылля разам з камандаваннем І-й авіяцыйнай групы перабазавалася бліжэй да фронту, пад Менск, на аэрадром Сляпянка. У эскадрыллі налічвалася 4 самалёты, у тым ліку машына камандзіра групы. Свае баявыя дзеянні з новага аэрадрома яна выконвала на карысць 2-ой дывізіі польскіх легіянераў (2 DPLeg.).

Але 4-я эскадрылля, як вынікае, Лідскі аэрадром пакінула не назаўсёды. Ужо вясной 1920 года ў часы адступлення Войска Польскага пад націскам Чырвонай Арміі эскадрылля непрацяглы час базавалася спачатку на аэрадроме ў Захацці а затым на Лідскім лётнішчы. Праўда гэта была ўжо крышку іншая эскадрылля. Яна папоўнілася залогамі і самалётамі 11-ай выведнай эскадрыллі (11 Eskadry Wywiadowczej) і *"...увайшла пад камандаваннем паручніка-пілота Баляслава Нарковіча (Narkowicza) ў склад IV авіяцыйнага дывізіёна..."*[2] У выніку шматлікіх вылетаў у перыяд інтэнсіўных баявых дзеянняў у складаных умовах надвор'я вясной 1920 года быў зношаны самалётны парк часткі так, што ў ліпені эскадрылля мела толькі адзін спраўны самалёт і фактычна перастала існаваць, перадаўшы яго назад у 11-ую выведную эскадрыллю. На рахунку 4-ай эскадрыллі 95 баявых вылетаў за 217 палётных гадзін.

Трэба адзначыць, што па штатах таго часу польская эскадрылля, як самая дробная баявыя адзінка, складалася з 10 самалётаў. На практыцы колькасць баявых машын рэдка перавышала 6 – 7 аэрапланаў. Ад 2 да 5 эскадрылляў ўваходзілі ў склад дывізіёна.

Арганізацыйнай адзінкай авіяцыі Саветаў лічыўся аддзел. Па штату ён складаўся з 6 самалётаў. Часовае аб'яднанне ад 2 да 4 аддзелаў называлася дывізіёнам. Ад 2 да 10 аддзелаў уваходзілі ў склад эскадрыллі.

[1] Krzysztof A. TARKOWSKI „Lotnictwo polskie w wojnie z Rosją Sowiecką 1919-1920", Wydawnictwa Komunikacji i Łączności, Warszawa 1991, s.28.
[2] Jerzy Pawlak „Polskie eskadry w latach 1918 -1939.", Wydawnictwa Komunikacji i Łączności, Warszawa, 1989, s.403.

**Тактыка-тэхнічныя дадзеныя самалётаў, якія стаялі на ўзбраенні польскіх эскадрылляў, што базаваліся на Лідскім аэрадроме ў час савецка-польскай вайны 1919 – 1920 гг.**

| Год пабудовы | Самалёт | Рухавік, магутн., к. с. | Канструкцыя | Узбраенне, адзінак | | Хуткасць, максім, км | Столь, м | Хуткападʼёмнасць, м/с | Далечыня палёту, км | На ўзбраенні якой эскадрыллі стаяў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Кулямёты | Бомбы, кг | | | | | |
| 1916 | AEG-C4 | 160 | 2-х месцавы, біплан | 2 | 300 | 143 | 3000 | | 500 | 8-я |
| 1916 | “Нʼюпар – 17С1” | 110 | 1-а месцавы, біплан | 1 | | 165 | 1980 | | 250 | 4-я |
| 1917 | “Брэге – 14 А2 (В2)” | 300 | 2-х месцавы, біплан | 2 | 60 (285) | 188 (177) | 6100 (5800) | | | 4-я, 16-я |
| 1917 | “Альбатрос – С12” | 195 | 2-х месцавы, біплан | 2 | 100 | 170 | 6500 | 4,7 | 500 | 4-я |
| 1918 | “Фокер –D7” | 160 | 1-а месцавы, біплан | 2 | | 189 | 6000 | | | 13-я |
| 1917 | “Брыстоль - Фігтар F2B” | 300 | 2-х месцавы, біплан | 2 – 3 | 130 | 192 | 6100 | | | 1-я |
| 1917 | “Хальбер - штадт – CL2” | 160/185 | біплан | 3 | 50 | 165 | 5000 | 2,3–3,3 | 450–500 | 8-я |
| 1917 | LWG C6 | 160 | 2-х месцавы, біплан | 2 | 90 | 158 | 5000 | 2.8 | | 12-я |
| 1917 | “Аэфаг – D3” | 160 | 1-а месцавы, біплан | 1 | | 175 | 5500 | | | 13-я |
| 1917 | “Роланд – CL2” | 185 | 2-х месцавы, біплан | 3 | | 175 | | 4,8 | | 8-я, 4-я, 11-я, |
| 1917 | “Сальмсан – 2 А2” | 260 | 2-х месцавы, біплан | 2 | 60 | 185 | 6250 | | | 1-я, 18-я |
| 1916 | “Спад - 7 С1” | 160 | 1-а месцавы, біплан | 1 | | 192 | 6000 | 5,4 | | 18-я |
| 1917 | “Спад – 13 С1” | 235 | 1-а месцавы, біплан | 2 | | 217 | 6800 | 7,6 | | 18-я |

**Звесткі аб лётным складзе польскіх эскадрылляў, што базаваліся на Лідскім аэрадроме ў час савецка-польскй вайны**

| Назва эскадрыллі | Лётны персанал | |
|---|---|---|
| | Усяго | Страчана |
| 1-ая выведная эскадр. | 8 | 2 |
| 4-ая выведная эскадр. | 7 | 5 |
| 8-ая выведная эскадр. | 7 | 3 |
| 11-ая выведная эскадр. | 6 | 0 |
| 12-ая выведная эскадр. | 12 | 8 |
| 13-ая эскадр. знішчальнікаў | 8 | 4 |
| 16-ая выведная эскадр. | 9 | 6 |
| 18-ая эскадр. знішчальнікаў (выведная) | 8 | 2 |

У часы адступлення Войска Польскага пад націскам “чырвоных” летам і ў наступленні палякаў на войскі Тухачэўскага восенню 1920 года на Лідскім аэрадроме непрацяглы час базаваліся рэшткі польскіх 1-ай, 8-ай, 12-ай, 16-ай, 18-ай выведных эскадрылляў і 13-й эскадрыллі знішчальнікаў.

Наступ Чырвонай Арміі распачаўся 7-га ліпеня 1920 года. Адступленне палякаў пад моцнымі ўдарамі “чырвоных” хутка ператварылася ў панічны ўцёк. *“Рэшткі разгромленых дывізій разам з уцекачамі нестрыманым валам пакаціліся на захад. Ужо 11 ліпеня “чырвоныя” ўзялі Менск, 14-га – Вільню.*

*У час гэтага зыходу многія польскія авіячасці былі практычна знішчаны. …Самалёты ламалі, палілі, кідалі на аэрадромах і чыгуначных платформах пры адных толькі чутках аб набліжэнні “чырвонай чумы”. Дастаткова сказаць, што ў чатырох эскадрыллях (1-й, 8-й, 11-й і 18-й) у канцы ліпеня застаўся толькі адзін аэраплан! Тое, што яшчэ можна было ўратаваць, тэрмінова адцягвалася да Варшавы.”*[3]

**1-ая выведная эскадрылля**, адступаючы памяняла аж сем аэрадромаў: Захацце, Докшыцы, Маладзечна, Дунілавічы, Вільня, Ліда, Парафіянава, трацячы ў баявых вылетах свае самалёты. Да Варшавы яна дабралася ўжо без самалётаў. Камандзірам эскадрыллі ў гэты час быў паручнік-пілот Аўгуст Домес (Domes). *“У час вайны 1919 – 1920 гг. залогі выканалі 203 баявыя вылеты, знаходзячыся ў паветры 474 гадзіны над тэрыторыяй, занятай супраціўнікам.”*[4]

Замірэнне паміж Польшчай і Расіяй эскадрылля сустрэла на аэрадроме ў Лідзе, адкуль позняй восенню яна была перакінута на аэрадром Парубанак ля Вільні. У студзені 1921 года 1-я эскадрылля была папоўнена персаналам і самалётамі 2-й выведнай эскадрыллі і ўвайшла ў склад 3-га авіяцыйнага палка (3 Pułku Lotniczego) з дыслакацыяй ў Познані.

**8-ая выведная эскадрылля** перадыслакавалася з

[3] *Кондратьев В., Хайрулин М. “Авиация гражданской войны”, Издательский дом “Техника – молодёжи”, Москва, 2000, с.86.*

[4] *Jerzy Pawlak „Pamięci lotników polskich 1918 -1945.”, Dom Wydawniczy Bellona, Warszawa, 1998, s.11.*

**Самалёты, якія стаялі на ўзбраенні польскіх эскадрылляў, што базаваліся на Лідскім аэрадроме ў час савецка-польскай вайны 1919 – 1920 гг.**



AEG-C4



"Н'юпар – 17С1"



"Брэге – 14 А2 (В2)"



"Фоккер–D7"



"Брыстоль - Фігтэр F2B"



"Хальберштадт – CL2"



LWG C6



"Оэфаг – D3"




"Роланд – CL2"



"Сальмсан– 2 А2"



"Спад - 7 С1"



**Група лётнага персаналу 1-й выведнай эскадрыллі ў Лідзе перад самалётам Брыстоль“Фігхтар”.**



**Самалёт DFW C5 12-й выведнай эскадрыллі на аэрадроме Кісялевічы пад Бабруйскам, вясна 1920 г.**

Парубанка ў Ліду з канчаткова зношаным паркам самалётаў. Камандзірам яе быў паручнік-пілот Аўгуст Менчак. Была далучана да 11-ай выведнай эскадрыллі, але захавала старую назву – 8-ая выведная эскадрылля. Усяго выканала 171 баявы вылет за 401 гадзіну палётнага часу. Пасля вайны ўвайшла ў склад 3-га авіяцыйнага палка.

У верасні 1920 года зноўку створаная ў Таруні **11-ая выведная эскадрылля** прыбыла на аэрадром у Ліду. Часткай камандаваў паручнік-пілот Антоні Сяліцкі (Sielicki). У Лідзе асабовы склад падраздзялення і сустрэў вестку пра падпісанне пагаднення аб міры паміж Польшчай і Савецкай Расіяй. Усяго за час вайны эскадрылля выканала 16 баявых вылетаў за 41 гадзіну лётнага часу.

**12-ая выведная эскадрылля** дзейнічала на карысць штаба 2-ой Арміі па чарзе з аэрадромаў Маркаўшчына (ля Беластока), Горадня. На Лідскае лётнішча перадыслакавалася 2 кастрычніка 1920 г. Пасля заканчэння баявых дзеянняў была перакінута на аэрадром Віланаў ля Варшавы і ўвайшла ў склад 1-га авіяцыйнага палка (1 Pułku Lotniczego). Камандзірам эскадрыллі быў паручнік-пілот Уладзіслаў Храмец (Chramiec). За час баявых дзеянняў пілоты падраздзялення выканалі 515 баявых вылетаў, прабыўшы ў паветры 756 гадзін.

**13-я эскадрылля знішчальнікаў** вясной-летам 1920 г. таксама дзейнічала на карысць штаба 2-ой арміі. Памяняла пры гэтым тры аэрадромы: Плоцк, Беласток і Горадня. На аэрадром Ліда пераляцела разам з 12-ай эскадрылляй 2 кастрычніка 1920 г, дзе і сустрэла замірэнне. У гэты час яе камандзірам быў паручнік-пілот Эрвід Норвід-Кудла (Norwid-Kudło). Пілоты эскадрыллі выканалі 574 баявыя вылеты за 793 гадзіны лёту, знішчыўшы 2 самалёты ворага.

**16-я выведная эскадрылля** ў жніўні 1920 года атрымала на ўзбраенне самалёты “Брэге”. Прымаючы ўдзел у наступленні польскіх сіл, дзейнічала з аэрадромаў Беласток і Горадня. *“У кастрычніку залогі 16-ай эскадрыллі здзейснілі пасадку ў Лідзе, куды затым прыбала застаўшаяся частка персаналу. Тут эскадрылля была прыдадзена войскам генерала Люцыяна Жаліго ўскага (Żeligowskiego). Заняўшы Вільню, ён стварыў на некаторы час „Wojsko Litwy Środkowej”, якому належалала 16-я эскадрылля, дыслакуючыся ў той час на аэрадроме Парубанак каля Вільні. Залогі з Парубанка выканалі некалькі выведных і бамбардзіровачных палётаў...”*[5] Усяго ў час ваенных дзеянняў пілоты эскадрыллі выканалі 117 баявых вылетаў на працягу 375 гадзін.

**18-ая эскадрылля знішчальнікаў (выведная)** (18 Eskadra Myśliwska (Wywiadowcza)) уваходзіла ў склад 4-га авіяцыйнага дывізіёна. У выніку баявых дзеянняў вясной і летам 1920 г. была змушана памяняць 5 аэрадромаў (Маладзечна, Дунілавічы, Круляўшчызна, Парафіянава і Докшыцы) і страціла шмат адзінак тэхнікі. На аэрадром Ліда прыбыла толькі адным самалётам і толькі з вялікім нацягам магла лічыцца эскадрылляй. Была знята з фронту і адпраўлена спачатку ў Быдгашч, а затым у Торунь з мэтай папаўнення. За час савецка-польскай вайны ў эскадрыллі было выканана 38 баявых вылетаў за 86 палётных гадзін.

***Ці былі на Лідскім аэрадроме ў часы савецка-польскай вайны самалёты “чырвоных”?***

Адназначна на гэта пытанне адказаць немагчыма, бо наўпроставых звестак аб дыслакацыі ў Лідзе савецкіх авіяцыйных падраздзяленняў пакуль не знойдзена. Але ёсць дадзеныя аб дыслакацыі ў Горадні ў ліпені 1920 года 20-га выведнага авіяцыйнага аддзела. З 28 ліпеня 4-ы дывізіён знішчальнікаў, які раней уваходзіў у склад эскадрыллі Шырынкіна, дыслакаваўся непрацяглы час у Баранавічах. Магчыма адзін з гэтых аддзелаў і здзейсніў пасадку на

[5] *Jerzy Pawlak „Polskie eskadry w latach 1918 -1939.”, Wydawnictwa Komunikacji i Łączności, Warszawa, 1989, s.114.*



**Лідскі вайсковы аэрадром. 1920 год.** *(Здымак з асабістага архіву З. Харытанюка.)*
**Лічбамі пазначаны: 1- лётнае поле памерам 1400 х 600 м** *(бачны адзін узляцеўшы польскі самалёт і два на ўзлёце)*; **2 - стаянка самалётаў; 3, 5 - будаваныя ангары; 4 - дыспетчарская; 6 - дзейныя ангары; 7, 9 - рамонтныя майстэрні; 8 - чыгунка; 10 - рампа; 11 - двухпавярховы будынак казармаў.**
***(Здымак зроблены з вайсковага самалёта).***



**Персанал 13-й і 16-й эскадрылляў каля самалётаў Брэге -14А2 падчас бітвы над Нёманам у верасні 1920 г.**

аэрадроме ў Лідзе, перасоўваючыся за фронтам. Іншыя аддзелы "чырвоных" з-за ваеннай блытаніны і нездавальняльнай працы чыгункі засталіся ў глыбокім тыле, не паспяваючы за фронтам, што імкліва рухаўся. У жніўні савецкія часткі падчас наступу засталіся без падтрымкі авіяцыі. Не праводзіліся над пярэднім краем супраціўніка нават выведныя палёты. Усё гэта самым дрэнным чынам адбілася на стане спраў "чырвоных". 16 жніўня нечакана распачаўся наступ арміі Пілсудскага. У жніўні-верасні 1920 года вайсковая авіяцыя краіны атрымала ад саюзнікаў 105 новых самалётаў. Польскі контрвыт падтрымалі самалёты 12 новых эскадрылляў.

Ужо ў мірны час у траўні 1921 года ў Варшаве быў створаны 1-ы авіяцыйны полк. *"У склад палка ўвайшлі тры дывізіёны па дзве эскадрыллі: І-ы дывізіён выведны, ІІІ-ы дывізіён знішчальніцкі і ІІ-і дывізіён выведны, што складаўся з 3-яй эскадрыллі, якая стаяла ў Вільні і* ***8-ай – у Лідзе****."*[6] Эскадрылляй камандаваў капітан-пілот Артур Скакоўскі (Skokowski). Такое размяшчэнне падраздзяленняў было выклікана недахопам месца на Макатоўскім лётнішчы ў Варшаве. Але як паказаў час, раскіданымі часткамі было дрэнна кіраваць, што не лепшым чынам адбілася на вывучцы і кансалідацыі лётнага складу палка. Таму ў траўні 1922 года 8-я эскадрылля была перададзена 2-му авіяцыйнаму палку з дыслакацыяй у Кракаве.

## Біяграфічныя звесткі:

**Домес** (Domes) **Ламберт Аўгустын** (? - ?).

Падчас 1-й сусветнай вайны кіраваў навучальна-знішчальнай ротай Flik 43 J, якая была ўзброена самалётамі "Поніхс D.I" і "Альбатрос D.III". Пасля вайны камандаваў **1-й выведнай эскадрылляй**. Затым быў намеснікам камандзіра 2-а авіяцыйнага палка (2 Pulk Lotniczy), пасля камандаваў 6-ым авіяцыйным палкам (6 Pulk Lotniczy).

*(Працяг у наступным нумары.)*

[6] *Kazimierz Sławiński " Dzieje polskich skrzydel.", Wydawnictwo Interpress – Warszawa, 1974, s.31.*

*Мікола Дзікевіч*

# ДЗ І Т Р Ы К І

## згукі заснуўшай цывілізацыі

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

Трэці перыяд: 1938 – верасень 1939 года.
Праца на хутары.

Два даваенныя гады згадваюць, як самыя лепшыя часы ў жыцці на хутарах. Не помню, каб хто з сяльчан выказваў незадавальненне хутарызацыяй. Вольнага часу стала больш. Працавалі менш, але, як кажуць цяпер, прадукцыйна. Людзі ажылі, павесялелі, працавалі з ахвотай і асалодай. Змяніўся рытм працы. Не патрэбна было везці гной за некалькі кіламетраў, звозіць адтуль зжатае і скошанае. Поле было побач, толькі ў некалькі гаспадароў сенажыць знаходзілася воддаль. Нашы вясковыя палеткі і сенажаці нейк сама прырода размеркавала для лепшай хутарызацыі. З’явілася больш грошай. Забылі пра хадакі і трэпы. У саматканае апраналіся паўсядзённа на працу, па святах і ў госці, цэркву адзявалі лепшае, пашытае з “крамнага”.

Апрануўшы белую палатняную кашулю, вясной па святах гаспадары абыходзілі свае ўладанні. Рознакаляровымі з няроўнымі і living рознымі фігурацыямі выглядалі палеткі падчас пераходу на хутары. Яшчэ праглядаліся загоны былых гаспадароў, ды і ўраджай быў нераўнамерным. Хапала і пырніку ад дрэнай папярэдняй апрацоўкі зямлі. Можна сказаць, што хутарызацыя дала магчымасць любой глебе даць добры ўраджай, калі да яе адносіцца па-гаспадарску.

Добра гэта было бачна на вырошчванні бульбы. Першы раз абганялі чым глыбей, але вужэй. Гэта для таго, як мне гаварылі, каб паветра і першы дождж трапляў адразу пад карэнні. Другі раз абганялі, раставіўшы пашырэй, “крылы” ў плужка. Часамі абганялі трэці раз. Былі такія часы, што даводзілася бульбоўнік ламаць бараной, каб не “буяў”.

Пра працу на зямлі я расказваў раней. Не змянілася яна і на хутары. Змянілася дачыненне да суседзяў. Ранейшыя сувязі распаліся. Бліжэй за вярсту мае равеснікі не жылі. Маміныя сяброўкі жылі за 1,5 і больш кіламетраў. Давялося ўстаўлёваць новыя адносіны. У некаторых суседзяў сардэчнымі яны так і не склаліся. Жанчыны радзей збіраліся на “пасядушкі”: далёка ісці да ранейшай сяброўкі, асабліва зімою; цяперашнія – не па гадах, або раней пасварыліся і яшчэ адна другой не прабачыла.

Мы падлеткі ў вольную часіну збіраліся пагуляць. У камандных гульнях волейбол і “Два капітаны”, дзе патрэбна большая колькасць удзельнікаў, не сустракаліся. У нас з’явіліся малыя гумовыя мячыкі для забаваў. Гульня, якая не патрабуе вялікай пляцоўкі, а толькі гладкая сцяна і цёплае ды бязветранае месца каля будынка. Кідаючы мяч уверх, каб ён стукнуўся аб сцяну, патрэбна выканаць нейкае практыкаванне рукамі, нагамі ці тулавам і затым злавіць мяч.

Падчас вучобы ў Ганчарскай школе на той час я добра навучыўся гуляць у волейбол і “Два капітаны” (“Dwa ognia”). Волейбол стаў маёй любімай гульнёй на ўсё жыццё.

Дзяўчаты вельмі любілі гуляць у каменьчыкі. Каменьчыкі падбіралі памерамі чуць большымі за арэхі. Клалі падсцілку на зямлю. Каменьчык ці затым два і больш падкідвалі ўверх: той жа рукой хуценька бралі каменьчык ці затым больш і падхоплівалі той, што падаў. У гульні было шмат розных варыянтаў камбінацый з каменьчыкамі. Гульня вялася на ачкі.

Два перадваенныя гады сярэдні брат Саня служыў у Польскай арміі. Мне даводзілася шмат працаваць на гаспадарцы. Дапамагаў старэйшаму брату Ціхану. На той час я мог выконваць усе гаспадарскія справы: араць, касіць, сеяць, малаціць і іншае. Усё гэта спатрэбілася падчас вайны.

Аднаго разу вецер сарваў канёк са страхі на хляве. Гэта быў першы мой самастойны рамонт. Канёк выклаў высахшым пырнікам і замацаваў яго жэрдачкамі, збітымі накрыж.

А яшчэ навучыўся вязаць шчоткі для адзення і абутку. У падрыхтаванай дошцы пракручваў дзіркі у якія пучкі з шэрсці конскага хваста або са свінні зацягваў дротам ці моцнай дратвай. Затым нажніцамі раўняў жэрсце, а дрот і дратву пакрываў фанерай, прыбіўшы цвічкамі.

Не помню якім годам 1937-ым ці 1938-ым, бацюшка спрабаваў выкладаць рэлігію на польскай мове. Яму так загадалі. Нічога з гэтага не атрымалася, бо мы ўсе дружна гаварылі “па-простаму”, г. зн. па-беларуску.

Тады прымусілі бацюшку маліцца ў дзень незалежнасці Польшчы 11 лістапада. Нас праваслаўных калонай накіроўвалі ў царкву. Знаходзілася яна за 100 м. ад затым спаленай у час вайны “чырвонымі” партызанамі, школы. З сялян нікога там не было – толькі дзяк. Бацюшка маліўся, не звяртаючы ўвагі на нас. Мы вялі сябе не лепшым чынам. У школе перад прыходам у царкву коратка тлумачылі аб мэце наведвання яе, а бацюшка зусім нічога пра гэта не гаварыў.

Асаблівым у школе быў дзень 19 сакавіка. Ніхто не хацеў заставацца дома. Справа ў тым, што наш дырэктар зваўся Ёзафам. Мы заўсёды віншавалі яго ў гэты дзень, за што прыносіў ён каляровы мяшок цукерак. Хапала для ўсіх вучняў. Настаўнікі ў той дзень былі добрымі, не каралі нас, не апытвалі – сапраўднае свята. Цікавае параўнанне: цяперашнія бедныя вучні збіраюць грошы на падарунак не вельмі забяспечнаму настаўніку.

Вучоба ў Ганчарскай школе зблізіла мяне, калі так можна сказаць, з палітыкай. Стаў прыслухоўвацца ўважліва да размоў старэйшых, чуць ад іх розныя погляды на жыццё і дзейнасць улад у СССР. Чуткі да старэйшых даходзілі рознымі шляхамі. Адны ўпотайкі слухалі весткі праз дэтэктарныя прыёмнікі, другія – ад членаў КПЗБ і іх агітатараў, з падпольнай літаратуры, чытаючы польскія газеты (у вёсцы не помню , каб хто іх выпісваў).

Было гэта ў 1937 ці 1938 гадах. Мяне папрасілі прачытаць у польскай газеце пра расстраляных савецкіх вайсковых начальніках. Былі змешчаны фатаграфіі на ўсю першую старонку газеты, дзесці чалавек 50. Сумнае ўражанне несла тая вестка. Па рознаму ставіліся сяльчане да дзеянняў НКУС: не ўсё так добра ў свабоднай суседкі? Усе сумненні сяляне выказвалі асцярожна, ды так, каб сена было цэлае і козы здаровыя.

У падручніках па геаграфіі, надруаваных гадоў таму пяць назад, сціпла расказвалася аб жыцці ў СССР: арганізавалі калгасы, працуюць супольна, аруць трактарамі і збіраюць ураджай камбайнамі. Змешчаны былі малюнкі тых трактароў і камбайнаў. Дарэчы, такімі я ўбачыў іх у калгасе Леніна, што быў арганізаваны ў Ганчарах у 1940 годзе. Паслядоўна апавядалася аб жыцці ў другіх краінах свету. Не замоўчвалі ні дрэнныя ці добрыя бакі гаспадаркі, побыту, культуры і т. п.

У школе асабліва не вялося патрыятычнае выхаванне, якое на нас звалілася пазней, пры савецкай уладзе. Але нейкі час палякі радаваліся, калі пры раздзеле Чэхаславакіі ім дастаўся кавалак зямлі ад яе. Радасць перадалася і ў школу. Настаўнікі нейкі час не пераставалі на ўроках пра гэта гаварыць. Часам паўтаралі прымаўку “не аддамо ні гузіка” на манер “ни пяди земли”. Чым гэта скончылася ў 1939 і 1941 гадах нам добра вядома.

Тыя зімы, калі наведваў Ганчарскую школу, былі снежнымі. Пакуль пратопчуць дарогі я некалькі дзён заставаўся начаваць у далёкіх радзічаў Дзікевіча, Будзевіча, Гука і Даўлюда. Дзядзька Даўлюд Сцяпан – вельмі цікавы чалавек. Быў добрым расказчыкам з доляй гумару. Вельмі цікава было яго слухаць. Падчас вайны 1939 года трапіў у палон разам з Янкам Брылём, сябравалі. Пасля вайны Янка гасцяваў у яго.

Паслалі мне спаць на лаве паміж сталом і сцяною. Раніцай дзядзька Сцяпан, нацягнуўшы на вушы слухаўкі, круціў за ручку дэтэктарнага прыёмніка і лавіў хвалі. Тут паклікала яго жонка. Я наклаў на вушы слухаўкі і прыслухаўся. Першы раз у жыцці пачуў голас “з-за ўзгорка”. Якраз расхвальвалі калгаснае жыццё, ды спявалі беларускія народныя песні. Нядоўга радаваўся, бо атрымаў па карку і справядлівае навучанне, каб не браў у рукі слухаўкі і нікому не гаварыў. Я так спалохаўся, што праз гадоў пяць толькі рассказаў. Дэтэктарных прыёмнікаў на вёсках было па два-тры. Непакой з кожным днём узмацняўся. Разрозненныя весткі паступалі з усходу. На захадзе Германія пачала пашыраць свае межы. Не гледзячы ні на што, на вёсцы працавалі. Зямлі патрэбныя былі рукі. Людзі радаваліся за лепшае жыццё і турбаваліся ад жахлівых вестак.

Скончыў Ганчарскую сямігадовую школу і паўстала пытанне пра будычы мой лёс. Каб вальней было на зямлі старэйшым братам, мяне вырашылі адаслаць на вучобу. Затрымаліся на Лідскай гандлёвай гімназіі: бліжэй да вёскі, а яшчэ была магчымасць вучыцца бясплатна.

Не зусім ўдала атрымалася з уступнымі экзаменамі. У гміне атрымаў даведку аб сямейным становішчы, якую павінен быў прадставіць у канцылярыю гімназіі 1 верасня. Усе патрэбныя дакументы завёз раней і мне выдалі павестку на які дзень з’явіцца на экзамены. Мама папрасіла дзядзьку Сцяпана, каб паехаў са мной. Раненька на досвітку з мамай пайшоў у Ганчары. Мог бы пайсці сам, але мама хацела пасадзіць нас на аўтобус Наваградак-Ліда. Здарылася, што аўтобус спазніўся. Прыйшлі ў гімназію, калі поўным ходам ішоў пісьмовы экзамен па польскай мове.

У спартыўна-глядзельнай зале са сцэнай, дзе зараз ДзЮСШ, стаялі двухместныя сталы. Наперадзе – некалькі радоў аднамесных з прыстаўленымі да іх крэсламі. Дзядзька Сцёпа штосьці пагаварыў папольску, як ён умеў з беларускай ветлівасцю, і мяне дапусцілі да экзаменаў: няхай піша, усяроўна не справіцца з заданнем (так мне падумалася). Пасадзілі за першы стол, далі ручку з пяром, чарніла і два вялікія складныя аркушы. На адным быў штамп гімназіі, другі прызначаўся для чарнавіка.

Ці я не пачуў, ці растлумачылі дрэнна, прачытаўшы тэмы сачыненняў, напісаныя на дошцы, што стаяла на сцэне, пачаў адказваць на ўсе чатыры. Настаўнік адышоў ад мяне. Вакол злева, справа, ззаду – сталы пустыя. Нічога не заставалася, як пачынаць пісаць. Спачатку пісаў чарнавік па першай тэме па кнізе Генрыка Сянкевіча “Агнём і мячом”. Перапісаўшы на чыставік, пачаў раскрываць астатнія тэмы. Час прыспешваў-пісаў без чарнавіка. Настаўнік польскай мовы нашай школы рэкамендаваў не ўжываць у сачыненнях тых слоў, якіх не ведаеш як правільна напісаць тады, калі іх можна замяніць падобнымі па змету ці сэнсу.

Хваляваўся ноч і дзень, пакуль даведаўся вынік. Радасць была вялікаю, бо атрымаў “добра” – першы поспех на шляху ў гімназію. Цікава адбываліся наступныя вусныя экзамены. Дапушчаныя праходзілі іх за адзін дзень і без выцягвання білетаў. У тым жа зале і ў прыбудаваных класах (зараз разбураных) стаялі сталы з таблічкамі прадметаў: мова, матэматыка, гісторыя, геаграфія і прырода. Спярша сакратар паведамляў, па якіх прадметах звярнуцца да настаўнікаў. Пачыналі з польскай мовы. Настаўнік каментаваў сачыненне і здадаваў патанні. За добрыя і выдатныя адзнакі сямігадовай школы вызвалялі ад далейшых экзаменаў. Настаўнік пасміяўся і адначасова пахваліў: добра раскрыў першую тэму, а наступныя коратка і правільна. Як вядома, па іх не патрэбна было весці аповяд. На гэтым экзамен закончыўся і я застаўся чакаць выніку да заўтра.

З хваляваннем углядаўся ў два надрукаваныя спісы залічаных у гімназію. Толькі за трэцім разам прачытаў сваё прозвішча. Па-вясковаму звалі нас

Дзякевічамі, а тут напісана Дзікевіч. Я не глядзеў далей дзвюх літар у слове. Мне выдалі часовае пасведчанне гімназіста, у якім значылася аб пачатку заняткаў.

Вучыцца не давялося. Раніцай 1 верасня 1939 года на прыпынку Саламянка пачуў аб вайне. Аўтобуса на Ліду не было – я вярнуўся дадому. У абед старэйшы брат Ціхан атрымаў павестку з'явіцца ў горад Ліду. Адтуль яго адправілі ў Вільню, дзе раней служыў у артылерыі. 2 верасня поездам праз Горадню і Варшаву павезлі пад граніцу з Германіяй.

Ліда гарэла. Пра гімназію забылася. На гаспадарцы непачаты край работ. Сярэдні брат Саня служыў у марской пяхоце. На другі дзень вайны каля Гдыні трапіў у палон. Да халадоў знаходзіліся на тэрыторыі Польшчы. Агарадзілі свой лагер калючым дротам, выкапалі ямы, накідалі туды саломы і так спалі. Пазней беларусаў адабралі і адправілі працаваць у багатых гаспадароў.

Сабраліся ў гаспадара чатыры палонныя. Сярод іх апынуўся Запольскі Саша з вёскі Ганцавічы. Позняй восенню 1941 года адпусцілі наведаць матку і сясцёр. Саша перадаў прывітанне ад брата, расказаў, што можна было, аб жыцці палонных беларусаў у Намеччыне. Пазней рэдка атрымлівалі паштоўкі ад брата. Затым ён гаварыў, што у 1940-1941 гадах палонныя хадзілі па нядзелях у бліжэйшыя вёскі на танцы. Узмацнілі дысцыпліну ў 1942 годзе, калі немцы пацярпелі няўдачу пад Сталінградам: палонных з флігеля гаспадар перавёў у свой дом. Яны пачалі харчавацца разам. А ўсё таму, што пад Сталінградам загінулі яго два сыны. З 1945 года брат даглядаў кароў у дапаможнай гаспадарцы, прыпісанай да вайсковай часткі. Вярнуўся дамоў вясною 1946 года.

У такіх умовах мама не справілася б з гаспадаркай. Я застаўся дома. Пакуль браты ваявалі, змалаціў жыта на насенне, згараў поле і засеяў. Гэта была мая першая самастойная праца на гаспадарцы, затым выкапалі бульбу. Дзесьці 19-20 верасня вярнуўся з вайны брат Ціхан, пераапрануты ў цывільнае.

Калі ў 1941 годзе немцы захапілі нашу тэрыторыю, праз некаторы час пачалі прыходздіць паштоўкі з Германіі ад палонных польскіх салдатаў. Аб'явіўся Сівіцкі Мікалай Сцяпанавіч. А вось пра Хрышчановіча Аляксандра ў 1945 годзе і пазней не было ніякіх вестак. Загінуў на польска-нямецкай вайне. Пра брата Саню пісаў раней.

Першыя дзесяць дзён вайны палякі фанабэрыліся, гаварылі, што не аддамо ні "гузіка", вось-вось нам дапаможа Англія. Па вёсах вывесілі плакаты ў такім ганарлівым тоне. Фанабэрыстасць і ганарлівасць паступова пачала спадаць: гарыць Ліда, у небе лятаюць толькі немецкія самалёты. Начыгунку, станцыю Нёман і мост на рацэ скінулі па дзве бомбы. Шкоды вялікай яны не нарабілі.

Напэўна 17-18 верасня два польскія двухкрылыя самалёты праляцелі над нашай вёскай у бок Баранавіч. Ляцелі так нізка, што мы бачылі лётчыкаў. Напэўна пераляталі ў Румынію ці Чэхаславакію

Вёска заціхла, як быццам вымерла. Наступіў тыдзень чакання невядомага і новых перамен, радаснага і трываожнога, цікавага, сумнага і сумніўнага.

**Чацвёрты перыяд:**
**верасень 1939 года – чэрвень 1941 года.**
**"Першыя саветы".**

Прадаўжаючы аповяд пра вёску, успомніў, што гэты перыяд сяляне называлі "пры першых або тых саветах", бо былі і "другія" з 1944 года па 1951 год. Вёска затым перажыла сталінскую калектывізацыю, хрушчоўскую адлігу, брэжнеўскі развіты сацыялізм, гарбачоўскую перабудову, паварот да капіталізму і "стабілізец" пры лукашэнскаўскім рынычным сацыялізма.

Агітатары, палітработнікі Чырвонай Арміі праводзячы пабудову сацыялізму на вёсцы, вельмі горача заклікалі вяскоўцаў паверыць ім: самае справядлівае вучэнне Леніна-Сталіна (баяліся адступіцца ад іх слоў). Расказы поўніліся цытатамі з вучэння праваўдыроў ды пастановаў партыі і ўраду. Не тымі сталі "другія саветы": калі гаварылі адно, думалі другое, а рабілі трэцяе, прайшоўшы паў-Еўропы, пабачыўшы "загніўшы капіталізм". У гутарках за сталом, пры асабістых сустрэчах маглі адступіцца ад пастулатаў, выказаць супрацьлеглую думку.

Настала раніца 17 верасня 1939 года. Па хутарах панеслася чутка, што ідуць вызваляць нас бальшавікі. Што за яны? Якія? Мы чулі пры Польшчы заўсёды "бальшэвік", калі хто выказваў незадаволенасць існым парадкам. Назаўтра хтосьці панёс па вёсцы заклік, каб ішлі сустракаць Чырвоную Армію – вызваліцельніцу ў вёску Ганчары. Такіх не знайшлося. Нас пяць падлеткаў пасля абеду не вытрымала, і пабеглі ў Ганчары на сустрэчу. Па дарозе абагналі шэсць-сем селян з вёскі Супрунаўшчыны з чырвоным сцягам, што ішлі на сустрэчу.

Папярок шашы змайстравана была арка, абвітая верасам з прыбітымі галінкамі бярозы. Уверсе размясцілі плакат. Змест не помню, але адно слова засталося ў памяці: "освободителям". Вакол аркі тоўпілася шмат людзей.

Мы не дачакаліся асноўных частак арміі. Сталі збірацца дамоў. І тут пачулася: "Едзе!" Не магу сказаць з якога боку (Агароднікаў ці Даржоў) пад'ехаў салдат. Быў напэўна перадавы дазор. Брава саскочыў з каня і спытаў, ці няма тут паблізу польскіх салдат. Папрасіў напіцца вады. Мужчыны яго абступілі, штось гаварылі, пыталіся. Мы заспінамі нічога не бачылі і не чулі. А пабачыць блізка так хацелася! Вось ён сядае ў сядло, конь затрапятаў. І тут мужчына пытае, як будзем ваяваць: там пад Варшавай нямецкія танкі. Быў гэта казак з чырвонымі лампасамі і шапкай з чырвоным аколышкам: выхваціў шашку, памахаў ёю, даў зразумець, што мы не лыкам шытыя, адолеем з гэтай зброяй і паімчаў далей. Так мы сустрэлі першага ваяўніка-вызваліцеля! Пачалося новае жыццё пры "тых саветах".

Праз нейкі час я атрымаў ліст з гімназіі. У ім паведамлялі, каб прыехаў на заняткі. Дзесьці ў кастрычніку пачалася вучоба па старой польскай праграме, толькі замест польскай мовы ўвялі беларускую. Аб'явіўся яшчэ адзін дырэктар. Ён быў у ботах і гімнасцёрцы з папругаю: два антыподы. Пазней змяніў свой імідж, як цяпер гаворыцца. З

першых дзён 1940 года ў маім жыцці былі самыя доўгія зімнія канікулы – 22 дні. За гэты час настаўнікі прайшлі падрыхтоўчыя курсы. Гімназію назвалі сярэдняя школай № 2. Тых, хто закончыў чацвёрты, пяты, шосты і сёмы класы польскай школы, перавялі ў пяты клас. Адпаведна, хто закончыў 1 клас гімназіі – у шосты, 2 клас – у сёмы і г. д. І так не стаў я гандляром! Давялося пачынаць навуку па новым вітку. Мог бы пайсці ў Ганчарскую школу, але там працавалі па новай праграме з кастрычніка – тады адставаў бы па вучобе.

Не ўбачыў шмат гімназістаў, асабліва хто па ўзросту намнога старэйшыя за нас. Ім было брыдка сядзець з "чатырохкласнікамі". Не сталі працаваць многія настаўнікі. Цікава было слухаць, як яны загаварылі па-беларуску. Вось бы так цяпер нашыя паважаныя начальнікі самыя "высокія", а за імі і "ніжэйшыя!"

Шосты клас закончыў у 1941 годзе ў Ганчарскай школе. Тут працавалі амаль усе вядомыя настаўнікі. Яны вельмі добра размаўлялі на беларускай мове, ім не патрэбна было на першым часе падказваць, як у Лідзе, тае ці другое правільнае слова.

Што запомнілася падчас вучобы ў пятым класе ў Лідзе?

У наш клас паступалі дзеці вайсковых, цывільных службоўцаў і працаўнікоў заводаў ды чыгункі. Нам вельмі цікава было ведаць, як жывуць, працуюць людзі ва Усходняй Беларусі. Адказвалі яны неахвотна. Апрануты былі сціпла. Нас здзіўлялі парусінавыя чаравікі і туфлі. Прыватныя крамы працавалі паранейшаму. У бацькоў былі чырвонцы і з цягам часу "ўсходнікі" апраналіся лепш за нас.

Яшчэ ноччу займалі чэргі да крамаў. Раніцай едучы з Расlякоў па цяперашняй вуліцы Таўлая, затым па Савецкай да гімназіі і пазней па вуліцы Кірава да школы №2 , што размяшчалася ў доме, дзе пасля вайны быў дом піянераў (захаваўся ён і зараз) наглядаў, як заўсёды сварыліся, таўкліся, чуць не біліся ў чэргах па адзенне і абутак.

Выклікала ў нас здзіўленне і незадавальнене фіялетавае чарніла замест чорнага, якім карысталіся раней. Пер'я чапляліся за паверхню сшытка, чарніла расплывалася, выступала з другога боку. Выцерці дрэнна напісанае не было ніякай магчымасці.

На вуглу вуліц Савецкай і Ленінскай, дзе знаходзіцца музычная навучальня, у кіёску купляў з першых нумароў газету "Уперад". Прачытваў яе і вазіў дадому. Стала любімай на ўсё жыццё. Чыталі яе і суседзі. Газета друкавалася выключна на беларускай мове, змяшчала цікавыя матэрыялы пра мінуўшчыну і цяперашні час, пра воінаў, рабочых і працаўнікоў вёскі. Працуючы ў Дзітрыкаўскай пачатковай школе, газету выкарыстоўваў, як дадатковы матэрыял для пазакласнага чытання ў першым і трэцім класах.

З выразак з газеты сабраў сем тамоў на ста і больш аркушах гістарычны матэрыял пра горад Ліду і Лідскі раён. Зараз раённая газета засмучае, калі возьмеш у рукі. Не таму, што стала напалавіну з рэкламамі, а таму, што напалавіну стала рускамоўнай. Я не супраць рускай мовы (у Лідзе друкуюцца газеты і на рускай мове). Дык можна трэцюю частку друкаваць па польскай мове. Палякі складаюць 35% насельніцтва горада і раёна.

Але вернемся ў 1939-1940 гады. У горад прыязджалі артысты, ансамблі і тэатральныя калектывы. Свае дасягненні яны дэманстравалі бясплатна. За час вучобы наведаў чыгуначны клуб, дзе выступіў Менскі лялечны тэатр. У кінатэатрах "Эра" і "Эдысон" слухаў адтуль жа струнны аркестр і канцэрт піяніста.

Па суседству каля школы на стадыёне займаліся фізкультурай. Вясной падчас заняткаў назіралі, як самалёты расстрэльвалі вялікі мяшок памерм з самалёт, прычэплены да "вядоўца". Было незразумелым, чаму цягалі мішэнь над горадам, куды ляцелі кулі? Самалёт вёў стральбу знізу і зверху, справа і злева. Можа гільзы не заражаны былі, пыталі: Ці гэта была імітацыя магутнасці авіяцыі?

На тым жа стадыёне бачылі, як коннікі "сяклі" лазу на поўным скаку. Ці спатрэбілася ім у вайне з немцамі будзёнаўская тактыка?

Па Савецкай вуліцы маршыравалі калонамі чырвонаармейцы. Людзі затрымліваліся, глядзелі і слухалі запявалаў, затым прыняў усіх разам са словамі "ни чем не победимая"

Кастрычніцкімі святамі 1939 года хадзілі на поле, дзе зараз вуліца Аляксандра Неўскага і гаражы, паглядзець на вайсковы парад, спачатку адбыўся невялікі мітынг: выступілі гарадскія прадстаўнікі і вайскоўцы. Затым адбыўся парад чырвонаармейцаў, праімчалі вершнікі і праехалі машыны з пушкамі. Іграў духавы вайсковы аркестр, але не адчувалася цвёрдага кроку. Бо мяккае поле – не брук ці асвальт. Напэўна камандзіры засталіся незадаволенымі.

Добра памятаю 1 траўня 1940 года: калонай прайшлі ад школы па вуліцах Кірава і Савецкай да замка. На Савецкай вуліцы супраць трыбуны пракрычалі тры разы: "Ура!"

У траўні 1940 года раніцай на Расляках чуўся характэрны шум шматлікіх трактароў, грукат колаў па бруку. Мы пабеглі да заняткаў на вугал Савецкай і Ленінскай. Там убачылі вялікую вайсковую калону калёсных зубчатых трактароў, якія цягнулі пушкі, гаўбіцы і мінамёты. За імі ішлі чырвонаармейцы: вельмі стомленыя, запыленыя, са скаткамі праз плячо і з абмоткамі на нагах. Каб лягчэй ісці, многія трымаліся за вяровачкі, прывязаныя да пушак. Па два салдаты сядзелі на пушках – перадыхалі. Прайшоўшы праз Ліду, за Астроўляй затрымаліся на адпачынак. Мы спазніліся на першы ўрок.

Пакуль вучыўся па новай праграме, жыццё на вёсцы віравала. Пачаў хадзіць прыгарадны цягнік, білеты патаннелі і я часценька прыяжджаў дамоў. Бачыў, наглядаў і прымаў удзел у пабудове шчаслівага жыцця. А яно і ўяўлялася нам такім! Агітатары, палітработнікі чырвонай Арміі па суботам і нядзелям сабіралі сходы сяльчан. Там расказвалі пра жыццё ў калгасах, гарадах, пра багаты заработак.

Восенню 1939 года пабачыў першы раз у жыцці гукавое кіно ў вёсцы Дроздава. Туды завезлі нас на "палутарцы". Дзесьці, дзе зараз магазін, быў расцягнуты паміж дзвюмя жэрдкамі вялізны экран. На ім дэманстравалі ваенны фільм. Зараз не помню яго назву. Цікава і страшна, калі на цябе рухаецца цягнік ці танк.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# НАЙБОЛЬШ ЗНАЧНЫЯ ГІСТАРЫЧНЫЯ ВЫДАННІ АПОШНЯГА ЧАСУ




**У выдавецтве “Наша будучыня”,**
**г. Вільня выйша кніга**
**“150 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі”.**
**Укладальнікі Зміцер Санько і Іван Саверчанка.**
**Наклад 3000 асобнікаў. 238 ст.**




**У выдавецтве “Беларусь”**
**г. Менск выйшла кніга**
**В. В. Калніна “Мірскі замак”**
**Наклад 3000 асобнікаў. 160 ст.**
**Выданне поўнаколернае.**




**У выдавецтве “Народная асвета”,**
**г. Менск выйшла кніга**
**Міколы Багадзяжа**
**“Сыны зямлі Беларускай”.**
**Наклад 2000 асобнікаў. 96 ст.**




**У выдавецтве “Беларусь”,**
**г. Менск выйшла кніга Вітаўта Чаропкі**
**“Уладары Вялікага Княства.**
**Наклад 3000 асобнікаў. 608 ст.**




**У выдавецтве “Беларусь”,**
**г. Менск выйшаў**
**“Статут Вялікага княства Літоўскага”**
**Наклад 2000 асобнікаў. 208 ст.**




**У друкарні “NEOGRAFIA”,**
**Martin, Slovakia**
**выйшла кніга**
**“Ілюстраваная гісторыя. Краіна Беларусь”**
**Укладальнікі:**
**пісьменнік Уладзімір Арлоў і**
**мастак Зміцер Герасімовіч.**
**Наклад 5000 асобнікаў. 320 ст.**



**Вялікі князь Гедзімін - заснавальнік Ліды. Макет помніка. Аўтар Вадзім Вераб'ёў. Гіпс.**
***Захоўваецца ў Лідскім гістарычна-мастацкім музеі.***